Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 19 (4614) 13 мая 2011 г.

## У нумары:



# Таварыш па вясне і песні

**Казімір КАМЕЙША**

## Сёння, 13 мая, вядомаму беларускаму лірыку Анатолю Сербантовічу споўнілася б 70 гадоў.



Анатоля Сербантовіча можна было пазнаць нават па хадзе, па яго кроках.

Яны нібыта падкрэслівалі заўсёдную ўзрушанасць натуры. Я памятаю па Каралішчавіцкім Доме творчасці, як гэтыя крокі не змаўкалі да самай раніцы. Было зразумела, што паэт так і не клаўся ў ложак, нават не здымаў чаравікаў, а ў хадзе ад стала да дзвярэй па вялікім крайнім пакоі дома нараджаўся верш. Назаўтра пасля сняданку ён запросіць у пакой і прачытае тыя самыя свежыя радкі. Адчувалася, што падабаюцца яны самому аўтару, а хацелася яшчэ пачуць і думку таварыша.

Неспакоем свяціўся заўсёды і твар паэта. А вочы часта загараліся нейкім асаблівым загадкавым агнём. Здаралася тое, напэўна, калі нешта нечаканае выбухала ў яго душы. Наогул, у камлюковатай постаці Анатоля Сербантовіча было шмат парывістага, узрыўнога, ці, як сам ён казаў, яршыстага. Гэта калі маляваць яго знешні партрэт. А ўсё патаемнае, унутранае трэба шукаць у вершах. Сёння, з адлегласці часу, можна нават здзівіцца, што ў паэзіі яго часта прамаўлялася сапраўды нешта прароцкае. Было яно і ў гэтых шчымлівых радках пра самотнага маладога спевака і недаспяваную песню:

*...А над песняю той*
*недапетай*
*Прагучала труба жураўля:*
*"Тых, з кім дзеліцца*
*неба сакрэтам,*
*Маладым забірае зямля".*

Пры жыцці неяк незаўважна для слыху прагучалі гэтыя радкі. А калі паэта не стала, вунь як трагічна яны прачыталіся.

Шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя... Быў час так званай "эстраднай паэзіі", вершы грымелі ў аўдыторыях, на стадыёнах і плошчах. А малады паэт настойліва шукаў сябе. Уплывы на пачатку творчасці былі вельмі адчувальныя. Можна было ўжо і тады здагадваццa, што творчае кумірства для А. Сербантовіча недзе вагаецца паміж імёнамі Сяргея Ясеніна, Паўла Васільева, Барыса Карнілава і Яўгена Еўтушэнкі. Крытыка назаве потым і іншыя імёны, можа нават зашмат імён. Я ж, ведаючы, як любіў паэт чытаць і цытаваць вышэйназваных аўтараў, схільны сцвярджаць, што душэўная ўзрушанасць была ў яго вершах ад Ясеніна і Васільева, а рыфмай ён больш абавязаны Еўтушэнку. Мабыць жа невыпадкова гэта апошняя акалічнасць вельмі здружыла паэта — і творча, і па-чалавечы — з Васілём Макарэвічам, якога захапляла творчая манера Еўтушэнкі. Чытачы газеты "Чырвоная змена" тых гадоў добра памятаюць сумесныя паэтычныя рэпартажы В. Макарэвіча і А. Сербантовіча, напісаныя густа, хлёстка і, галоўнае, аператыўна. Уласны ж почырк абодвух паэтаў выкрышталізоўваўся і фармаваўся як бы між іншым, проста на вачах.

З надыходам хрушчоўскай адлігі ў паэзію хлынула і доўгачаканае цяпло праўдзівасці. Кожнаму карцела сказаць нешта смялейшае, і сказаць як мага вастрэй. Тады яшчэ паэты не саромеліся чытаць адзін аднаму свае новыя вершы. З вуснаў Анатоля я ўпершыню пачуў яго "Пігмеяў", "Пацёмкінскія вёскі", "Манекенаў" і верш "Даносы", якія ўразілі і сваёй вобразнасцю, і праўдзівасцю. Вось як гучалі радкі апошняга:

*Даносы толькі пажаўцелі...*
*А хто пісаў іх —*
*Больш не рад.*
*О як жа зараз ён хацеў бы*
*Даносы ўзяць свае назад.*

*Ды час не той. Даносчык*
*з носам...*
*Ён, як зазубраны тапор.*
*І для яго*
*Яго ж даносы*
*Як справядлівы прыгавор!*

Адліга, на жаль, цягнулася нядоўга. А смеласць і бескампраміснасць у характары Анатоля Сербантовіча былі рысамі заўсёднымі.

Для таленту паэта толькі надыходзіла шчаслівая пара росквіту. Дрэва яго паэзіі, што так шчодра карэнілася і галінілася на роднай зямлі, аж перапаўнялі сокі жыцця. Творца, якому яшчэ не споўнілася і трыццаці, чакаў сваёй трэцяй кнігі. Перад гэтым былі "Азбука" і "Мінная поле". Як і ўсе паэты, ён любіў нечаканыя і кароткія назвы. Гэтую ён назваў "Пярсцёнак". Калі першая падкрэслівала азбучныя ісціны жыцця, то другая ўводзіла чытача ў свет складанасцей, якія абавязкова падсцерагаюць чалавека на яго жыццёвых дарогах. Ну а "Пярсцёнак" ці не сведчыў нейкую трывалую заручонасць з самім жыццём. Маленькі блішчасты пярсцёнак пад пяром паэта вырастаў у вялікае кола выпрабаванняў, турбот і неспадзяванак. Пісаліся і новыя творы. Але ўсе планы і задумы, якіх у Анатоля Сербантовіча было так многа, перакрэсліла нечаканая смерць. Гэта здарылася напярэдадні веснавога абуджэння, у канцы сакавіка 1970 года. "Памёр Толя Сербантовіч. Вестка сцебанула, нібы электрычны ток. Ніяк не хацелася верыць, ніяк не хацелася змірыцца", — напіша ў прадмове да пасмяротнай кнігі старэйшы таварыш, слынны паэт і зямляк Аляксей Пысін.

Дзе найбольш чэрпаў А. Сербантовіч тэмы сваіх вершаў, дык гэта ў падарожжах. З хваляваннем чытаем мы яго далёкаўсходнія і ўральскія вершы. Нечаканыя вобразы, свежасць успрымання ўбачанага і нейкая бунтоўная маладая няўрымслівасць — усё гэта прысутнічае ў падарожнай лірыцы А. Сербантовіча. Паэта прыцягвае "адкрыццё". Але, спазнаючы далёкую дзікую прыроду, ён перш за ўсё адкрывае і невядомага сябе. Але галоўнае, напэўна, праглядваецца ў адным з самых ранніх вершаў паэта:

*Я памыліўся.*
*Я не адмаўляюся,*
*Пакорліва схіляю галаву,*
*Але галоўнае не ў тым,*
*Што каюся,*
*А ў тым,*
*што непакорліва жыву.*

Вершы, паэмы, вянкі санетаў — на ўсё гэта знаходзіў час А. Сербантовіч. Незадоўга да смерці ў рэдакцыю часопіса "Маладосць" сам аўтар прынёс карэктуру вянка санетаў "Курганы". Сакратар часопіса У. Юрэвіч аж ахнуў — санеты былі амаль наноў перапісаны. А гэта сцверджанне таго, як настойліва працаваў паэт над словам.

Жыццё яго было імгненным, як росчырк каметы. Але след каметы застаўся — на зямлі і ў нашых сэрцах. Песня паэта, жывая і бадзёрая, часам смутная і трывожлівая, народжаная ля ціхай вёскі Ордаць на Магілёўшчыне, ідзе разам з намі па жыцці.

## Пункціры

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды заслужаным людзям краіны, прадстаўнікам розных прафесій. У спіску ўзнагароджаных 44 чалавекі. Сярод іх — артыстка Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Наталля Гайда, якой быў уручаны ордэн Францыска Скарыны. Ганаровае званне "Народны артыст Беларусі" нададзена кінарэжысёру Аляксандру Яфрэмаву. Ганаровае званне "Заслужаны работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь" — рэктару Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі Міхаілу Батуры.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расіі і Украіны Уладзіміра Бартко з 65-годдзем. "У Беларусі Ваша творчасць карыстаецца вялікім прызнаннем і глядацкай любоўю, садзейнічае развіццю дружбы і супрацоўніцтва нашых краін", — сказана ў віншаванні.

Першы беларуска-латышскі слоўнік прэзентаваны ў Даўгаўпілсе. У прэзентацыі прынялі ўдзел генконсул Беларусі, прадстаўнікі гарадской думы, а таксама беларускіх таварыстваў "Прамень" у Рызе і "Уздым" у Даўгаўпілсе.

Міжнародны фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы" праходзіць у Гомелі. У ім прымаюць удзел 13 калектываў з Беларусі, Расіі, Украіны, Малдовы. У рамках фестывалю — конкурс спектакляў паводле лепшых твораў славянскай драматургіі, а таксама — правядзенне "круглых сталоў" па праблемах сучаснага тэатра.

У Мінску праходзіць V Фестываль студэнцкага кіно і відэа "Кінагрань". У яго праграме — конкурс студэнцкіх фільмаў і аматарскага кіно маладых беларускіх рэжысёраў, творчыя сустрэчы з акцёрамі тэатра і кіно, майстар-класы вядомых беларускіх рэжысёраў.

Кансервацыю вежаў Навагрудскага замка плануецца завершыць у бліжэйшыя пяць гадоў. Яна пачнецца пасля правядзення гідралагічных, архітэктурных і інжынерных доследаў. У 2011—2015 гадах на гэтыя работы з рэспубліканскага і мясцовага бюджэтаў будзе выдаткавана пяць мільярдаў рублёў.

Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь падрыхтаваў экспазіцыю "Маё XX стагоддзе", прысвечаную 125-годдзю з дня нараджэння мастака-кераміста і першага дырэктара музея Мікалая Міхалапа. Выстаўка прадстаўляе яго як фатографа. Больш як 70 фотаздымкаў, зробленых Мікалаем Міхалапам, даюць магчымасць наведвальнікам пабачыць Мінск і іншыя гарады Беларусі такімі, якія яны былі ў 1910—1950 гадах.

У Гомельскай вобласці ўпершыню стартаваў фестываль творчасці дзяцей дашкольнага ўзросту пад назвай "Які прыгожы гэты свет!". Ва ўстановах дашкольнай адукацыі арганізуецца некалькі творчых акцый, асноўная мэта якіх — паказаць творчы патэнцыял выхаванцаў дашкольных устаноў.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Некалькі фактаў з жыцця «Купідонаў»

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Тое, што ў нашай краіне вось ужо колькі гадоў праводзіцца Рэспубліканскі конкурс на лепшы літаратурны твор года, і тое, што дыпламантамі гэтага конкурсу становяцца людзі, якія ствараюць сапраўды вартыя ўвагі кнігі, безумоўна ўзвышае прэстыж нашай краіны літаратурнай на постсавецкай прасторы. Саюз пісьменнікаў Беларусі штовесну абвяшчае гэты конкурс сярод сваіх сяброў, каб восенню, на Свяце беларускага пісьменства, урачыста ганараваць пераможцаў дыпломамі і статуэткамі-сімваламі — "Залатымі Купідонамі". Пра конкурс і ўмовы ўдзелу ў ім з намі гутарыць першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў.**

**— Генадзь Пятровіч, у Беларусі і за межамі яе праводзіцца нямала цікавых конкурсаў, у якіх могуць прыняць удзел нашы пісьменнікі. Але чамусьці ў літаратурным асяроддзі лічыцца, што Рэспубліканскі конкурс на лепшы твор года — самы галоўны. Ці не таму гэта, што абвяшчэнне яго вынікаў адбываецца падчас правядзення самага значнага і яркага літаратурнага свята Беларусі?**

— Конкурсы, вядома, бываюць розныя. Ёсць тэматычныя, жанравыя. Некаторыя — узростава абмежаваныя, маладзёвыя, напрыклад. Ёсць конкурсы толькі для рускамоўных пісьменнікаў, іншыя — для беларускамоўных. Рэспубліканскі конкурс на лепшы твор года — практычна без абмежаванняў. І заснавальнікі ў яго салідныя: тры нашыя міністэрствы — інфармацыі, культуры, адукацыі, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт, Саюз пісьменнікаў Беларусі. Перамога ў такім спаборніцтве — лепшае прызнанне прафесійнасці пісьменніка.

**— Пры ўсёй адкрытасці конкурсу кніга члена Саюза пісьменнікаў для таго, каб быць вылучанай на саісканне дыплома, мусіць прайсці некалькі этапаў абмеркаванняў. Што гэта за этапы?**

— Кнігі разглядаюцца на Саветах абласных аддзяленняў Саюза пісьменнікаў Беларусі і на Савеце Мінскага гарадскога аддзялення. Зрэшты, згодна з умовамі конкурсу, твор-прэдэнтэнт зусім не абавязкова павінен быць выдадзены кнігай. Гэта можа быць публікацыя ў рэспубліканскім літаратурна-мастацкім часопісе. Аўтарам твора можа выступаць як адзін чалавек, так і калектыў. Пасля таго, як рашэнне аб вылучэнні ў рэгіёнах прынята, творы дасылаюцца ў Праўленне Саюза. Тут кандыдатаў разглядаюць у секцыях па жанрах. Пасля разгляд твораў выносіцца на Прэзідыум Саюза пісьменікаў. І толькі потым — на журы Рэспубліканскага конкурсу.

**— Вядома, што ва ўмовы конкурсу былі ўнесены нейкія змены.**

— Была пашырана колькасць намінацый. Спачатку разглядаліся толькі творы ў галіне паэзіі, прозы, драматургіі, літаратурнай крытыкі і дзіцячай літаратуры. Пасля вырашылі вылучыць у асобныя намінацыі публіцыстыку, сатыру і гумар, дэтэктыў, паэзію песеннага жанру. І далучыць да разгляду літаратурны пераклад. Здаецца, цяпер увагай заснавальнікаў конкурсу ахоплены ўсе віды літаратурнай творчасці.

**— Нашы літаратары штогод выдаюць шмат паэтычных зборнікаў. Крыху менш, па-мойму, выходзіць кніг мастацкай прозы. Але ёсць такія намінацыі, па якіх вялікага конкурсу сярод прэтэндэнтаў не атрымаецца. Напрыклад, "Драматургія", "Сатыра і гумар". Ці можна пераможцу-паэта ставіць пасля гэтага на адзін узровень, скажам, з пераможцам-сатырыкам?**

— Гэтыя акалічнасці мы паспрабавалі ўлічыць. Па такіх намінацыях, як "Паэзія", "Проза", "Дзіцячая літаратура", прысуджаюцца тры месцы. А па астатніх, дзе кніг вылучаецца не так шмат, толькі адно — першае месца. І, між іншым, калі вартых твораў па згаданай тэматыцы за акрэслены перыяд не выходзіла, месца нагул можа быць не прысуджана. Кожны пераможца атрымлівае адпаведны дыплом і грашовыя прэміі (яны не такія вялікія, як, магчыма, нашы пісьменнікі заслугоўваюць, але, думаю, усё роўна любому творцу прыемна). А тыя, хто атрымоўвае першыя месцы, становяцца яшчэ і ўладальнікамі памятнага знака, статуэткі "Залаты Купідон".

**— Наколькі пісьменнік можа разлічваць на справядлівасць ацэнкі яго твора журы?**

— У журы запрашаюцца людзі кампетэнтныя, творцы з вопытам і іменем, прадстаўнікі міністэрстваў культуры, інфармацыі. Старшыня журы — намеснік міністра інфармацыі Ігар Лапцёнак. А Мікалай Іванавіч Чаргінец, між іншым, са складу журы сябе вывеў. Каб творцы не сумняваліся — старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі ніяк не ўплывае на вынікі конкурсу.

**— Некаторыя пісьменнікі з рэгіёнаў услых выказваюць свае сумненні ў непрадузятасці ацэнкі твораў журы. Ім падаецца, што рэгіянальныя аўтары недаацэнены, што значна лягчэй дабіцца перамогі сталічным аўтарам.**

— Скажам гэтак: у абласных аддзяленнях і пісьменнікаў на ўліку значна менш, чым у Мінскім гарадскім. Колькі вартых кніг за год выдадуць трыццаць чалавек? А трыста? Таму і атрымліваецца, што "Купідонаў" больш у мінчан. Але стараемся мы не крыўдзіць і "абласнікоў". Калі твор цудоўны — як жа тут яго прамінуць! Так што, шаноўныя калегі, пішыце высакаякасныя творы. Яны не застануцца незаўважанымі.

## Канферэнцыі

Ірына ТУЛУПАВА

# Каб засталося ў фондах…

**У Гомельскім палацава-паркавым ансамблі Румянцавых і Паскевічаў 17 — 18 мая адбудзецца І Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Музей і традыцыйная культура Беларусі". Прадбачыцца абмен досведам па такіх пытаннях, як захаванне, папулярызацыя, рэстаўрацыя і кансервацыя элементаў традыцыйнай культуры Беларусі.**

Адзін з лепшых музейных комплексаў краіны — Гомельскі палацава-паркавы ансамбль Румянцавых і Паскевічаў, адкрыты ў 1919 годзе як мастацка-гістарычны, — час ад часу дае магчымасць азнаёміцца з прадметамі з яго фондаў. Як своеасаблівая справаздача перад наведвальнікамі задумана і выстаўка новых музейных паступленняў 2010 года. Асаблівае месца адведзена матэрыялам, якія набылі статус музейных экспанатаў і перададзеныя ад насельніцтва. У першую чаргу і ў большасці гэта карціны мастакоў, якія яны пакідаюць пасля прэзентацыі выставак. Ёсць прадметы, якія дарылі гамяльчане са сваіх уласных збораў. Прыкладам, чатырохстворны і трохстворны складні, абразы, Евангелле. Веткаўскі і Добрушскі раёны, а таксама Гомель, у якім паводле звестак, жылі каля 10 тысяч стараабрадцаў, багатыя на такія знаходкі. Цяпер людзі самі прыходзяць з пажаданнем: каб прадметы засталіся ў фондах. Тут жа — паштоўкі з відарысамі палацава-паркавага ансамбля і горада Гомеля, фотаздымкі канца XIX — пачатку XX ст., прадметы побыту, выданні па гісторыі Беларусі.

— З дня адкрыцця ў палацы існуе некалькі пастаянных экспазіцый, — распавядае Ганна Кузьміч, загадчыца аддзела па зборы музейных матэрыялаў і экспазіцыйнай дзейнасці Гомельскага палацава-паркавага ансамбля. — Адрэстаўраваныя залы знаёмяць з жыццём першых уладальнікаў палаца, гісторыяй яго будаўніцтва і багатай гісторыяй горада.

Між іншым, гомельскі палац сведчыць пра першы вопыт стварэння загараднага дваранскага маёнтка, дзе цэнтральнае месца займае калонная зала. Аўтарам праекта мог быць вядомы архітэктар Іван Староў, які праславіўся будаўніцтвам Таўрычаскага палаца, Казанскага сабора і Аляксандра-Неўскай лаўры ў Санкт-Пецярбургу. Пасля смерці першага ўладальніка Пятра Аляксандравіча маёнтак перайшоў да яго сярэдняга сына Мікалая Пятровіча, чыё імя больш звязана з рэканструкцыяй горада. Пры ім быў створаны новы гарадскі цэнтр, разбіта вялікая па памерах цэнтральная плошча, раскінуты гасцінныя рады, пабудавана ратуша, з'явіліся прамыя вуліцы і на іх новыя каменныя пабудовы — аптэка, школа, бальніца, паляўнічы домік, побач — сад, парк для адпачынку.

Пасля бацькі і двух сыноў Румянцавых Мікалая і Сяргея палацам валодалі два пакаленні Паскевічаў. З таго часу захаваліся надзвычай багатыя інтэр'еры. У палацы ёсць більярдная, малы і вялікі кабінеты, у якіх, у прыватнасці, захоўваліся падарункі імператараў, фельдмаршалская зала, дзе размяшчаюся батальны жывапіс. Ёсць вялікая калекцыя ўсходніх прадметаў, — імі захапляліся Паскевічы.

Гісторыка-культурныя каштоўнасці, якія захаваліся да сённяшняга дня, досыць арганічныя для гэтага рэгіёна. У фондах музея — калекцыі прадметаў археалогіі і нумізматыкі, абразоў, старадрукаваных і рукапісных кніг, твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і жывапісу, этнаграфіі. У палацы для наведвання адкрыты Чырвоная вітальня, зала ўрачыстых прыёмаў з галерэяй партрэтаў выбітных асоб беларускай гісторыі, Белая вітальня, камерная канцэртная зала, экспазіцыі, у ліку якіх — "Старажытная гісторыя Гомельшчыны".

Цяпер палац Румянцавых-Паскевічаў практыкуе зменныя выстаўкі: тут сем выставачных залаў ды кабінет, дзе калісьці размяшчалася бібліятэка.

У кабінеце — кнігі, атрыманыя палацам у тым ліку і па абменным фондзе, выданні царкоўнага і свецкага характару, гістарычная літаратура. З калекцыі Паскевічаў, якая калісьці ўтрымлівала больш як 20 тысяч асобнікаў, большасць рарытэтаў захоўваецца ў Гомельскай абласной бібліятэцы. Але частка кніг ёсць і ў палацы, прыкладам, рукапіс "Гора ад розуму", які належаў Паскевічу; частка выданняў, якія дарылі ў перыяд з 2003 года беларусы з Масквы.



6 мая пайшла з жыцця пляменніца Янкі Купалы — нястомны, руплівы захавальнік спадчыны Песняра Ядвіга Юльянаўна Рамаhоўская. Ядвіга Юльянаўна, галоўны захавальнік фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, на працягу 26 гадоў збірала купалаўскую рукапісную спадчыну, дакументы, успаміны пра Песняра, прымала ўдзел у стварэнні экспазіцый і выставак у музеі і яго філіялах. Аўтар і рэцэнзент шматлікіх артыкулаў энцыклапедычнага даведніка "Янка Купала", буклетаў, артыкулаў у перыядычным друку, яна актыўна спрыяла выданню ўнікальнай кнігі аднаго верша "А хто там ідзе?". Карпатліва і старанна рабіла Ядвіга Юльянаўна сваю працу… Светлая памяць пра яе надоўга застанецца ў душах усіх, хто яе ведаў.

Лімаўцы глыбока смуткуюць з выпадку смерці Ядвігі Раманоўскай і выказваюць шчырыя спачуванні яе родным і блізкім.

Калектыў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа глыбока смуткуе з прычыны смерці пляменніцы народнага паэта Беларусі Янкі Купалы Ядвігі РАМАНОЎСКАЙ. Жыццёвы шлях, мудрасць і творчыя здабыткі Ядвігі Юльянаўны назаўсёды застануцца ў сэрцах тысяч людзей, якія яе ведалі і чулі.

Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" выказвае шчырае спачуванне начальніку ўпраўлення электронных сродкаў масавай інфармацыі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ядранцаву Уладзіміру Іванавічу з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ.

## Літабсягі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

**90-гадовы юбілей заснавальніка і першага дэкана факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Рыгора Булацкага студэнты-журналісты і іх выкладчыкі адзначылі прэзентацыяй кнігі Алеся Марціновіча “Рыгор Булацкі. На перакрыжаваннях лёсу”.**



# Легендарны Булацкі

Дзень друку заўжды быў у сям’і Булацкіх святам двайным. Па-першае, — прафесійнае свята гаспадара, а пазней — яго сына і ўнука. Па-другое, нарадзіўся Рыгор Васільевіч менавіта ў гэты веснавы дзень — 5 мая. Можа, невыпадкова?

Упэўнена можам сцвярджаць толькі тое, што не з’явіся старэйшы Булацкі ў беларускай журналістыцы, яна сёння была б зусім іншай. Прыстасаванай, сціплай, нясмелай, без шырыні ахопу падзей, без права аналізу глыбінных працэсаў у грамадстве. Ды што, урэшце, можна было б чакаць ад журналістыкі, якой адмоўлена ў праве лічыцца самастойнай навукай! Да Булацкага журналістыка існавала ў Беларусі толькі на правах аддзялення філфака БДУ, і ўніверсітэцкае кіраўніцтва нават не бачыла неабходнасці перагляду сітуацыі…

Легендарны Булацкі патрапіў на гэтае самае журналісцкае аддзяленне літаральна “ўпаўшы з неба”. Выпускнік Мелітопальскага лётнага вучылішча штурманаў, разам з сябрамі набыўшы на ўласныя грошы свой самалёт, каб быць накіраваным з Далёкага Усходу на фронт, атрымаў цяжкое раненне ў баі. Не жадаючы мірыцца з інваліднасцю, паспрабаваў аднавіцца на гістфаку, на які паступаў яшчэ да вучылішча. Але вольныя месцы аказаліся толькі на журналісцкім аддзяленні. І вось чалавек, за плячыма якога 80 баявых вылетаў, аваладвае новай спецыяльнасцю, абараняе кандыдацкую дысертацыю, застаецца ў БДУ выкладчыкам. І пачынае настойліва даказваць неабходнасць адкрыцця для будучых журналістаў уласнага факультэта. Яму ўдалося гэта, і ён сам узначаліў “нованароджаны” факультэт. Потым была абарона доктарскай дысертацыі, стварэнне ў суаўтарстве з калегамі, Іванам Сачанкам і Сцяпанам Говіным, першага, але ўжо вельмі грунтоўнага, прадуманага, дасканалага падручніка па журналістыцы. І, урэшце, падрыхтоўка глебы для вылучэння ўніверсітэцкага факультэта ў Інстытут журналістыкі. Даводзіць гэтую справу да канца давялося ўжо яго паслядоўнікам.

Усе вехі гісторыі гэтага незвычайнага чалавека падрабязна і дэталёва выкладзены ў кнізе Алеся Марціновіча. Аўтар працаваў над выданнем з любоўю і стараннем. Збіраў звесткі ў родных свайго героя, узнімаў архіўныя дадзеныя, перагдядаў старыя газетныя падшыўкі, у якіх захаваліся раннія і маलавядомыя публікацыі Булацкага і пра Булацкага. Кніга атрымалася на дзіва цёплая, вельмі шчырая, цікавая. Прадмову да яе напісаў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец.

***На здымку:** аўтар кнігі Алесь Марціновіч з сынам Рыгора Булацкага Вячаславам і ўнукам Паўлам.*

## Артлінія

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота аўтара

# Падзяліцца Музыкай...

**Больш як сто канцэртаў сімфанічнай, харавой, камернай музыкі, званільныя праграмы ў дзясятках расійскіх гарадоў ды ў сталіцах пяці краін — Расіі, Украіны, Казахстана, Літвы, Беларусі... Упершыню за час свайго існавання Маскоўскі Велікодны фестываль набыў міжнародны маштаб. Такім чынам і Мінску пашчасціла спрычыніцца да падзеі, размах і высокую творчую вышыню якой вызначае асоба арганізатара і мастацкага кіраўніка — Валерыя Гергіева. Маэстра выступіў у Беларускай дзяржаўнай філармоніі разам з Сімфанічным аркестрам Марыінскага тэатра (Санкт-Пецярбург), які ўзначальвае 15 гадоў.**




Мінск музычны памятае, як у далёкім 1978-м, пасля перамогі на берлінскім конкурсе Герберта фон Караяна, 23-гадовы дырыжор Валерый Гергіеў зачараваў нашу філарманічную публіку. А яшчэ — як бліскуча, патрапіўшы адразу з аэрапорта на спектакль, — ён выступіў за пультам сімфанічнага аркестра Вялікага тэатра оперы і балета БССР падчас Усесаюзнага фестывалю творчай моладзі музычных тэатраў. Ці як далікатна і ярка ўзнаўляў жывы гукасвет партытуры ў партнёрстве з беларускай піяністкай Ірынай Шумілінай. Маэстра з удзячнасцю ўспамінае колішнія прыезды ў Мінск — горад, які яму “дапамог адчуць сябе дырыжорам”. І не выключае магчымасць завітаць сюды на некалькі дзён, каб падзяліцца сваім неахопным набыткам: выканаць, скажам, частку твораў І. Стравінскага, чыёй музыкі ў рэпертуары аркестра — 20 гадзін гучання! А для спаткання з беларускай публікай у межах Х Маскоўскага Велікоднага фестывалю В. Гергіеў выбраў грандыёзную партытуру Густава Малера, Сімфонію № 5 — непаўторны і супярэчлівы свет уражанняў, перажыванняў, пакут, рэфлексій чалавека, апантанага пошукам спакою і гармоніі, што светлым промнем прабіваецца ў знакамітым Adagietto...

Перад пачаткам гэтага дзённага нядзельнага канцэрта ў філармоніі адбылася прэс-канферэнцыя. Апроч маэстра ўдзельнічалі ў ёй першы намеснік міністра культуры Беларусі У. Карачэўскі, мастацкі кіраўнік БДФ Ю. Гільдзюк і ген. дырэктар А. Гарбар, дырэктар ЗТАА “Джапан Табака Інтэрнэшнл ЭсЭндДзі” Г. Бруснікаў, старшыня праўлення ААТ “БПС-Банк” В. Мацюшэўскі, праваслаўны святар айцец Яўгеній. Гаварылі пра вялікае значэнне фестывалю, у традыцыях якога — дабрачыннасць, адукацыя і асветніцтва, пра вялікі духоўны сэнс мінскага канцэрта, наладжанага напярэдадні свята Перамогі, пра адраджэнне мецэнацтва і спонсарскую падтрымку сапраўднай культуры, якая ніколі не бывае таннай.

***На здымку:** першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Карачэўскі ды мастацкі кіраўнік Маскоўскага Велікоднага фестывалю, уладальнік шматлікіх міжнародных узнагарод і ганаровых званняў Валерый Гергіеў падчас прэс-канферэнцыі.*

## Повязі

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Кастуся Дробава

# Дантэ і Петрарка загучалі па-беларуску

**У Доме дружбы адбылася прэзентацыя кнігі, выдадзенай РВУ “Літаратура і Мастацтва” ў серыі “Бібліятэка сусветнай літаратуры”. У перакладзе на беларускую мову, выкананым Уладзімірам Скарынкіным, па-новаму загучалі класічныя творы італьянскай літаратуры — “Новае жыццё” Дантэ Аліг’еры і “Кніга песень” Франчэскі Петраркі.**

На рахунку Уладзіміра Максімавіча пераклады кніг Мікалая Рубцова “Рускі агеньчык” і Міколы Вінграноўскага “Украінскі прэлюд”, паэм Джорджа Байрана “Прароцтва Дантэ” і “Дон-Жуан”, зроблены некалькі гадоў таму поўны пераклад “Боскай камедыі” Дантэ. Тытульны рэдактар “Боскай камедыі” Янка Сіпакоў напісаў Уладзіміру Скарынкіну: “Твой Дантэ гучыць так, нібыта ён усё жыццё пісаў па-беларуску”. Працу перакладчыка выступоўцы назвалі высакароднай місіяй, бо паэт распачаў пераклад па ўласнай ініцыятыве і ахвяраваў дзеля работы, якая доўжылася некалькі гадоў, стварэннем уласных вершаў. У дзень прэзентацыі побач з паэтам былі тыя, хто верыў у яго і падтрымліваў усе гэтыя гады, — жонка Валянціна Пятроўна, родныя, сябры.

На прэзентацыі выступіў Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Італьянскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Арнальда Абэці, які адзначыў, што перакладаюцца не словы, а пачуцці, і пашкадаваў, што не кожны сярэднестатыстычны італьянец цікавіцца сёння творчай спадчынай вялікіх паэтаў. Шмат добрых слоў таксама сказалі галоўныя рэдактары часопісаў “Нёман” Алесь Бадак і “Немига литературная” Анатоль Аўруцін; Міхась Міцкевіч, Фёдар Міхасенка, Уладзімір Навумовіч і Андрэй Скарынкін. (Дзякуючы дапамозе загадчыка кафедры італьянскай мовы МГЛУ, кандыдата філалагічных навук Фёдара Міхасенкі і яго студэнтаў, Уладзімір Максімавіч атрымаў падрадкоўнік твораў вялікіх паэтаў.)



Праца Уладзіміра Скарынкіна была адзначана ўзнагародай Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў — граматай з фармулёўкай “За творчы подзвіг”, якую ўручыў старшыня Міхась Пазнякоў.

Гучалі пераклады Уладзіміра Максімавіча ў выкананні “залатых галасоў” Беларускага радыё — народнай артысткі Беларусі Марыі Захарэвіч і заслужанага дзеяча мастацтваў Валерыя Анісенкі. На мове арыгінала і ў беларускім перакладзе чытала вершы загадчык аддзела культурных і дзелавых сувязей Наталля Мізіна. Вёў мерапрыемства паэт Навум Гальпяровіч.

***На здымку:** Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Італьянскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Арнальда Абэці і паэт Уладзімір Скарынкін.*

## З-пад пяра

У гімназіі Дзяржынска ў межах мерапрыемстваў выстаўкі “СМІ ў Беларусі” адбылася творчая сустрэча з прадстаўнікамі рэдакцый часопісаў “Бярозка” і “Маладосць”. Рагнед Малахоўскі і Віка Трэнас правялі майстар-клас для маладых літаратараў — пяці- і шасцікласнікаў. Клуб “Крынічка”, які працуе ў гімназіі, аб’ядноўвае юных паэтаў, празаікаў, акцёраў. Выступоўцы правялі чытанне і абмеркаванне твораў гімназістаў, а таксама распавялі пра падрыхтоўку тысячнага нумара часопіса “Бярозка” і планы “Маладосці” на бліжэйшае паўгоддзе.

**Вікторыя ЛЯЙКОЎСКАЯ**

Сустрэча вучняў Буцавіцкай, Шаршунскай і Рогаўскай школ Мінскага раёна з паэтамі Казімірам Камейшам, Міколам Маляўкам, Уладзімірам Мазго і Міколам Чарняўскім пачалася з вершаў гасцей. Іх прачыталі шасцікласніцы Насця Севярынава і Карына Бутрым. Цёпла віталі настаўнікі і вучні выступленне і саміх майстроў паэтычнага слова. Скончылася сустрэча раздачай аўтографаў і кніг з цёплымі пажаданнямі ад аўтараў. А тым, хто захапляецца музыкай, пашанцавала ўдвая: вучні сталі ўладальнікамі аўдыядыскаў з запісам папулярных песень беларускіх кампазітараў на тэксты Уладзіміра Мазго.

**Мікола СІВЕЦ**

Памяці тых, хто падарыў нам яснае неба і мірнае жыццё, прысвечана выстаўка “Гарады-героі СССР”, якая адкрылася ў Ашмянскім краязнаўчым музеі імя Францішка Багушэвіча. На ёй адлюстраваны самыя значныя падзеі Вялікай Айчыннай. “Салдаты-ашмянцы ваявалі на ўсіх франтах, змагаліся з ворагам у партызанскіх атрадах, адстаялі Маскву, Сталінград і Ленінград, штурмавалі Берлін. Іх імёны назаўсёды застануцца ў нашай памяці”, — зазначыла дырэктар музея Жанна Іванова.

**Бажэна СТРОК**

Народны клуб самадзейных кампазітараў і паэтаў “Жывіца”, створаны на базе Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці, выдаў новы калектыўны паэтычны зборнік “На парозе вечнасці”, прысвечаны 65-годдзю Вялікай Перамогі. Яго аўтарамі сталі 49 паэтаў Міншчыны. Знайшлі адлюстраванне ў зборніку і іншыя войны. З’явіўся ён дзякуючы працы складальнікаў Галіны Дораш і Ірыны Карнаухавай, рэдактара Юрася Нератка, а таксама спонсарскай дапамозе неабыякавых людзей.

**Анатоль МАЗГОЎ**

У музеі Заіра Азгура адкрылася выстаўка дзіцячых мастацкіх работ “Радасць жыцця”. Распісныя талеркі і бутэлечкі, лялькі для тэатра, аплікацыі са скуры і яечнай шкарлупіны, казачныя дрэўцы і кветкі з пацерак — свет дзяцінства такі яркі і вабны! І не адразу прыйдзе асэнсаванне, што юныя аўтары — інваліды з парушэннямі апорна-рухальнага апарату, што для многіх з іх творчае самавыяўленне значна больш цяжкае ў фізічным плане, чым для здаровых равеснікаў. Моладзевае грамадскае аб’яднанне “Шчырасць” паставіла сваёй мэтай даказаць — і даказала, — што творчасць гэтых дзяцей можна і трэба ацэньваць без скідкі на іх фізічны стан.

**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ**

# Зоркавыя постаці ў інтэр'еры жыцця

## Літаратурная вандроўка з Яўгенам Коктышам

Раіса БАРАВІКОВА

*Вандроўкі могуць быць розныя: з суразмоўцам і без, па тых ці іншых мясцінах, па ўспамінах ці нават па старонках кнігі паэзіі альбо прозы.*

*Сённяшняя мая вандроўка — з вядомым фотамайстрам Яўгенам Коктышам. І вандраваць мы будзем па ўспамінах, па тым ужо даволі далёкім жыцці, якое асобнымі момантамі захавалася на фотаздымках майстра, дзе, безумоўна ж, самае каштоўнае — людзі, з якімі калісьці даводзілася сустракацца, сябраваць і проста захапляцца іх непаўторным талентам. Для гэтага ёсць і пэўная нагода: фотавыстава Яўгена Коктыша, якую ён арганізаваў пры падтрымцы Саюза пісьменнікаў Беларусі ў сталічным Доме літаратара. Адпаведна, шмат якія фотаздымкі будуць так ці інакш звязаны з літаратурным жыццём, дзе, вядома ж, самыя прыцягальныя тыя, што яшчэ і яшчэ раз высвятляюць Постаці, чыя творчасць даўно ўжо для нас стала класікай, а імёны — гонарам нашай літаратуры і ўвогуле мастацтва, дзе ў кожнага свой п'едэстал, на які іх узвёў талент і час. Але калісьці яны жылі сярод нас сваім звычайным чалавечым жыццём, па-свойму ўражвалі сваімі творамі і, безумоўна, уплывалі на нас…*



**Я азіраўся наўкол і не ведаў, за што зачапіцца, а Быкаў сеў, як школьнік, склаў рукі… Я шчоўкнуў, ну і ўсё… Бачу па ім, што здымкі нашы на гэтым закончаны. А ў мяне ж фотанарыс!..**

*— Яўген Фаміч, на выставе, вядома ж, будзе шмат фотаздымкаў Васіля Быкава. Вы, як ніхто іншы, вельмі многа яго здымалі ў самыя розныя гады. І не проста здымалі, у вашых адносінах было шмат даверлівай цеплыні. Дык можа, згадаеце цяпер, як гэта ўсё адбывалася ўпершыню, калі вы зрабілі свой самы першы здымак Васіля Уладзіміравіча? Пры якой нагодзе? Ці памятаецца вам той момант?*

— І не толькі той момант добра помніцца… Усё, што ў маім жыцці звязана з Васілём Уладзіміравічам, не проста ў памяці, а недзе ў глыбінях душы, дзе ўсё яшчэ такое жывое, эпізоды сустрэч, асобных гаворак… Першая наша сустрэча адбылася дзесьці на самым пачатку васьмідзясятых. Я працаваў у АДН, атрымаў заданне зрабіць фотанарыс пра Быкава і, як гэта бывае, патэлефанаваў яму, ён ужо тады жыў у Мінску, ну і паехаў… Кватэра яшчэ ў яго была пустая, голыя сцены, помню, на кухні на падваконні стаялі нейкія каструлькі, прынесеныя з рэстарана, — відаць, сам нічога не гатаваў. Я азіраўся наўкол і не ведаў, за што зачапіцца, а Быкаў сеў, як школьнік, склаў рукі… Я шчоўкнуў, ну і ўсё… Бачу па ім, што здымкі нашы на гэтым закончаны. А ў мяне ж фотанарыс!..

Канечне, я ўпаў у роспач, паехаў да мастака Георгія Паплаўскага, з якім ужо тады ў нас было моцнае сяброўства, кажу яму: "Жора, ратуй сітуацыю… Мне патрэбен фотанарыс, а Васіль Уладзіміравіч гэтага не зразумеў…" Паплаўскі тут жа патэлефанаваў Быкаву, сказаў, што трэба прыехаць да яго і што з ім буду я… Праўда, Паплаўскі яшчэ ўзяў Гошу, быў у яго такі прыгожы сабака, для антуражу, каб больш разнастайных здымкаў было. Прыехалі, Быкаў і Паплаўскі распачалі нейкую сваю гаворку, ну а я пачаў здымаць… Пасля рушылі ў Заслаўе, наведалі мясцовы музей, дзе царква, і там я зрабіў шмат здымкаў, а потым яшчэ і проста на прыродзе іх здымаў… Калі праз колькі дзён усё паказаў, дык і Быкаву, і Паплаўскаму здымкі вельмі спадабаліся, іх ужо было дастаткова для фотанарыса… Але здарылася яшчэ адна нагода паздымаць Быкава. У навукова-даследчым інстытуце, што ў "Соснах", якім тады кіраваў акадэмік Васіль Несцярэнка, ладзілася сустрэча з пісьменнікамі, я таксама туды паехаў і адразу зразумеў, што Быкаў ужо быў не супраць, каб я яго здымаў, ён нейкім чынам мне нават дапамагаў у гэтым, у патрэбны момант павarочваўся да камеры… У выніку той мой фотанарыс, магчыма, быў адным з самых лепшых… Але ім нашы сустрэчы не абмежаваліся.

Я ўжо не мог не здымаць Быкава, відаць, як гэта бывае з магутнымі асобамі, уздзейнічаў магнетызм яго таленту. Я пачаў часта бываць у іх доме, на той час там ужо з'явілася Ірына Міхайлаўна. Мне часта даводзілася ад розных людзей чуць, што, маўляў, Быкаў такі суровы, а я шмат разоў здымаў яго шчаслівага, радаснага ў розных жыццёвых сітуацыях… Помню, Васіль Уладзіміравіч разам з Алесем Адамовічам былі запрошаны на сустрэчу з рабочымі жывёлагадоўчага комплексу "Мір", што пад Баранавічамі. Цяпер ужо такога няма, але і тады ўразіліся, калі пачулі, што ў мясцовым пасёлку Жамчужны было ажно адзінаццаць першых класаў, уявіце, колькі маладых сем'яў там жыло! Вядомых пісьменнікаў сустракалі як самых дарагіх гасцей. Была вельмі цікавая экскурсія па комплексе, падчас якой пачаставалі кумысам і нават далі яго з сабою… І вось вяртаемся ў Мінск, а тут ужо Быкава чакае знакаміты нямецкі паэт з перакладчыцай, дарэчы, ён прыязджаў і на пахаванне Васіля Уладзіміравіча. А тады… у кватэры адразу ж утварылася вельмі цёплая, гасцінная атмасфера… Кава, цікавыя размовы, усё дыхае літаратурай, круціцца вакол яе, і ў нейкі момант Быкаў прамаўляе: "Ці ж мог я падумаць калісьці, што праз сорак гадоў у мяне ў доме будзе немец і мне з ім будзе гэтак добра!"

Помніцца мне і праводзіны Алеся Адамовіча ў Маскву на пасаду дырэктара Інстытута кінематаграфіі, тады я пачуў ад Быкава: "Ведаеш, калі мне бывае кепска, цяжка, я хаваюся, зашываюся ў куток і ўсё выплёскваю на паперу… А Адамовіч… Ён "генератар-акумулятар", яму трэба, ён павінен сустракацца з людзьмі, ад іх бярэ энергію". У іх было вельмі блізкае сяброўства, і я часта здымаў іх разам.

> *"Я пачуў ад Быкава: "Ведаеш, калі мне бывае кепска, цяжка, я хаваюся, зашываюся ў куток і ўсё выплёскваю на паперу… А Адамовіч… Ён "генератар-акумулятар", яму трэба, ён павінен сустракацца з людзьмі, ад іх бярэ энергію". У іх было вельмі блізкае сяброўства, і я часта здымаў іх разам.*

*— Вось я вас слухаю, Жэня, і, далібог, па-добраму зайздрошчу… Тымі часамі, у васьмідзясятыя, я была маладым паэтам, і сустракацца даводзілася пераважна з паэтамі са свайго пакалення. Калі даводзілася вітацца з Васілём Уладзіміравічам на нейкіх пісьменніцкіх сходах, заўжды агортвала хваляванне: Васіль Быкаў! А дзесьці ў сярэдзіне дзевяностых мне патэлефанаваў Арсен Мікалаевіч Ваніцкі, які тады ўзначальваў Беларускае таварыства дружбы і культурных сувязей, дзе я тым часам ужо была на чале таварыства "Беларусь-Расія"… Вось мне і кажа Арсен Мікалаевіч: "Рая, патэлефанавалі з Пасольства Расійскай Федэрацыі, запрашаюць прыехаць да іх… З Масквы прыслалі ордэн, якім узнагароджаны наш Васіль Быкаў, а ўручыць раней ніяк не маглі, дык сёння і будзе ўрачыстае ўручэнне ў Пасольстве"... Ну мы і паехалі. І тыя некалькі гадзін у маёй памяці захаваліся да драбніц. Уся невялікая зала ў Пасольстве была запоўнена толькі ўвагай да Быкава, хоць ён сам жартаваў, усміхаўся, нешта вельмі дасціпна расказваў, да яго з трапным словам падключаліся іншыя. Тады расійскім паслом у нас быў Валерый Лашчынін, і было гэта ўсё яшчэ ў час прэзідэнцтва Барыса Ельцына. А якія пачуцці перапаўнялі Лашчыніна ад таго, што ў яго была такая рэдкая магчымасць уганараваць вялікага, сусветна вядомага пісьменніка! Хоць мне самой тады здалося, што Быкаў вельмі спакойна ставіўся да ўзнагарод, ён жыў іншым…*

— Думаю, што так… Мне ўспамінаецца 1984 год, шасцідзесяцігоддзе Быкава. У якасці падарунка я зрабіў для яго фотаальбом, патрэбны былі вокладкі… Пайшоў да дырэктара паліграфкамбіната, і той адаслаў мяне непасрэдна да рабочых, маўляў, калі яны пагодзяцца, дык няхай робяць! Тыя ахвотна пагадзіліся: ну як жа, гэта ж наш Быкаў! Нават грошай не ўзялі. Ну а потым Адамовіч напісаў у той альбом добрыя словы, Паплаўскі каліграфічна іх выпісаў і акурат у дзень нараджэння паехалі мы на кватэру да Васіля Уладзіміравіча. Уручаем падарункі, прамаўляем віншавальныя словы і пазіраем на пінжак з зоркаю Героя Сацыялістычнай Працы, які вісіць на вешалцы, зачэпленай за ручку шафы… І вось ужо ўсе віншаванні прамоўлены, міжволі ўзнікае паўза, Быкаў усміхнуўся, падышоў да пінжака, патрос яго за рукаў, як быццам вітаючыся, і з гумарам прамовіў: "Добры дзень, пане пінжак!" Такім чынам усё прызямліў, стварыў непасрэдную сяброўскую атмасферу… Потым быў урачысты вечар у тэатры Янкі Купалы, помню, што тады на юбілей да Быкава з Масквы прыехаў Сяргей Залыгін, з Ленінграда — Данііл Гранін. А на наступны дзень Віктар Казько арганізаваў паездку — падарожжа па Прыпяці ажно ў Тураў…



**Васіль Быкаў, Анатоль Сульянаў і Алесь Адамовіч папрасілі мяне сфатаграфаваць іх.**

І расказчык Васіль Уладзіміравіч, сапраўды, быў адмысловы. Неяк я ехаў да яго, і па дарозе ў машыне лопнуў тармазны шланг, ледзь аварыі не здарылася. Я спалохаўся, прыязджаю ўвесь перапуджаны, і раптам ён, каб зняць з мяне гэты стрэс, пачынае расказваць, ды з такою мімікай, ды так займальна, як аднойчы адзін пісьменнік ехаў на машыне, а ён вельмі любіў хуткую язду, і, вядома ж, спыняе яго супрацоўнік ДАІ: "Хто такі, чаму перавысілі?" Узмаліўся: "А братачка, ды хіба ж гэта я?! Гэта ж мая жонка-дурніца… Гані ды гані, штурхае! А ў вас жа, напэўна, жоначка разумніца… Ваша, канечне ж, не такая дурніца!.." Скончылася тым, што раз'ехаліся яны палюбоўна…

Дарэчы, Быкаў і сам някепска машыну вадзіў і любіў пакорпацца ў ёй. Аднойчы перад Новым годам сказаў мне, што захварэў, моцная прастуда, маўляў, вяртаўся з Саюза пісьменнікаў, вецер прадзьмуў. Я прыехаў праведаць, і ў нейкі момант Ірына Міхайлаўна шапнула мне: "Ды не вецер прадзьмуў… Ён пад машынай ляжаў, вось і застудзіўся!" Любіў Васіль Уладзіміравіч і пажартаваць накошт машыны, маўляў, калі рухавік тарахціць, значыцца, яна спраўная!

*— Жэня, а вось Коля Селяшчук… У кнізе "Гучанне музыкі нябёсаў", прысвечанай гэтаму выдатнаму мастаку, вы вельмі цікава расказалі пра наведванне Васілём Быкавым майстэрні Селешчука. Ці можаце больш падрабязна згадаць уражанні Быкава ад карцін, якія тым часам маглі і здзіўляць і ашаламляць адначасова?*

— А тут, напэўна, не пра яго ўражанні трэба весці гаворку… Уражаны быў я — і не палотнамі Міколы, якія добра ведаў, а самім Быкавым! А справа была так… Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч і Анатоль Сульянаў папрасілі мяне сфатаграфаваць іх, вырашылі паехаць на Курган Славы, ну а калі вярталіся ў Мінск, тут я і прапанаваў завітаць у майстэрню да Селешчука. Коля выцягнуў для паказу палотнаў сямнаццаць і пачаў ужо было нешта тлумачыць, але Быкаў раптам перахапіў ініцыятыву і паказаў сябе такім выдатным знаўцам жывапісу, што я нават забыўся, для чаго там прысутнічаў, ніводнага разу не ўзяў у рукі фотакамеры, гэтак заслухаўся… У Быкава быў вельмі тонкі густ, ён і ў розных мастакоўскіх плынях выдатна разбіраўся і, напэўна, мала хто ведае, што Васіль Уладзіміравіч сам маляваў, гэта былі пераважна пейзажы, і іх было шмат! Ведаю, што многія вядомыя мастакі гатовыя былі памяняць сваё палатно на яго пейзаж…

*— А мне зараз вось пра што падумалася, Яўген Фаміч… Згадваюцца радкі з верша, прысвечанага жонцы рускага класіка Фёдара Дастаеўскага. Прозвішча таго расійскага паэта ўжо не ўспомню, а радкі запомніліся: "Анна Григорьевна Сниткина, как пред иконой свеча". Мне думаецца, яны вельмі добра падыходзяць і да Ірыны Міхайлаўны, жонкі Васіля Быкава, гэтак любасна ахоўвае яна памяць пра яго.*

*А вось Коля Селяшчук… Неяк нечакана ўзяў шлюб, потым развёўся, каб не прапасці разам з ёю… Большасць жывапісных палотнаў разляцелася па прыватных калекцыях па ўсім далёкім замежжы, потым такі трагічны сыход з жыцця…*

— Ну што тут можна сказаць… Шмат што пакідаем, каб калісьці парупіліся далёкія нашчадкі… Адно добра, бачым свой залаты россып, ведаем, што трэба рабіць і пачынаем пра гэта ўсё часцей і часцей гаварыць. Таму ёсць надзея, што ў будучым часе нашчадкі сённяшніх беларусаў будуць прыходзіць да сваіх класікаў, сваіх геніяў не па зарослых, а па добра ўтаптаных сцяжынках… Ну а што да Колі Селешчука, — думаю, што пра яго мы яшчэ не аднойчы пагаворым.

*— Значыцца, і ёсць спадзеў на яшчэ адну вандроўку...*

# У адкрытым фармаце

Ярына РЫТАМІНСКАЯ,
фота Кастуся Дробава

**У Мінску ў рамках XV Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі "СМІ ў Беларусі" адбылася прэзентацыя часопіса "Журналист". У адрозненне ад першага гаманкога дня 5 мая на выстаўцы панаваў спакой і, можна было б сказаць, будзённа-дзелавы настрой, калі б не адзначалася ў гэты дзень прафесійнае свята журналістаў — Дзень друку.**

Прэзентацыя праходзіла на цэнтральнай пляцоўцы выстаўкі.

"Прыемна, што ёсць магчымасць працаваць і бачыць сябе ў адкрытым фармаце", — запэўніў прысутных Тэнгіз Думбадзэ, аўтар, якому прадаставіла слова першы намеснік міністра інфармацыі, галоўны рэдактар часопіса "Журналист" Лілія Ананіч на пачатку сустрэчы.

Карпаратыўны часопіс, які заклікаваны абмяркоўваць праблемы, бачыць, як развіваецца інфармацыйная прастора, сабраў вакол сябе аўтараў і маладых творцаў, хто толькі робіць свае першыя крокі ў прафесіі, — цяперашніх студэнтаў Інстытута журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.

Аўтары дзяліліся сваімі ўражаннямі: "гэта часопіс, з якім я звяраю вопыт уласнай працы"; "на старонках гляджу, што зроблена нашымі калегамі, нават калегамі з рэгіёнаў. Таму што немагчыма ўявіць нашу краіну і журналістыку толькі ў Мінску"; "многія матэрыялы выходзяць за рамкі сённяшняй газетнай, мас-медыйнай практыкі"; "артыкулы ўзнаўляюць пэўныя пытанні заканадаўчай базы альбо яе адсутнасці ў гэтай сферы"; "пройдзе час, і мы забудземся пра крытычныя заўвагі і пра нашы імпрэсіі ў адносінах да асобных публікацый і будзем вывучаць гісторыю журналістыкі нашай краіны"; "у часопісе мы фармулюем нашы думкі пра тое, як трэба працаваць і ці правільна мы ўсё робім".

З трыбуны прагучала і самакрытычнае слова галоўнага рэдактара: "Чаму у нас "Журналист" так неактыўна чытаецца самімі журналістамі?" Досыць лаканічная ў часе прэзентацыя, ці, як быў вызначаны яе фармат, прэс-сустрэча, завяршылася выхадам на сцэну юнакоў і дзяўчат — будучых дзеючых асоб беларускай інфармацыйнай прасторы.



*На здымку: Л. Ананіч і Т. Думбадзэ на цэнтральнай пляцоўцы выстаўкі.*

# Аператыўна — пра кнігавыданне і гандаль



Чэслава ПАЛУЯН,
фота Кастуся Дробава

**Падчас XV Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі "СМІ ў Беларусі" ў Нацыянальным выставачным цэнтры "БелЭкспа" прайшла прэзентацыя дадатку "Кніжны свет", што з ліпеня 2010 года выходзіць у газеце "Літаратура і мастацтва" і з'яўляецца сумесным праектам "ЛіМа" і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі. Сёння гэты дадатак па сутнасці адзінае ў краіне выданне (хай пакуль і не самастойнае), якое цалкам прысвечана асвятленню пытанняў айчыннага і замежнага кнігавыдання і кнігагандлю.**

У час выступлення на прэзентацыі дырэктар РВУ "Літаратура і Мастацтва" Алесь Карлюкевіч падкрэсліў значнасць існавання дадатку, расказаў пра здабыткі, што ўжо дасягнуты калектывам у кірунку асвятлення падзей, навінак, а таксама праблем айчыннага кнігавыдавецкага працэсу. Пазнаёміў Алесь Мікалаевіч прысутных і з калектывам аддзела, што працуе над "Кніжным светам", — гэта рэдактар Марына Весялуха, аглядальнікі Вольга Паўлючэнка і Дзяніс Марціновіч.

Асноўным партнёрам "Кніжнага свету" з'яўляецца Нацыянальная кніжная палата Беларусі. Яе дырэктар Алена Іванова распавяла прысутным гісторыю ўзнікнення ідэі дадатку, якая нарадзілася падчас Міжнароднай кніжнай выстаўкі ў Ашхабадзе. Алена Вітальеўна падкрэсліла значнасць публікацыі нацыянальнай бібліяграфіі на старонках дадатку, а гэта з'яўляецца працягам шматгадовай традыцыі.

Апроч таго, што кнігу трэба напісаць, выдаць, важна яе і данесці да чытача, то бок прадаць. Таму адным з тэматычных кірункаў "Кніжнага свету" з'яўляецца асвятленне пытанняў кнігагандлю, што, у сваю чаргу, немагчыма без супрацоўніцтва з найбуйнейшай айчыннай арганізацыяй у гэтай сферы — ААТ "Белкніга". Вядучы маркетолаг "Белкнігі" Кацярына Сіман заўважыла: "Супраца нашага прадпрыемства і "Кніжнага свету" адбываецца ў двух кірунках, адзін з іх — асвятленне ў матэрыялах выдавецкіх навінак, што прадаюцца ў тым ліку ў крамах сеткі "Белкніга". Часам нават у нас, супрацоўнікаў, узнікае жаданне пасля прачытання рэцэнзіі ці агляду набыць кнігу. Другі кірунак — інфармаванне чытачоў пра падзеі, якія адбываюцца непасрэдна ў крамах сеткі "Белкніга", —спецыяльныя акцыі, распродажы, юбілеі кнігарняў".

Выступіла на прэзентацыі і вядучая аўтарскай рубрыкі Teenbook пра кнігі для падлеткаў пісьменніца Яўгенія Пастэрнак. Яна распавяла, як выбірае кнігі для сваіх пастаянных аглядаў, паведаміла прысутным і пра тое, якім выданням будуць прысвечаны наступныя матэрыялы рубрыкі.

***На здымку: дырэктар Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі Алена Іванова.***

# Зацікаўлены ў супрацоўніцтве

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**"Круглы стол" на тэму "Асаблівасці асвятлення праваслаўнай тэматыкі ў СМІ" з удзелам прадстаўнікоў беларускага Экзархата, беларускай дыяспары ў Польшчы і апарата Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей адбыўся ў рамках XV Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі "СМІ ў Беларусі".**

Шырокі зварот да тэмы веры, духоўнасці — зусім не прызнак надыходу новай моды ў айчыннай журналістыцы. Гэта — прызнак яе сталення. Але вось наколькі падрыхтаваны айчынныя журналісты і царкоўныя дзеячы да дыялогу? Гэтаму, уласна, пытанню і была прысвечана сустрэча, якую вяла намеснік начальніка ўпраўлення друкаваных СМІ і знешніх сувязей Міністэрства інфармацыі Беларусі Валянціна Мяшчэрская.

Адказны па сувязях са СМІ Беларускага Экзархата, святар Яўгеній Свідэрскі, распачаў сваё выступленне прывядзеннем фактаў прыкрых журналісцкіх памылак і фактаў праяўлення некампетэнтнасці, непадрыхтаванасці да асвятлення духоўных пытанняў. Такіх "агрэхаў" магло б быць значна менш, каб карэспандэнты не саромеліся пры падрыхтоўцы матэрыялаў на духоўную тэматыку звяртацца да спецыялістаў Экзархата па дапамогу. "Не хвалюйцеся, мы не заваладаем аўтарствам вашых матэрыялаў, але яны стануць граматнымі, дакладнымі і выверанымі", — звярнуўся да журналістаў айцец Яўгеній.

Паспяховым супрацоўніцтва журналіста з царквой можа зрабіць толькі асабістая яго вера, упэўнена каментатар, аўтар і вядучая шэрагу духоўна-асветніцкіх праграм на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё Людміла Мітаковіч. А яшчэ павінна быць шчырае жаданне дапамагчы духоўным асобам, якія далучаюцца да падрыхтоўкі той ці іншай праграмы, адаптавацца ў журналістыцы, знайсці кантакт з публікай. Дзейнасць самой Людмілы Сяргееўны па выніках конкурсу "Беларускае праваслаўе: гісторыя і сучаснасць", арганізаванага для супрацоўнікаў СМІ Беларускім Экзархатам, была адзначана ўручэннем медаля святой Еўфрасінні Полацкай.

Протаіерэй Сяргей Лепін, прэс-сакратар Мінскага Епархіяльнага ўпраўлення, прыгадаў, што галоўная тэма праваслаўя — Хрыстос, а ідэя — служэнне Яму. Вось гэта і трэба акрэсліваць журналістам, рыхтуючы матэрыялы на духоўную тэматыку, не засяроджваючыся на знешняй атрыбутыцы гэтага служэння — вербачках, пасхальных яечках, асвечаных на Спас яблычках.

Святар Павел Сярдзюк, вядучы папулярнай духоўнай праграмы "Мір вашаму дому" на тэлеканале "ЛАД", распавёў, што ў Інстытуце журналістыкі БДУ рыхтуецца адкрыццё спецыяльных курсаў па праблеме асвятлення праваслаўнай тэматыкі. А дырэктар Беластоцкай праваслаўнай радыёстанцыі "Радыё Артадоксія" айцец Ян Кайло, узяўшы слова пад канец абмеркавання, падзяліўся з прысутнымі вопытам далучэння насельніцтва да абмеркавання духоўных пытанняў у СМІ Польшчы.

# «Твой ліст дубовы, як чароўны лек»

Ірына ТУЛУПАВА

**Радасцю ад магчымасці шырокага дыялогу была прасякнута сустрэча з пісьменнікамі беларусаў замежжа "У сэрцы з Радзімай". Мерапрыемства праходзіла ў рамках XV Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі "СМІ ў Беларусі" і сабрала нашых суайчыннікаў, прадстаўнікоў СМІ і літаратараў з-за мяжы.**

Падчас сустрэчы, якая ладкавалася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, намеснік старшыні культурна-асветніцкага таварыства "Уздым", сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Станіслаў Валодзька прызнаўся: ідэя пра тое, каб у які з дзён усім нам завітаць у Беларусь, выспявала даўно. Добра, што падчас працы выстаўкі адкрылася такая перспектыва.

У Нацыянальнай бібліятэцы ў гэты час была разгорнута экспазіцыя на якой прадстаўлялася больш як 90 дакументаў пра гісторыю беларускага замежжа, выхадцаў з беларускіх земляў. Збор значна папоўніўся: нашы суайчыннікі прэзентавалі свае кнігі. Прадстаўнікі Польшчы, Латвіі, Літвы, Украіны, Расіі, Эстоніі перадалі ў дар каштоўныя фаліянты, якія, акрамя ўсяго, яскрава заяўляюць пра беларускую культуру як частку еўрапейскай. Старшыня Саюза беларусаў Латвіі Галіна Піскунова, перадаючы стос асобнікаў, у прыватнасці, заўважыла: тут і мастацкая літаратура, і навукова-папулярная, якая стала вынікам шматгадовых даследаванняў. Сярод выданняў — кніга "Латвія-Беларусь: дыялог дзвюх культур"; унікальны праект, ажыццёўлены летась і падтрыманы Рыжскай думай, "Латышска-беларускі і беларуска-латышскі слоўнік"; томік "Славянская гісторыя Латвіі", які ахоплівае перыяд да XVII стагоддзя і распавядае пра гістарычныя судакрананні нашых народаў. На думку прысутных, перадача кніг можа стаць пачаткам стварэння фонду пісьменнікаў беларускага замежжа ў Замку Святла, як паэтычна называюць галоўную бібліятэку нашай краіны беларусы Латвіі.

У гэты ж дзень, 5 мая, адбылася сустрэча з кіраўнікамі беларускіх грамадскіх аб'яднанняў, а таксама прадстаўнікамі беларускамоўных СМІ, дыяспарай з Польшчы, Латвіі, Эстоніі, Украіны і Грузіі ў Міністэрстве культуры Беларусі. Як паведамляе прэс-служба міністэрства, абмеркаваны актуальныя пытанні развіцця супрацоўніцтва з беларусамі замежжа ў сферы культуры.

Цяпер у Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь ідзе падрыхтоўка Першага фестывалю мастацтваў беларусаў свету, правядзенне якога запланавана на 8—9 ліпеня гэтага года. Сярод яго мерапрыемстваў — гала-канцэрт мастацтваў беларусаў свету ў рамках XX Міжнароднага фестывалю "Славянскі базар у Віцебску"; выставы мастакоў, фатографаў, сустрэчы з паэтамі і пісьменнікамі беларусаў замежжа ў сталіцы Беларусі; правядзенне другога пасяджэння Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь.

Дэлегацыі беларусаў замежжа былі праінфармаваны аб працы па распрацоўцы праекта дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце" на 2011—2015 гады, сучасным стане і развіцці культуры ў краіне, планах па адкрыцці культурных цэнтраў Беларусі за мяжой на працягу 2011—2015 гадоў.

# У пошуку духоўнай апоры

**Васіль ЖУРАЎЛЁЎ,**
**доктар філалагічных навук**

**У сучаснай беларускай літаратуры, узбагачанай, канечне, і яе важкім традыцыйным вопытам, пакрысе, непаспешліва, але досыць упэўнена набірае свой прадуктыўны рух мастацкая тэндэнцыя, скіраваная на палемічны дыялог з тымі праявамі грамадскай і літаратурнай думкі, якая ў мінулыя гады несла ў сабе выразную адзнаку спрашчэння ці, у лепшым выпадку, відавочную прыкмету недастаткова спелага погляду на народ як дзейсную сілу гісторыі. З гэтай тэндэнцыяй непасрэдна звязваецца і зацікаўленае імкненне шэрагу нашых пісьменнікаў паўней і глыбей выявіць унутраную настроенасць нашага сучасніка на пошук тых крыніц, дзе можна было б на нешта трывалае і надзейнае абаперціся і знайсці для падтрымкі такой сваёй мэты дадатковую энергію. Пры гэтым нельга не заўважыць, што чалавек у найбольш цікавых творах літаратурнай сучаснасці пачынае глыбей усведамляць асабістую індывідуальную адказнасць за вырашэнне жыццёва важных пытанняў, у пэўным сэнсе звужаючы сваю павучальна-настаўніцкую функцыю і пераключаючы істотную частку свайго духоўнага патэнцыялу на пошук у гэтым жыцці сябе як *чалавека-вучня*.**

Ва ўсім гэтым, безумоўна, адчуваецца ўплыў і покліч часу. Мы, відаць, паступова развітваемся з тым перыядам у нашым грамадскім жыцці, калі эмацыянальна-пафаснае, хоць і не заўсёды глыбокае, скіраванае на крытыку "ўсіх і ўся" папулісцкае слова заключала ў сабе мноства самых розных ружова-аптымістычных абяцанняў у найкароткія тэрміны вырашыць цяжкія і балючыя праблемы рэальнасці. Не будзем залішне прыдзірлівымі і да гэтага, як мы сказалі, аблегчанага папулісцкага слова, якое не абышло бокам і літаратурны рэгіён. Яно, гэтае слова, завастраючы (нярэдка ў гіпербалізаваных формах) увагу чытача ці слухача на адмоўных з'явах рэчаіснасці, у чымсьці, відаць, таксама дапамагала ўзварухнуць псіхалагічны стан грамадства. Але крытычная думка нават у лепшых сваіх эстэтычных і філасофскіх варыянтах звычайна пакідае вялікую прастору для далейшага аналітычнага пошуку. І менавіта на гэтым шляху, паяднаўшыся з аналітыкай, такая думка забяспечвае сябе даволі ўстойлівым імунітэтам, каб лёгка і паспешліва не паддавацца вонкавым уздзеянням і не спрашчаць складаныя з'явы жыцця.

Сур'ёзную аснову для такой гаворкі ўяўляе, напрыклад, прытча-аповесць Я. Сіпакова "Тыя, што ідуць", ды і многія іншыя яго творы гэтай жанравай структуры. Галоўны герой названай прытчы, як можна зразумець, і адносіцца да ліку тых людзей, якія яшчэ не выпрацавалі сталага і глыбокага аналітычнага погляду на рэчы і знаходзяцца шмат у чым залежнымі ад *выпадковага* збегу акалічнасцей. Асабліва выразна гэтая рыса выяўляецца ў характары героя на першапачатковым этапе сюжэтнага дзеяння твора, што пэўным чынам падкрэсліваецца і самімі імёнамі гэтага чалавека, якога аўтар пераменна называе то Выпадковым, то Незнаёмым, то Спадарожным. Яму ўяўляецца, што ён здатны ў чымсьці нават памагчы народу ў вызначэнні найбольш дакладных арыенціраў, каб абмінаць жыццёвыя "яміны і каляіны". А такая дапамога тут быццам бы і зусім не лішняя. Бо той "*нязнаны народ*", паводле аўтарскай рэпрэзентацыі, з'яўляецца сляпым, глухім і нямым.

Пісьменніцкі голас тут, як відаць, настройваецца на суадноснасць з нацыянальнай літаратурнай традыцыяй. Мастацкую метафару глухаты і слепаты народа выкарыстоўвалі ў асобных сваіх творах дакастрычніцкага перыяду Я. Купала, М. Багдановіч, М. Гарэцкі, Я. Колас як своеасаблівы сімвал недастатковай духоўнай падрыхтаванасці простага чалавека і запаволенасць яго псіхалагічнай рэакцыі на заклікі грамадскага часу. Выхад з такога становішча бачыўся ім як у намаганнях самога гэтага чалавека пашыраць гарызонты ўласнага светабачання, так і ў шчырых імкненнях нейкай іншай, у пэўным сэнсе лідарскай, настаўніцкай духоўна-інтэлектуальнай сілы, якая б дапамагла гэтаму чалавеку ўзняцца на больш высокую ступень разумення жыццёвай рэальнасці. Прытым яны не забывалі падкрэсліць, а дзесьці і вылучыць буйным планам той момант, што настаўніцкая, лідарская сіла, як больш высокая духоўна-інтэлектуальная субстанцыя, толькі ў такім разе апраўдвае сябе сваім грамадскім прызначэннем, калі і сама з'яўляецца *вучнем* і ў многім абапіраецца на народны вопыт.

Падобны матыў класічнай літаратурнай традыцыі знаходзіць свой творчы водгук і ў аповесці-прытчы Я. Сіпакова "Тыя, што ідуць". Напэўна, ніколі не адыдуць у нябыт праблемы і пытанні, так ці іначай звязаныя з асэнсаваннем і вытлумачэннем грамадскіх і непасрэдна чалавечых сувязей узаемадзеянняў і ўзаемаўплываў, якія ў розных праявах і формах заўжды існавалі і існуюць паміж дзвюма грамадскімі сіламі — вядучай і вядзёнай.

У творы Я. Сіпакова такі падзел у выкананні гэтымі сіламі тых або іншых жыццёвых функцый і абавязкаў прыкметна адчуваецца і ў многім дэтэрмінуе сюжэтны рух аповесці-прытчы. Але нейкага глыбокага водападзелу і жорсткай дэмаркацыйнай лініі паміж гэтымі сіламі няма. У першых радах людской грамады і ў больш ці менш складаных і адказных сітуацыях мы амаль кожны раз убачым тут Белабога (ён жа Валадар, Барадзень, Галоўны сейбіт), які ўвасабляе мудрасць і празорлівую сілу чалавечага розуму, сустрэнем і Міс Грамаду, якая сімвалізуе гармонію, суладнасць і прыгажосць маральна-этычных узаемадносін. Вядучая, лідарская роля гэтых фігур у рэальным жыцці, як паказвае пісьменнік, з'яўляецца відавочнай і не падлягае сумненню. І мінулае бачыцца ім у больш выразным і акрэсленым малюнку, чым звычайнаму, простаму чалавеку, і заўтрашні дзень, будучыню яны таксама ўяўляюць паўней і глыбей, чым шараговы прадстаўнік народнага калектыву. Ды і ў бягучым жыццёвым працэсе значную частку прыярытэту ў вырашэнні тых або іншых задач і пытанняў яны, Белабог і Міс Грамада, бяруць на сябе. Вось хоць бы такая іх аўтарская характарыстыка: "Сярод сейбітаў, канечне ж, вылучаўся Белабог; і пастава яго змушала, абавязвала быць Галоўным сейбітам, і жмені ў яго былі большыя, і зерне ляцела далей і клалася раўней".

Я. Сіпакоў дэталёва не раскрывае, што паспрыяла такім персанажам яго твора, як Міс Грамада ці Белабог, стаць прызнанымі і аўтарытэтнымі лідарамі ў асяроддзі сваіх супляменнікаў. Ды і ўласцівыя жанравым законам прытчы мастацкія прынцыпы ўмоўна-абагуленага падыходу да паказу і абмалёўкі характару персанажа ў многім вызвалялі пісьменніка ад такой сацыяльна-псіхалагічнай дэталізацыі. Аднак адзін важны момант, як дзейсны і ўплывовы фактар у складванні лідарскага аўтарытэту названых персанажаў, аўтар вылучае. Пісьменнік паказвае і, правамерна будзе нават сказаць, падкрэслівае, што Белабог і Міс Грамада, часта выходзячы на пярэдні план у якасці вядучай лідарскай сілы, самі адчуваюць вельмі вострую патрэбу ў падтрымцы і разуменні тых, каму яны падказваюць шляхі, кірункі і спосабы дзеяння.

Пісьменнік, праўда, не лічыць, што ў народным вопыце закладзены, запраграмаваны нейкі *абсалютны, універсальны код гатовых падыходаў да пазнання і асэнсавання нашага заўтра.* Заўтрашні дзень, і асабліва яго аддаленая гістарычная перспектыва, застаюцца як для калектыўнага народнага розуму, так і для індывідуальнай свядомасці чалавека шмат у чым тайнай, загадкай, terra incognita. І нічога дзіўнага няма ў тым, што пра пошукавую стратэгію народа ў аповесці-прытчы "Тыя, што ідуць" нібыта між іншым сказана, што гэты сімволіка-алегарычны народ, шукаючы лепшыя шляхі да сваёй будучыні, знаходзіцца і ў пошуку самога сябе. Алегорыя і сімвал набываюць тут глыбокае канкрэтна-абагуленае значэнне.

Персанаж аповесці-прытчы "Тыя, што ідуць", якога пісьменнік называе Незнаёмым, Выпадковым і Спадарожным, нібыта і шчыры ў сваім жаданні дазнацца пра шляхі-дарогі таго людскога натоўпу, пра які гаворыць, што тут ідуць сляпыя, глухія і нямыя, хоць, нягледзячы на гэта, у сваім непаспешлівым і часта цяжкім і пакутлівым руху наперад гэты натоўп знаходзіць больш ці менш дакладныя арыенціры. Яму, у прыватнасці, здаецца (асабліва на першапачатковым этапе яго духоўнай эвалюцыі), што дастаткова "як мага хутчэй утачыцца ў гэты нязнаны народ, прыкінуцца сваім ці напраўду прыжыцца ў ім, пайсці поплеч калі не да канца, то хоць бы прапыліць разам колькі дарог і перакрыжаванняў, каб даведацца, куды і навошта яны ідуць".

Ён нават не супраць узяць на сябе лідарскую, камандзірскую ролю і нейкі момант схільны думаць, што менавіта яму, відушчаму, у шмат разоў лепей бачыцца рэальная дарога жыцця і перспектыва будучыні, чым сляпому Белабогу. Аднак і прызнаны лідар грамады Белабог, і сама гэта грамада людзей досыць працяглы час на ўсе настойлівыя захады і памкненні Выпадковага-Незнаёмага-Спадарожнага разгадаць таямніцы іх дзеянняў і даведацца пра напрамак іх дарог рэагуюць адмоўна, застаюцца абыякавымі да яговых слоў і прызнанняў. На нейкі час нават адкідваюць яго ад сябе, як "нешта чужароднае", вылузваюць, "як штосьці непатрэбнае" і г.д. Як бачым, пісьменнік самою сінанімікай і семантыкай мастацкага слова імкнецца падкрэсліць, што калектыў, грамада ў прысутнасці гэтага чалавека ў сваім асяродку пакуль што не зацікаўлены і адкрываць яму ва ўласных планах і намерах лічаць заўчасным.

Дык у чым жа прычына такіх насцярожаных, а іншы раз і абыякавых, індыферэнтных адносін народнага калектыву да гэтага чалавека? Адказаць на гэта пытанне нейкай адназначнай формулёўкай было б, канечне, паспешлівым спрашчэннем аўтарскай задумы. Таленавітая мастацкая сістэма сімволіка-алегарычнага жанру звычайна нясе ў сабе багаты спектр асацыятыўнасці і адкрывае досыць шырокую прастору для розначытання. А прытча-аповесць Я. Сіпакова "Тыя, што ідуць", бясспрэчна, твор яркі, таленавіты, арыгінальны. І падтэкставая яго плынь глыбокая і змястоўная. А таму і літаратуразнаўчы разгляд гэтага твора зусім непажадана замыкаць у нейкія вузкія і жорсткія межы аднамерных ацэнак.

Разам з тым трэба прызнаць непажаданым і пашырэнне сферы асацыятыўнага поля сімвалаў, алегорый і міфалагічнага мастацкага падтэксту да такой ступені суб'ектыўнай свабоды, калі ад сапраўднай аўтарскай задумы і рэальнага мастацкага тэксту твора застаецца падчас у асобных інтэрпрэтацыях вельмі мала. Уяўляецца, што ў падобнай сімволіка-алегарычнай і міфалагічнай мастацкай прасторы (а сёння гэта прастора ў літаратуры вельмі шырокая і аб'ёмная) крытык і літаратуразнаўца, карыстаючыся вялікімі і ў многім дадзенымі яму самою адметнасцю мастацкага слова і гуманітарнай навукі "паўнамоцтвамі" на суб'ектыўны ацэначны погляд, абавязаны прыкласці максімум намаганняў у выяўленні тых *ключавых* ідэйна-эстэтычных фактараў, якія стымулявалі пісьменніцкую задуму разгарнуцца ў пэўную мастацка-вобразную сістэму.

Ёсць такое "ядро", у якім сканцэнтравана асноўная энергія аўтарскага намеру, і ў аповесці-прытчы Я. Сіпакова "Тыя, што ідуць". Толькі ўлічваючы сэнсавую дамінанту гэтага складніка, мы можам нашмат паўней зразумець важнейшыя прычыны той фактычна вузлавой праблемы твора, чаму гэты чалавек, які ў чымсьці быццам бы шчыры і досыць настойлівы ў сваім жаданні наблізіцца да народа, дапамагчы яму, дазнацца пра рэальны кірунак яго далейшых шляхоў і дарог, не знаходзіць з гэтага боку адпаведнай пазітыўнай рэакцыі, а пэўны час нават такія яго памкненні і жаданні прынцыпова ігнаруюцца.

На першы погляд можа здацца, што народ тут і сапраўды застаецца залішне індыферэнтны, неапраўдана абыякавы і глухі да чалавека. Аднак падобнае меркаванне далёкае ад ісціны. Заглыбляючыся ў мастацкі тэкст твора, прыходзіш да вываду, што асноўная прычына цяжкага складвання ўзаемапаразумення паміж Незнаёмым-Выпадковым-Спадарожным і "нязнаным народам" знаходзіцца не дзесьці збоку, а ў характары самога гэтага чалавека, якому яшчэ бракуе той неабходнай духоўнай энергіі, каб зразумець у жыцці нешта сур'ёзнае і складанае. Самі імёны персанажа



Віктар Мікіта "Умоўная дуэль".

— гэта і сімвалы яго пакуль што недастатковай, неглыбокай, выпадковай і павярхоўнай сувязі з народным калектывам, які працяглы час адхіляе, ігнаруе і не прызнае яго не таму, што прынцыпова не хоча адгукнуцца на яго інтарэс, а з той прычыны, што лічыць такі крок на пэўным этапе дачасным. Ну хто гэта некаму будзе адкрывацца ў сваіх запаветных планах і намерах, добра ведаючы, што той, хто збіраецца выйсці з табой на такую шчырую дыялагічную сустрэчу, да адкрытай гаворкі яшчэ не дарос. На вельмі сур'ёзныя і самакрытычныя развагі наводзіць тут нашага сучасніка мастацкае слова Я. Сіпакова сваім палемічна-завостраным падтэкставым голасам. У пэўным сэнсе гэтае слова, відаць, звернута і да тых пісьменнікаў, якія нярэдка высока ўзнімаюць планку крытычнасці ў ацэначных вызначэннях духоўнага патэнцыялу народа і заніжаюць яе ў адносінах да саміх сябе.

Усім ходам развіцця мастацкай думкі ў сваім творы Я. Сіпакоў імкнецца падвесці чытача да вываду, што аб'ектыўныя народныя ацэнкі і ўспрыманні кожнага з нас *самым сур'ёзным чынам абумоўлены нашай асабістай духоўнай існасцю*. Той персанаж, якому напачатку здавалася, што можна і без асаблівага напружвання, знаходзячыся дзесьці збоку ад жыцця, спазнаць таямніцу народнай душы, пачынае адчуваць, што яго ўласны набытак духоўнасці яшчэ досыць сціплы, каб выйсці на шырокі прасцяг узаемаўзгодненага дыялогу з народам. І прыходзіць да яго такое адчуванне тады, калі ён пэўным чынам усумніўся ў рэальных магчымасцях свайго жыццёвага досведу і мусіў прызнаць, што нейкая вельмі важная, карысная і неабходная частка гэтага вопыту можа быць запазычана, пачэрпнута з духоўных скарбонак таго самага народа, які ён значны час лічыў слабым, нямоглым і маладздатным на дапамогу камусьці іншаму. Менавіта ў такім ключы прачытваецца сюжэтны фінал твора, які нагадвае мастацкую форму ўнутранага маналогу: "Там, у грамадзе, ён адчуваў дарогу і вялікую ідэю, вялікую прагу велічы і жыцця. Хоць ён і не разумеў пакуль што гэтай ідэі, але здагадваўся, што яна праўдзівая і мудрая. Ён абавязкова павінен яе зразумець! Там быў разумны Белабог. Там была Прыгажуня. Там, хутчэй за ўсё, рос ужо і яго сын — можа вось зараз ён ідзе якраз поплеч з Валадаром… І яшчэ ён міжволі адчуваў, што там неўзабаве яму давераць нешта важнае і сур'ёзнае — магчыма, нават у бліжэйшую сяўбу яго зробяць Галоўным Сейбітам".

Чалавек, з якім мы сустракаемся ў дадзеным выпадку, у многім яшчэ знаходзіцца на ўзроўні эмацыянальна-інтуітыўнага падыходу да асэнсавання складаных жыццёвых праблем і самога сябе ў гэтым свеце. Пра такі стан яго псіхалагічнай арганізацыі гавораць тут і самі словы "адчуваў", "здагадваўся", што пэўным чынам вылучаюцца і падкрэсліваюцца як важны характарыстычны элемент. Аднак шлях, які ён прайшоў разам з народам, усё ж не быў для яго дарэмнай тратай часу. Той, каму ўсё ў жыцці здавалася простым і ясным, сур'ёзна ўсумніўся ў такіх сваіх ацэначных падыходах і прыкметна наблізіўся да выяўлення вельмі важных сіл дэтэрмінацыі, што самым актыўным чынам уплываюць на фармаванне фундаментальных асноў чалавечай духоўнасці. У фінале твора ён, напрыклад, імкнецца аспрэчваць сябе ранейшага, амбіцыйна-саманадзейнага чалавека, калі ў форме ўнутранага маналогу гаворыць, што галоўныя арыенціры вялікага гістарычнага дзеяння павінны выпрацоўвацца калектыўнымі намаганнямі і што яны, гэтыя арыенціры і прынцыпы, з'яўляюцца найпершай і самай надзейнай апорай, грунтам для кожнага асобнага чалавека ў яго пошуку адказаў на тыя або іншыя няпростыя пытанні.

Разам з тым пісьменнік не забывае звярнуць чытацкую ўвагу і на тое, што і абапіраючыся на трывалы грунт традыцый і агульначалавечага вопыту, ніхто з нас не вызваляецца ад уласнага індывідуальнага пераасэнсавання гэтых традыцый і гэтага вопыту і выкарыстання іх у якасці важнай дапаможнай (менавіта дапаможнай) сілы ў вырашэнні нейкіх сваіх канкрэтных жыццёвых задач. Выснамі аўтара прамаўляе тут унутраны голас самога галоўнага героя аповесці-прытчы "Тыя, што ідуць", калі ён прызнае, што яму трэба яшчэ прайсці вялікі шлях духоўнай самапаглыбленасці, узбагаціць свае эмацыянальна-інтуітыўныя ўяўленні пра жыццё, напружана "думаць, думаць і думаць", каб "хоць нешта зразумець" у складаных і нярэдка загадкавых і нечаканых праявах і паваротах народнай душы. Слова "думаць", што ў дадзеным выпадку паўтараецца, аж тры разы запар, чытач успрымае як новы загад героя самому сабе: ты, чалавек, можаш дасягнуць той мэты, якую паставіў, калі здолееш узяць у падмогу назапашаны народны вопыт і зможаш яго належным чынам ацаніць, пераапрацаваць і будзеш знаходзіцца ў няспынным руху духоўнага абнаўлення і самаўзбагачэння.

Перадавыя дэмакратычныя структуры грамадства ў прынцыпе кожны раз звязвалі бліжэйшыя і аддаленыя планы свайго духоўна-культурнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця з чалавекам, унутрана арыентаваным на абнаўленне і ўзбагачэнне ўласнай духоўнай арганізацыі. Ісціна гэта агульнавядомая, аксіяматычная. Радыкальныя, пазітыўныя змены ў жыцці заўсёды знаходзіліся ў цеснай узаемазалежнасці з адпаведнымі зменамі ў псіхалогіі чалавека. Даўно ўжо заўважана, што інавацыйны прамысловы, навуковы і эканамічны ўзлёт, за даволі кароткі час дасягнуты ў такіх краінах, як Японія або Паўднёвая Карэя, у немалой ступені абумоўлены суб'ектыўным фактарам — адказным і ўстойлівым, на ўзроўні самадэтэрмінацыі, імкненнем чалавека не быць у падпарадкаванні бягучых знешніх уплываў.

Безумоўна, і наш сённяшні дзень, улічваючы вузлавую тэндэнцыю яго бягучых і звернутых у перспектыву запатрабаванняў, таксама глыбока зацікаўлены ў тым, каб чалавек быў унутрана падрыхтаваны да высокіх духоўных форм *самадэтэрмінацыі*, не чакаў, пакуль яму нехта падкажа, куды ісці і што рабіць. Такі чалавек — гэта, апрача ўсяго, і сур'ёзная крэпасць на шляху той або іншай хуткаплыннай і зменлівай кан'юнктуры, якую неаднойчы спрабавалі ахарактарызаваць і прадставіць як багаты на свае плённыя вынікі доўгатэрміновы стратэгічны інтарэс гістарычнай будучыні.

# Ключы, якія адкрываюць свет

**Яніна НАВАГРОДСКАЯ**

Час заўсёды ад нас патрабуе нечага новага. Нават душы, якія неўміручыя, у кожнага стагоддзя свае. Новае ў свеце, камп'ютар, Інтэрнэт і новае ў тым жа Інтэрнэце. Магчыма, новы погляд на рэчаіснасць — толькі страх аказацца незразумелым будучыні. А што ёсць будучыня? Будучыня — гэта я, мае дзеці, мае ўнукі, мая краіна з яе новай гісторыяй. А што сучаснае? Хіба толькі праўда. А што, калі праўда — гэта "рэкламны тавар, які надакучвае"? Можа, і жыццё тады — толькі "чорна-белыя вершы". Такія думкі наведвалі мяне з кожным словам, з кожным творам кнігі Віталя Рыжкова "Дзверы, замкнёныя на ключы".

Дадзенае выданне — першая кніга вершаў і перакладаў аўтара. Сюды ўвайшлі выбраныя творы 2002—2010 гг. З першых радкоў разумееш, што чытаць зборнік і прачытаць яго ўвесь будзе даволі складана. Прыблізная, часам экзатычная рыфма робіць сваю справу. І калі ўсім даўно вядомыя вершы ў прозе, то так і хочацца сказаць пра прозу ў вершах. Можна спрачацца, што галоўнае — рытм, але і тут не ўсё так проста. Складваецца ўражанне, быццам кожны радок мае свой вершаваны памер — такая незвычайная будова твора. Што, праўда, не стала перашкодай для наладжвання адносін "аўтар — чытач", а наадварот, спрыяла іх развіццю. Верш хочацца перачытаць некалькі разоў: спачатку — каб разгледзець структуру, потым — каб зразумець змест.

Што тычыцца зместу, дык тэматыка самая разнастайная. У кнізе вылучана тры раздзелы. Першы — "Чорна-белыя вершы" — складаюць творы апошняга часу. Вершы маюць глыбокі філасофскі сэнс. Нават простыя "Дарожныя здарэнні" ці "Трамвайны шум" застаўляюць задумацца і доўга моўчкі глядзець у акно, суадносячы прачытанае са сваім уласным жыццём. Міжволі здзіўляешся тонкаму ўменню паэта не толькі бачыць незвычайнае ў звычайным, але і здольнасцю данесці гэта да астатніх. Праўда, вельмі часта чуеш у мелодыях вершаў неспакой, магчыма, адчай. З-за гэтага шукаеш між радкоў ці нават у сабе прычыну. Нельга не адзначыць, што ўнутраны пратэст паэта часам выліваецца праз край. Таму некаторыя з вершаў, напэўна, усё ж для абмежаванага кола чытачоў. У "Справаздачу па роспачы" (менавіта так называецца другі раздзел) уключаны вершы больш ранняга перыяду творчасці, таму і тэматыка твораў мае свае адметнасці. Для сябе вылучыла вершы пра каханне. Яны ўжо не такія, якімі мы прызвычаіліся іх бачыць. Лірычнае ў сінтэзе з жорсткай рэчаіснасцю нараджае новы від вершаў і ставіць іх на іншы ўзровень. Побач з інтымнай лірыкай у гэтым раздзеле знайшлі адлюстраванне ўсё тыя ж вершы-разважанні, вершы-просьбы, вершы-абурэнні. Настрой аўтара цалкам перадаецца чытачу, і ты ўжо праз хвіліну "хвараеш" разам з ім:

*Мне сумна.*
*Шпурнутая ў спіну снежка —*
*метафара сумы*
*атрыманых ведаў у барацьбе са звыкласцю*
*змяшалася ўсё ў адну*
*біблейскую суну, зліплася…*
("Справаздача па роспачы")

Асобны раздзел — "Блюз уцекачоў" — складаюць пераклады. Дзякуючы Віталю мы можам чытаць на беларускай мове творы такіх аўтараў, як Сяргій Жадан, Гага Нахуцрышвілі, Рышард Крыніцкі, Уінстан Х'ю Одэн, Майкл Сэлінджэр, Тэйлар Мэлі. Дарэчы, у гэтых вершах таксама яскрава адчуваецца стыль Рыжкова, таму творы будзе лёгка адрозніць ад перакладаў іншых творцаў.

Яшчэ адзін вялікі плюс кнігі — гэта аўдыёдадатак. На ім змяшчаюцца пакладзеныя на музыку вершы і пераклады паэта. Дыск не з'яўляецца нечым выключным. Наадварот, для аўтара, што вельмі часта выступае ўжывую з вершамі, гэта павінна быць нормай. Тым больш што толькі інтанацыя, пэўны тэмбр могуць найбольш ярка і поўна данесці да аўдыторыі сэнс, пачуцці, стан душы. Бадай, кожны, хто пачуе вершы ў выкананні аўтара, хто прачытае іх сам, знойдзе свае ключы, якія адкрываюць новы, яшчэ пакуль не ўсім вядомы свет.

# Вартавыя славянскай культуры

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

**Белая Вежа, якая дала назву літаратурна-мастацкаму і грамадска-публіцыстычнаму часопісу Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, узводзілася ў XII стагоддзі як самы заходні памежны бастыён Русі праваслаўнай. За Белай Вежай ужо ішлі землі лацінскай Польшчы і драпежнага нямецкага рыцарства. Ваярам гэтай крэпасці першымі даводзілася прымаць варожыя ўдары заходніх заваёўнікаў, аберагаючы не толькі спакон веку беларускія землі, але і ўкраінскую Валынь, і валоданні рускіх князёў. І стала вежа сімвалам непахіснасці і мужнасці. І стала яна сімвалам усходнеславянскага адзінства.**

Назва "Белая Вежа" аказалася надзвычай трапнай для тоўстага часопіса пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. Гэтым новаўтвораная арганізацыя галосна заявіла, што сярод найважнейшых мэт сваіх бачыць яднанне падзеленых было дзяржаўнымі граніцамі, адарваных адно ад аднаго літаратараў Расіі і Беларусі. А яшчэ — абарону лепшых духоўных дасягненняў усходняга славянства ад варожых плыняў, што рушаць на нашы краіны з захаду. Сёлета выйшаў ужо другі па ліку нумар часопіса, адкрыты зваротам старшыні Саюза пісьменнікаў Расіі, сустаршыні Саюза пісьменнікаў Расіі і Беларусі Валерыя Ганічава "Да гадавіны стварэння Саюза пісьменнікаў Расіі і Беларусі".




Чые ж творы прадстаўлены ў выданні? Па-першае, гэта аповесць-прытча вядомага маскоўскага публіцыста Мікалая Пераяслава "Па дарозе з поля", герой якой, савецкі лётчык-касманаўт Іван Палынін, вярнуўшыся на зямлю пасля доўгага палёту, апынаецца зусім у іншай, невядомай яму краіне, у жахлівым, "перавёрнутым" свеце "новай" расійскай рэчаіснасці. Па-другое, "Тры аповеды для сямейнага чытання" заснавальніка ўсерасійскага літаратурнага часопіса "Русское эхо" Аляксандра Громава — незвычайна цёплыя добрыя мініяцюры пра любоў, узаемаразуменне, зачараванне сямейнага цяпла. Па-трэцяе, аповеды пісьменніка мужнага і трагічнага лёсу, Андрэя Грачова, цяжка параненага на Афганскай вайне, страціўшага зрок, але не ўменне адчуваць дабрыню і веліч, адрозніваць сапраўднае геройства ад крыклівага фразёрства.

Наш чытач мае магчымасць адкрыць для сябе даўкае, духмянае паэтычнае слова расіянкі Маі Нікулінай і пранікнёную лірыку Уладзіміра Сарочкіна.

"Беларускі бок" прадстаўлены вершамі трагічна загінуўшай легенды нашай паэзіі Яўгеніі Янішчыц. Але гэта — не толькі і не столькі прэзентацыя рускаму чытачу беларускай класікі. Гэта яшчэ і знаёмства з віртуозным, незвычайна гарманічным перакладам яе вершаў Тамарай Красновай-Гусачэнкай, якая, здаецца, прапусціўшы іх праз прызму ўласнай душы, зрабіла яшчэ чысцейшым, яшчэ свяжэйшым, яшчэ больш "высокім" і адухоўленым радок Янішчыц. Не менш цікавыя і пераклады, зробленыя іншым паэтам, Валерыем Грышкаўцом, выбар якога невыпадкова спыніўся на самых драматычных паэтычных творах Яўгеніі.

Даволі моцна і грунтоўна выглядае ў часопісе публіцыстыка Васіля Шырко і Ніны Чайкі, дарэчы, згодна з пасадамі — галоўнага рэдактара "Белой Вежи" і першага яго намесніка. Публіцыстыка іх накіравана пазнаёміць у першую чаргу расіян з беларускай рэчаіснасцю, з асобамі беларускага "сёння", сярод якіх – чалавек ужо дастаткова вядомы ў Расіі і таму цікавы для расіяніна – старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. А таксама Герой Беларусі, "гаспадар" Верцялішак Васіль Равяка.

Цікавая рэтраспектыўная рубрыка "Духоўная спадчына" звяртае чытача да імені выдатнага рускага лірыка Афанасія Фета, друкуючы яго ўспаміны.

Так, духоўны і мастацкі ўзровень другога нумара "Белой Вежи" даволі высокі. Чаго не хапае? Пэўна, беларускай мастацкай прозы. Пры тым, што дабротныя творы сучаснай літаратуры ў нас маюцца, у далейшых нумарах выдання гэтую акалічнасць варта будзе ўсё ж такі выправіць. Тым больш, што калі беларускі чытач, хаця і "тоне", хаця і губляецца ў моры разнастайнай літаратуры, створанай ў Расіі, усё ж такі мае магчымасць пры пэўнай апантанасці і настойлівасці "выйсці" на сапраўдную рускую літаратуру, расійскі аматар кнігі за рэдкім выключэннем мае надта павярхоўнае ўяўленне пра тое, што сапраўды адбываецца ў літаратурным свеце суседняй краіны.



Казімір Камейша

### Настроі

Колькі час адвёў нам — невядома,
А жывём мы з вамі толькі раз.
Многа нас, як пчол, у гулкім доме,
Але шмат і трутняў сярод нас.

Не сумуй, цвярозы чалавеча...
І таго, і гэтага шкада.
За сцяной дзіцячы сад шчабеча…
Ёсць каму свой вопыт перадаць.

Ёсць куды схавацца ў дождж і холад,
Грэе нас каменны той гарсэт.
Цесны нам вялікі гэты горад.
Цесны і вялікі гэты свет.

* * *

Ноч усю грымелі цягнікі,
І не спалі рудзенскія пеўні.
Сцежкай ля чыгункі,
Нацянькі
Подбегам шыбуе ранак спеўны.

Дзіўнага нічога тут няма,
Тут усё засведчана бяссоннем.
Блісне белай плямаю зіма,
Што хітруе стоена ў адхоне.

За вясну хапаецца трава,
І лаза смяецца каташкамі.
Недзе там, на дачных астравах,
Праца пачынаецца цяжкая.

Перамовы вёдраў і лапат,
Малаткоў неўтаймавання пошчак…
У панчошках белых — ранні сад…
Ах, які вясны знаёмы почырк!

Сонца не даклічацца пчала,
Хоць ужо і кветку прычакала.
Што шпачыха ў дзюбе прынясла —
Вераб'ю залётнаму цікава.

Заржавеў, праспаўся мой замок,
Неахвотна дзверы адчыняе.
І душа, як сонны астравок,
Ад зімы ніяк не ачуняе…

* * *

Вясна,
Мы так з табой не дамаўляліся:
Ты перабегла да чужых вакон.
І толькі сад шуміць у дымнай навісі,
Не бачна нават сонца за якой.

У рай даўно не клічуць дрэвы райскія,
Бушуе цвет пад небам маладым.
Ставок, што зацягнуўся
сумнай раскаю,
Ужо не просіць свежае вады.

Вясёлы птах не церпіць песні колішняй.
Стаміўся я, за ім не палячу.
А вецер малады на вуснах колецца,
Калі старое слова прашапчу.

Дні мільгануць спакуснымі каленькамі,
І ты вясёла падміргнеш двару,
Не ў пары з той гарэзлівай паненкаю,
Але ў сваю не горшую пару.

* * *

Ад спёкі ўчарашняй
Трава ачуняла.
Каму гэта ноч там
Акно адчыняла?

А вецер нахабны
Ўсё лез пад фіранку.
І вось запалілася шыба
Румянкам.

Здзіўляўся, як сыпала
Сонца спрасонку
На персці твае
Залатыя пярсцёнкі.

А хай бы які з іх
Хоць быў заручальным.

А дзень, як і ўчора,
Пачаўся звычайна.

Зноў ложак заслаць
І ўзбіты падушкі.
І горла расой
Прапалосквае птушка.

* * *

Зялёным ветрам
зноў вясна дыхнула,
Агнём зялёным ліст затрапятаў.
Эх, каб і ўсё, што збегла, прамінула,
Пачаць наноў, з зялёнага ліста.

Пара даўно будзіць свой стол пісьмовы,
Пакуль вясны не грымнулі грамы.
На ім яшчэ старыя цепліць словы
Сумёт паперы з леташняй зімы.

Марудзіш і збіраешся пакуль ты,
Ужо і кронам дагарэць пара.
Не катарга, ды вечная пакута
Снуе, цікуе за хадой пяра.

Пяру й сляза мая — што знак дарожны.
Яно не раз яшчэ згадае час,
Калі мудрэц быў сам бездапаможны
І мудрасці у вучня пазычаў.

Калі пасля апошняй самай кропкі
За думкай так імчалася рука,
Каб зноў прабегчы гэты шлях кароткі
Ад светлага да сумнага радка.

Прыносяць дні загадку за загадкай
І разумееш: штосьці тут не так.
Няўжо і заўтра ўсё пачну спачатку,
Няўжо і праўда —
з чыстага ліста?



Фота Кастуся Дробава



Мар'ян Дукса

* * *

Грувасткае скідвай адзенне —
снег косіць адліга нязвычная…
"Глабальнае пацяпленне!" —
ляціць навіна кліматычная.
Палохаюць возеры-лужы —
лёд Поўначы раптам раскварыцца…
А як там шматлікія душы?
Усё яшчэ стынуць і сварацца?
Праз колькі яшчэ пакаленняў
нас будзе даймаць галалёдзіца?
Глабальнае пацяпленне —
дзе дзенецца! — ў сэрцах народзіцца.

* * *

Я ведаць не змагу,
чым дзень закончыцца.
Што будзе потым,
разважаць не хочацца.
З якім настроем
разнасцежыць раніцу —
ну з кім пра гэта
можна мне параіцца?
Паветраныя замкі надзіманыя
бліскучыя,
але заўжды падманныя.
Усходзяць кепска
нашых мрояў высеўкі.
Затое як квітнеюць
нашы высілкі!

* * *

Свет злёгку страшыць і лагодзіць.
Вятры то гладзяць, то трасуць.
Хто вось прыйшоў, хто адыходзіць,
хто крочыць сам, каго нясуць.
З нябёсаў выплыве дасвецце —
збаўленчым рухам сэрца грэй…
На ўсёй зямлі, на ўсёй планеце
то скрып варот, то скрып дзвярэй.
Адно мяняецца абутак.
Душа не спіць у клетцы сцен.
Спявае радасць, плача смутак.
Як мала ў свеце перамен.

* * *

Маем зверху мы дар
мець адзін варыянт —
дзіўна злеплены твар
альбо сэрца брыльянт.
Гэта гонар, ці здзек,
ці ўтрапенне адно,
калі ты, чалавек,
маеш нешта адно?
Ты прызнайся, скажы,
што ты возьмеш хутчэй —
ззянне вечнай душы
альбо ззянне вачэй?
Паасобку ўсё… Хоць
мець бы ў звязцы адной
дасканалую плоць
з прамяністай душой.

* * *

Ён ёсць заўсёды ў слове
спагадлівым тваім.
Там, дзе няма любові,
няма й Яго зусім.
Любові мерзнуць кветкі,
як дыхае зіма…
Ты знай: у сэрцы гэткім
і Бога ўжо няма.
Калі ж ты любіш вяла,
то мусіш зразумець:
у сэрцы Бога мала,
Яго ўсяго ледзь-ледзь.
Усіх любі — найболей,
каб радавацца мог:
ніколечкі-ніколі
з цябе не пойдзе Бог.

* * *

Яны ўсе палкія да ведаў,
пакуль ім любая тэорыя.
Яшчэ далёкая да бедаў
з усмешкай юнай аўдыторыя.
Праз аднаго, лічы, крутыя —
не тое што якіясь госці іх.
А вершы ім чытаюць тыя,
каго жыццё не раз чыхвосціла.
Ім што — цікава ўсё, што скажаш,
як і пачуцці напаўслёзныя?
Адчуйце, лірыкі са стажам:
яны і вы — занадта розныя.
І вы з пазіцыі дваякай
зірніце ўсё ж на іх уважліва.
У іх няма віны ніякай,
што слухаюць крыху паблажліва.



Ганад Чарказян

### Пытанні

Страла чужацкая
У сэрца цэліць мне —
І гасне ў думках даўняе, былое.
Забудуся адразу,
Дзе я, хто я,
Кім быў на гэтае зямлі раней.

Пустэльны шлях,
Мой крок адразу сціх,
Знікае, ледзь трымціць
Апошні штрых,
Прыпынкі, не было якіх даўней,
Знікаюць, як у сне.
І азірнуцца боязна назад:
Туман і змрок,
За мною — анікога.
Нідзе не следу нават
Ад былога.

Нябачны хтосьці падганяе толькі,
Спяшаецца,
Бягу я ад яго.
Пытанні толькі мчацца наўздагонку:
"Навошта? Як? Куды? Дзеля чаго?"

### Яшчэ адзін дзень

Яшчэ адзін дзень пражыты,
А ў памяці — пустата,
Нібы нецікавую кнігу
Сам сабе прачытаў.
Як грымнуцца, каб не заплакаць,
Як жыць, каб зусім не любіць?
Любімае і нелюбімае
На нітцы адной ліпіць…
Жыццё — гэта дзіўнае дрэва.
Трэба расці і жыць…

### Загадка

Наш загадкавы свет падобны
На дзіцячы малюнак.
Можаш ты пражыць і жыццё,
Ну а сутнасці не зразумееш.
Тук і мудрыя кажуць…
А калі і сама прастата
Чалавеку — загадка?
Гэта ўсё і бянтэжыць…

### Зямля — мой дом…

Зямля — мой дом,
А горы — сваякі,
А рэкі ўсе — як дарагія сёстры.
Яны і плачуць,
Калі я блуджу,
Калі мяняю седзіва
На вёрсты.
Зямля — мой дом,
Але паўсюль — замкі,
Бясконцы плот,
Замкнёныя вароты…
Дарогі толькі з дому
Ўсе вядуць,
Не абяцаюць
Хуткага звароту.

### Прытома

Мне прыемна, што думаць магу
Пра лясы, і дажджы, і неба.
Я ад іх у расстанні адвык,
Грэшных думак цяпер мне не трэба.
Я даўно прытаміўся ад страт,
Ад бясоння і сумнае змогі.
І шкадую, што шмат не паспеў,
Не адужаў патрэбнага многа,
І шкадую: кагосьці цярпеў
І баяўся пыхлівых розных.
Многа страціў,
Не зразумеў,
А цяпер ужо позна, позна…

З курдскай пераклаў
Казімір Камейша

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

Кніжны свет

*13 мая 2011 г.*

# Усяму свету — ад маленькай літаратуры

Юзэфа ВОЎК



**Books from Finland ("Кнігі з Фінляндыі") — англамоўны літаратурны часопіс, што выдаецца ў Фінляндыі з 1967 года. Ён заснаваны таварыствам выдаўцоў Фінляндыі, аднак у розныя часы падтрымліваўся іншымі партнёрамі — бібліятэкай універсітэта Хельсінкі, фінскім літаратурным таварыствам. З 2009 года часопіс існуе толькі ў інтэрнэт-версіі, яго змест даступны для ўсіх карыстальнікаў па адрасе www.booksfromfinland.fi. За час існавання Books from Finland чытачу было прадстаўлена каля 300 аўтараў прозы, паэзіі, драмы, літаратуры нон-фікшн, класічнай і сучаснай. Апублікаваны па-англійску матэрыял складае цэласную карціну развіцця фінскай літаратуры, арыгінальна напісанай па-фінску, шведску і на мове самі. Пра тое, чым жыве часопіс сёння, на якога чытача арыентуецца ў інтэрнэт-версіі, з якімі цяжкасцямі сутыкаецца фінскі аўтар, — наша гутарка з галоўным рэдактарам Books from Finland Сойлай Лехтонен.**

**— Спадарыня Сойла, ці ўваходзіць у задачы выдання дапамога ў распаўсюджванні фінскіх кніг?**

— Канечне, гэта адна з нашых мэт. *Books from Finland* у інтэрнэт-версіі даступны для ўсіх чытачоў. Таму можна сказаць, што мы займаемся прамоцыяй кніг — публікуем урыўкі, рэцэнзіі, інтэрв'ю з аўтарамі і матэрыялы пра навінкі. Гэта нам цікава. Але з самага нараджэння наш часопіс ніколі не быў камерцыйна арыентаваным, гэта літаратурнае выданне, што існуе з намерам прадставіць чытачу добрыя творы, як мастацкія, так і немастацкія (нон-фікшн).

**— А на якога чытача вы арыентуецеся?**

— Нашым чытачом можа быць хто заўгодна, нават той, хто нічога не ведае ні пра Фінляндыю, ні пра фінскую літаратуру. Мы стараемся, каб апублікаванае знаходзіла водгук у кожнага — думаю, гэта проста добрая літаратура, якая цвёрда стаіць на нагах і не падкрэслівае сваю "фінскасць". Аднак большасць чытачоў часопіса ведаюць штосьці пра нашу краіну, яны тут былі ці маюць тут сяброў або сваякоў. Альбо проста цікавяцца тым, што адбываецца ў фінскім культурным і літаратурным жыцці.

**— З цягам часу канцэпцыя часопіса змянілася?**

— Амаль не. Часопіс быў заснаваны з мэтай забеспячэння чытача інфармацыяй пра фінскую літаратуру з дапамогай урыўкаў з твораў у перакладзе на англійскую мову (дарэчы, мы працуем з прафесійнымі перакладчыкамі, большасць з якіх жылі ці жывуць за мяжой). З сярэдзіны 1980-х часопіс стаў больш грунтоўным, і колькасць друкаваных старонак на год узрасла да 320 (80 у кожным квартальным выпуску). Цана на падпіску была мінімальнай. Але тыпаграфскія кошты і плата за перасылку раслі, у той час як фінансавая падтрымка і колькасць падпісчыкаў — не. Таму ў 2008 годзе было прынята рашэнне спыніць публікацыю друкаванай версіі выдання і зрабіць часопіс даступным для ўсіх у Інтэрнэце.

Але гэтая вялікая змена толькі нязначна паўплывала на падыходы ў выданні часопіса. Для нас, выдаўцоў, гэта стала сапраўды нечаканасцю. Усе віды матэрыялаў аказаліся жыццяздольнымі — навіны, агляды… Да таго ж, новыя праграмныя сродкі прынеслі мала клопату ў адаптацыі матэрыялу. Нягледзячы на тое, што інтэрнэт-платформа не дае столькі магчымасцей для дызайну выдання, як друкаваная версія, цяпер мы маем колер, гук і анімацыю, калі гэтага хочам. Калі мы друкавалі часопіс, рэдка маглі сабе дазволіць каляровыя старонкі, акрамя вокладкі.

**— У цэнтры ўвагі аўтараў і выдаўцоў часопіса — толькі фінская літаратура ці вы пішаце таксама пра новыя кнігі і аўтараў з іншых краін?**

— З нашымі маленькімі рэсурсамі, натуральна, даводзіцца засяроджвацца на фінскіх кнігах і матэрыялах з рэдакцыйнага партфеля. Але калумністы і пазаштатныя аўтары, канечне, свабодныя прымаць рашэнне пісаць таксама і пра замежную літаратуру, і яны гэта час ад часу робяць.

**— Часопіс *Books from Finland* (у мяне ёсць адзін з друкаваных выпускаў) выглядае як інтэлектуальнае чытво для публікі з досыць тонкім густам, але ў ім ёсць і старонкі з коміксамі. Вы іх разглядаеце як спосаб прывабіць публіку ці проста як перапынак паміж чытаннем сур'ёзных твораў?**

— Дзякуй за такую ацэнку нашага выдання! Я не згодна з тым, што коміксы, ці графічныя раманы, — новы жанр літаратуры, які становіцца паўсюль усё больш і больш папулярным, — не інтэлектуальныя. У любым выпадку яны падабаюцца маладым людзям (я і сама ў маладосці была сябрам фінскага таварыства коміксаў і нават да гэтага часу захоўваю любімыя графічныя раманы), і думаю, што якасны комікс не мае ніякіх перашкод для таго, каб лічыцца добрай літаратурай.

**— Якім вам бачыцца будучыня часопіса?**

— Хто ведае, што можа здарыцца? Я веру ў тое, што людзі заўсёды будуць мець жаданне чытаць добрыя, цікавыя тэксты, створаныя іншымі. Мы, канечне, разумеем, што фінская літаратура — маленькая, і ствараецца яна маленькай групкай людзей на маленькай мове, але і ў ёй з'яўляецца шмат матэрыялу, вартага прадстаўлення ўсяму свету.

**— Што адбываецца ў фінскай літаратуры сёння?**

— У цэлым, фінская літаратура сёння пачуваецца добра, калі прымаць пад увагу жыццяздольнасць мастацкіх твораў, колькасць апублікаваных назваў і прададзеных кніг. Фіны заўсёды былі прагнымі да чытання як кніг, так і часопісаў, гэта і цяпер праўда, нягледзячы на сучасную варожасць чытацкіх душ да іншых форм медыя.

Што да перакладу, сучасныя тэндэнцыі выглядаюць досыць пазітыўна: пасля павольнай і цярплівай прамоцыі перакладу, дапамогі перакладчыкам і пошуку замежных выдаўцоў фінскія кнігі становяцца досыць паспяховымі. Апошні і самы яркі прыклад — раман Сафі Оксанен *Puhdistus* ("Ачышчэнне"). Ён быў апублікаваны ў 2008 годзе на англійскай і французскай мовах і не так даўно атрымаў у Францыі прэмію як лепшы перакладны твор мастацкай літаратуры, цяпер ён даступны больш як на 30 мовах свету. Цікавасць да перакладной літаратуры, прынамсі ў Еўропе, павялічваецца.

Што да выдання кніг, то традыцыйныя вялікія выдавецтвы цяпер сутыкнуліся з глабальнай камерцыялізацыяй кніжнага бізнесу, яны пераглядаюць стратэгіі з мэтай атрымання хуткага прыбытку, адчуваючы моцную канкурэнцыю з боку новых маленькіх, аператыўных выдавецтваў. Ад імкнення атрымаць прыбытак могуць пахіснуцца літаратурныя стандарты: тое, што хутка прадаецца, — якасная літаратура. Але мы ведаем, што гэта не заўсёды так. Таму я ўсё яшчэ веру ў тое, што добрае можа сапраўды "прадаваць сябе".

# 30 год на службе ў кнігі

Кацярына СІМАН

**Вясновыя і летнія месяцы для "Кнігарні пісьменніка" традыцыйна адзначаны ўдзелам у шматлікіх святах і забаўляльных мерапрыемствах. Але гэтая вясна для магазіна незвычайная. "Кнігарня пісьменніка" — сталічная крама сеткі ААТ "Белкніга" — сёння адзначае свой 30-гадовы юбілей. Кожнага, хто здзейсніць тут пакупку 13 мая, чакае падарунак.**

Мабыць, мала знойдзецца мінчукоў, якія б не ведалі "Кнігарню пісьменніка", што ўтульна месціцца на скрыжаванні вуліц Казлова і Румянцава. Няма сумненняў, што пакупніцкі партрэт крамы вызначаюць і ўстановы па суседстве: РВУ "Літаратура і Мастацтва", Дом літаратара, Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт, Акадэмія МУС, Палац мастацтваў, Беларускі саюз журналістаў і многія іншыя вядомыя арганізацыі і навучальныя ўстановы.

Назва крамы як нельга лепш адлюстроўвае асартымент. Тут заўсёды самы вялікі выбар твораў як класікаў, так і сучасных беларускіх творцаў. З аднаго боку, гэта можна патлумачыць тым, што "Кнігарня пісьменніка" з'яўляецца апорнай крамай выдавецтва "Мастацкая літаратура". У той жа час багаты асартымент дае краме магчымасць стаць адным з апорных пунктаў у сацыякультурнай акцыі "У падтрымку чытання", арганізаванай Міністэрствам інфармацыі, бо толькі тут заўсёды ёсць навінкі выдавецкіх серый "Лімаўскі фальварак" (РВУ "Літаратура і Мастацтва"), "Паэзія XXI стагоддзя", "Проза XXI стагоддзя" ("Мастацкая літаратура"), "Школьная бібліятэка". У кнігарні з радасцю і цеплынёй сустрэнуць кожнага пакупніка. Тут з асаблівай увагай ставяцца да юных наведвальнікаў, бо галоўную сваю задачу крама бачыць у прызвычайванні маладога пакалення да чытання (і сёння амаль палову наведвальнікаў крамы складаюць дзеці).

З ліку іншых магазінаў "Белкнігі" "Кнігарню пісьменніка" вылучае і незвычайны букіністычны аддзел: на камісію прымаюцца толькі кнігі беларускіх аўтараў, якія карыстаюцца попытам у дадзены час. Акрамя таго, крама ажыццяўляе камісійны гандаль аўтарскай кнігай.

*У падтрымку чытання*

# Забыць пра рэальнасць

Марына ВЕСЯЛУХА, фота аўтара




**Віктар Смольскі, гітарыст-віртуоз, музыка нямецкага рок-гурта Rage:**

— Цяпер я чытаю шмат замежнай літаратуры, даводзіцца прапрацоўваць многа музычных кніг менавіта па рабоце. Да таго ж, заўсёды хочацца быць у курсе ўсіх навінак — і студыйных, і музычных. Таму сярод выданняў, што апынаюцца ў цэнтры маёй увагі, многа спецыялізаванай музычнай прэсы. Я шмат выкладаю, і таму для мяне асабліва цікавыя кнігі, што выходзяць у Лос-Анджэлескай акадэміі і ў Бёрклі.

Яшчэ калі я вучыўся ў школе, мяне здзівілі і асабліва ўразілі кнігі Льва Талстога. Сёння ж, калі чытаю штосьці для душы (звычайна ў дарозе), толькі для таго, каб "адключыцца" ад рэчаіснасці — гэта фантастыка, фэнтэзі ці літаратура, звязаная са спортам.

# Татальны хэпі-энд: чытанне, якое мы выбіраем

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**Калі прааналізаваць статыстыку кнігагандлю, нельга не адзначыць: у сучаснай беларускай літаратуры, выдадзенай на рускай мове, пальму першынства сярод самых чытаемых празаікаў утрымліваюць аўтары-жанчыны. Умоўна можна расставіць іх раманы і апавяданні на розныя палічкі: класічнага напрамку жаночай прозы (Юлія Ляшко, Наталля Батракова); літаратуру ў лепшых традыцыях "бразільскага серыяла" (Надзея Нядзеліна, Тамара Лісіцкая), дзе дзеля інтрыгі адыход ад рэальнасці дапушчальны; і гульню на чужым полі, з якой, дарэчы, жанчыны няблага спраўляюцца, — фэнтэзі (Ніка Батхан, Лера Сом, Вольга Грамыка).**

### Паміж “Кавалерам” і “Рэгістрам”

Выдаюцца гэтыя аўтары ў прыватных “Кавалеры” і “Рэгістры”, прычым для інфармацыйна-праваога агенцтва “Рэгістр” літаратура такой тэматыкі — “зямля невядомая”. Дырэктар “Рэгістра” Анатоль Атнагулаў расказвае: “Генератарам ідэі выдання кніг “для душы” выступіў наш заснавальнік Андрэй Карпунін”. Загадчык аддзела кніжнай прадукцыі Таццяна Фалалеева і намеснік дырэктара па выдавецкай дзейнасці Таццяна Карпуніна дадаюць, што эксперыменту папярэднічала грунтоўнае вывучэнне рынку. Карысталіся напрацоўкамі еўрапейскіх краін, бо сітуацыя амаль што аналагічная: 67 працэнтаў пакупнікоў — жанчыны. Мужчына звычайна чытае тое, што набыла жанчына ці прынеслі дзеці. Першай ластаўкай стала кніга Тамары Лісіцкай “Ідыёткі”. А пасля прыйшлі жанчыны-аўтары, вельмі розныя па творчым напрамку, але адзіныя ў сваім памкненні расказаць пра тое, з чаго складаецца паўсядзённае жыццё, як патрэбны ў ім каханне, дабрыня, спагада. У выдавецтва звярнуліся Юлія Ляшко, Лера Сом, Ніка Батхан, Вольга Грамыка... І ў выніку ўбачылі свет славянскае фэнтэзі і кінараман.

### Падарожжа ў іншыя сусветы

Жанчына-аўтар у фантастыцы — не правіла, а выключэнне, прыкладна як жанчына ў касмічнай прасторы. Так склалася, што гэта галіна літаратуры замацавана за летуценнікамі мужчынскага полу. Адзначым як вартыя ўвагі зборнікі “Грані” і “Востраў Рай”, выдадзеныя “Рэгістрам”. У першы ўвайшлі “Лістапад” і “Птушыным крыкам, воўчым скокам” Вольгі Грамыкі, “Венецыянскі лазурак” Нікі Батхан і перакладзены з беларускай мовы твор Леры Сом “Палонныя Вогнішча”, які ўжо друкаваўся ў перыёдыцы і заваяваў чытацкія сімпатыі. Фэнтэзі, створаныя названымі аўтарамі, бясспрэчна заслугоўваюць прачытання. У іх удала спалучаюцца старадаўнія міфалагічныя вобразы і дынамічны сюжэт. Многія апавяданні са зборніка “Востраў Рай” Нікі Батхан — яркі эмацыянальны водгук на радкі Міхаіла Шчарбакова, Аляксандра Галіча і іншых паэтаў, добра вядомых тым, хто любіць аўтарскую песню (“У гонар Грэцыі тваёй”, “Востраў Рай”, “Прыбываючы цягнік”).

### Паводле правіл класічнага выканання

Аматараў традыцыйнага рамана сярод пакупнікоў беларускіх кнігарань большасць. Пастаянныя пазіцыі ў топ-10 займае кніга Наталлі Батраковай “Плошча Згоды” (выдавецтва “Кавалер”). Многія з твораў Юліі Ляшко, аўтара кніг “Анёл у цемры” (выдавецтва “Рэгістр”) і “Сяброўка Восень” (выдавецтва “Беларускі Дом друку”), жывуць на экранах. Адметнасць прозы Наталлі Батраковай і Юліі Ляшко — бездакорна пабудаваны сюжэт. Як і ва ўсёй жаночай літаратуры, мяккай, трапяткой, тут абавязкова прысутнічае хэпі-энд, але героі і абставіны, у якіх яны дзейнічаюць, не выклікаюць у чытача раздражнення. Калі тканку раманаў Наталлі Батраковай можна назваць празрыстай і халаднаватай, Юлія Ляшко аддае перавагу цёплым паўтанам. Яе героі — у большасці звычайныя людзі, якіх кожную раніцу можна сустрэць у гарадскім натоўпе.

### Сварка, капялюш, салата…

…Гэта тое, што жанчыны здольны зрабіць з чаго заўгодна. “Naiv пра каханне” Надзеі Нядзелінай — найбольш яскравае адлюстраванне такой “стравы”. І хаця аўтар папярэджвае ва ўступным слове да кнігі, што персанажы і падзеі выдуманыя і не прэтэндуюць на якую-небудзь дакладнасць, дакладнасці ўсё ж хочацца. А выкладзеныя з неверагоднай падрабязнасцю перажыванні то ад імя героя, то ад імя гераіні даверу не выклікаюць. Асабліва ў частцы, калі гераіня пабыла ў шлюбе з іншым, але здолела не здрадзіць любаму, ён жа з’ездзіў у Амерыку — і таксама ёй не здрадзіў… У рэшце рэшт — зноў жа хэпі-энд.

Набор, якім карыстаецца Тамара Лісіцкая, куды больш разнастайны. Ад тэмпу, у якім разгортваецца сюжэт яе рамана “Ціхі цэнтр”, проста перахоплівае дыханне. Галоўнае, каб было кідка і кранальна: кватарантка выйдзе замуж за непаўнацэннага сына гаспадыні з-за самаахвярнасці, бізнесмен кіне здрадніцу мадэль і ажэніцца з юнацкім каханнем (пасля таго, зразумела, як каханая наведае спа-салон і ператворыцца ў прыгажуню, а перад гэтым удачарыць хворую на анкалогію дзяўчынку), актрыса — эгаістка і мізантропка — на парозе вечнасці з вялікім задавальненнем стане культурна развіваць дзяцей суседа-наркамана, а хранічная алкагалічка прыбіральшчыца кіне піць. Якая розніца, паважаны чытач, ды і глядач (бо твор хутка выйдзе на экраны), што факты не адпавядаюць рэальнасці — ЗАГСы не рэгіструюць шлюбы з непаўнацэннымі, у алкагалічак, у адрозненне ад алкаголікаў, няма шансаў і г.д. Асноўнае, як вы зразумелі, — татальны хэпі-энд!

Напрамак, які выбрала Т. Лісіцкая, — лацінаамерыканскі серыял з яго ненатуральнымі жарсцямі — мы даўно ўпадабалі і ніколі ад яго не адмовімся.

І зноў дадзім слова выдаўцам, для якіх попыт на жаночы раман і прыбытак ад выпуску кніг — далёка не пусты гук: “Нашы густы могуць не зусім супадаць з чытацкімі, але наяўнасць масавай літаратуры і яе запатрабаванасць ніхто не аспрэчвае”, — канстатуюць Т. Фалалеева і Т. Карпуніна. Не будзем спрачацца пра густы і мы. Наша мэта — агляд вялікага літаратурнага поля, чым і працягнем займацца надалей.

## Азбука Морзэ

Чэслава ПАЛУЯН

● Падчас XV міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі “СМІ ў Беларусі” адбылося ўзнагароджанне пераможцаў III Рэспубліканскага конкурсу на лепшую арганізацыю рэалізацыі друкаванай прадукцыі. У якасці ініцыятараў конкурсу выступілі Саюз выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў друку, РУП “Белсаюздрук”, ААТ “Белкніга” пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Так, лепшым прадпрыемствам гандлю друкаванай прадукцыяй стаў “Брэстаблсаюздрук”, лепшым прадпрыемствам гандлю кніжнай прадукцыяй ААТ “Белкніга”. У намінацыі “Лепшая кнігарня” дыплом І ступені атрымаў Цэнтральны кніжны магазін ААТ “Белкніга”, ІІ ступені — магазін “Іскра” ААТ “Брэсткніга”, ІІІ ступені — магазін № 18 “Равеснік” ААТ “Віцебсккніга”. Таксама былі названы пераможцы ў намінацыях “Лепшы магазін, кіёск, павільён па рэалізацыі перыядычных выданняў”, “Лепшы аб’ект гандлю папярова-дзелавымі таварамі”. РУП “Гроднааблсаюздрук” узнагароджана дыпломам у намінацыі “За эфектыўную папулярызацыю беларускага перыядычнага друку”, дыплом “За эфектыўную папулярызацыю беларускай кнігі” атрымала ААТ “Белкніга”. Не засталіся без увагі і асобы распаўсюджвальнікаў: лепшым прадаўцом кніг па выніках 2010 года стала Алена Касцян — прадавец Цэнтральнага кніжнага магазіна, лепшым прадаўцом перыядычнага друку назвалі Наталлю Каспяровіч, кіяскёра Маладзечанскага міжраённага аддзялення “Мінаблсаюздрук”.

— У выдавецтве “Адукацыя і выхаванне” ў серыі “Духоўная спадчына беларусаў” пабачыла свет кніга “Беларускае вяселле: таемныя ключы сямейнага шчасця”. У выданні разглядаюцца асноўныя правілы, прадпісанні, забароны і рэгламентацыі, звязаныя з падрыхтоўкай і правядзеннем вясельнай цырымоніі, апісваюцца традыцыйныя вытокі асноўных вясельных прыкмет і забабонаў.

● У цэнтры ўвагі Франкфуртскага кніжнага кірмашу-2011 апынецца гандаль новым важным рэсурсам — кантэнтам. Згодна з апошнімі даследаваннямі, выдавецтвы Германіі чакаюць, што з усіх найменняў выданняў больш як 6 працэнтаў будуць прададзены ў лічбавай форме, у ЗША гэты паказальнік ужо дасягнуў 8 працэнтаў. Таму ў 2011 годзе ўвесь павільён № 6.0 выставачнага комплексу ў Франкфурце (а гэта 7 тысяч квадратных метраў) будзе прызначаны для гандлю кантэнтам. У дадатак да цэнтра літаратурных агенцтваў і скаўтаў, з’явіцца яшчэ адна пляцоўка для дылераў кніжнай, гульнёвай і кінаіндустрыі — бізнес-цэнтр, дзе будуць гандляваць правамі і ліцэнзіямі на кантэнт, а таксама шукаць новыя формы супрацоўніцтва паміж галінамі.

— У Санкт-Пецярбургу адкрыліся дзве незалежныя кніжныя крамы. DIY-праект **“Все свободны”** распачаў працу ў канцы красавіка. У асартыменце — кнігі малатыражных і DIY-выдавецтваў, сучасная альтэрнатыўная мастацкая літаратура і нон-фікшн: выданні па мастацтве, філасофіі, сацыялогіі, гісторыі і іншых гуманітарных навуках. Незалежная кнігарня **“Борхес”** ужо месяц працуе ў тэставым рэжыме, і ў бліжэйшы час адбудзецца яе афіцыйнае адкрыццё. У якасці асноўных кірункаў асартыментнай палітыкі выбраны класічная і сучасная мастацкая літаратура з асаблівым акцэнтам на інтэлектуальнай прозе, навуковая і навукова-папулярная, а таксама дзіцячая літаратура. З восені запланавана і культурная праграма.

# Жарсці «ціхага» цэнтра

Ася ПАПЛАЎСКАЯ

**Тэле- і радыёвядучая Тамара Лісіцкая перавыдала свой другі раман “Ціхі цэнтр”. Кніга выйшла ў новай серыі “Кінараман” выдавецтва “Рэгістр”. У сакавіку наступнага года на адным з беларускіх тэлеканалаў мы зможам пабачыць чатырохсерыйны фільм “Ціхі цэнтр”, зняты на кінастудыі “Беларусьфільм” рэжысёрам Рэнатай Грыцковай.**

Новы варыянт рамана “Ціхі цэнтр” значна адрозніваецца ад папярэдняга, што пабачыў свет некалькі гадоў таму. Пасля таго, як Тамара напісала сцэнарый для фільма, яна перапрацавала і сам раман.

Адчуваецца, што перавыданне рамана рыхтавалася з аглядкай на фільм. У тэксце ўвесь час фігуруюць кіношныя тэрміны: “нейкае кінематаграфічнае здранцвенне”, “на імгненне выйшлі з агульнага сцэнара”, “гэта ж нейкі кінематаграфічны абсурд”… Зрэшты, Тамара Лісіцкая так ярка выпісала герояў рамана, што хочаш не хочаш, але пачынаеш адчуваць сябе суседам жыхароў старога дома. Дом насяляюць людзі нестандартныя, вельмі характэрныя: наркаман Міця з жонкай Аліяй і сынамі-джыгітамі Трыстанам і Эрыкам; дворнічыха-алкагалічка Ірына Паўлаўна з дачкой Таняй, журналісткай-фрылансерам; муж Тані Ігар, незапатрабаваны музыка-“геній”, які, як і цешча, жыве за кошт няшчаснай Тані; добрая і адказная Лілія Сцяпанаўна і яе сын з сіндромам Даўна Алёшанька… Жыццё дома і яго насельнікаў рэзка змяняецца са з’яўленнем у ціхім цэнтры бізнесмена Вадзіма, які, пажыўшы ды папрацаваўшы ў Маскве, вырашыў вярнуцца ў “радавое гняздо”, да




жонкі Волі, бяздарнай, не абцяжаранай розумам актрысы мадэльнай знешнасці.

Тамара Лісіцкая ў рамане ўзняла шэраг істотных праблем сучаснага грамадства. Адна з іх — *анкалагічныя захворванні*, якія забіраюць жыццё не толькі старых (актрыса Святлана Маркаўна трапляе ў бальніцу ў вельмі цяжкім стане), але і маладых (10-месячная дзяўчынка Даша).

Аўтар разглядае *праблему маральнага выбару і адказнасці бацькоў за дзяцей*. Да прыкладу — тая ж Даша, ад якой адмовіліся бацькі, калі даведаліся пра хваробу (Дашу напрыканцы рамана ўдачарае журналістка Таня) ды 33-гадовы Алёшанька з сіндромам Даўна, чыя матуля, наадварот, робіць усё, каб у сына было паўнавартаснае жыццё.

Яскрава адлюстроўваецца ў рамане *праблема творчай незапатрабаванасці*. Гітарыст-віртуоз Ігар не ўмее прадаваць свой талент, піша музыку, але не зарабляе ёй на жыццё. Яму даводзіцца граць на вяселлях для п’яных гасцей.

У поле зроку Тамары Лісіцкай трапляе *праблема смерці і яе пераадолення*. У рамане ёсць месца смерці біялагічнай (Святлане Маркаўне дактары паставілі невылечны дыягназ), якую немагчыма прыняць, якая даводзіць да адчаю, але дапамагае зразумець каштоўнасць жыцця.

Героі рамана Тамары Лісіцкай паміраюць не толькі біялагічна, але і духоўна. Наркаман і алкаголік Міця, бацька двух малых сыноў, ды маці Тані Ірына Паўлаўна, якая пачала піць пасля таго, як яе пакінуў муж. Для гэтых людзей жыццё скончылася даўно. Калі Міця гэта разумее і прымае, то Ірына Паўлаўна не верыць у заўчасную смерць. І — спраўляецца з ёй, кідае піць, кіруе рамонтам кватэры Святланы Маркаўны, якая таксама перамагла заўчасную смерць. А Міця, які паверыў у тое, што ён жывы нябожчык, скінуўся з даху дома пасля чарговай алкагольнай дозы…

У кароткай прадмове да рамана Тамара Лісіцкая напісала: “Гэта кніга была для мяне неабходнай. Я сама сабе адказала на вельмі істотныя пытанні. Я сама сабе распавяла, што такое каханне, прыгажосць, смерць, страх… Я сябе супакоіла гэтай кнігай”. Атрымалася распавесці не толькі сабе, але і чытачам. У гэтым рамане кожны знойдзе свае адказы на шматлікія актуальныя пытанні. Жыццё працягваецца, усё будзе добра — чырвонай стужкай праходзіць праз усе кнігі Тамары Лісіцкай.

# Для поклонников лирики и фантастики

Юзефа ВОЛК,
Ольга ПАВЛЮЧЕНКО

**В предыдущих выпусках "Кніжнага свету" мы знакомили читателей с издательскими сериями ООО "Харвест": "Библиотека Союза писателей Беларуси" и "Белорусская современная фантастика". Но книгоиздание не стоит на месте, и в этих сериях уже вышли новые книги. Их мы и представляем сегодня вашему вниманию.**



## Творцы от земли

Относительно белорусской литературы существует стереотип: произведения, созданные нашими земляками, либо рассказывают о Великой Отечественной войне, либо их действие происходит в деревне. Да, влияние природы (а значит, и деревни) на творчество наших авторов сложно отрицать. Все мы родом из деревни, всех нас зачаровывает спокойствие водных гладей, шум леса, запах свежевспаханной земли, но зачаровывает по-разному. Вот и писатели по-разному "выливают" свою причастность к земле на страницы произведений: кто-то в поэзии, кто-то в прозе, кто-то в воспоминаниях. Новые книги серии "Библиотека Союза писателей Беларуси" разные, но в то же время они об одном.

В книге **"Призраки Можейковской крепости"** заслуженный журналист и лауреат премии Белорусского союза журналистов, известный писатель **Славомир Антонович** рассказывает об истории Щучинщины, о людях, которые живут в этом регионе. Говоря о судьбах героев, автор неоднократно обращается к прошлому: монголо-татарскому нашествию, битве под Грюнвальдом, войне со шведами, восстанию 1863—1864 гг., Великой Отечественной войне, сопротивлению Армии Краёвой, войне в Афганистане. Рассказывает Славомир Антонович и о национально-освободительных движениях Речи Посполитой и Великого Княжества Литовского против российской, шведской, прусской интервенций в XVII веке. При этом нитью, связывающей времена и эпохи, становятся уникальные памятники архитектуры — Можейковская и Сынковичская церкви-крепости. Народные предания, легенды, пословицы, афоризмы органично вплетаются в канву повествования, передают особенности речи местного населения и служат маркерами эпохи. В романе рядом с вымышленными персонажами действуют реальные исторические личности, в нём рисуются живописные картины Щучинщины, той местности, где когда-то жил автор.

Ещё один сын Гродненской земли, поэт и прозаик **Алесь Божко** (родился в местечке Долгиново Кореличского района) в книге **"Выбраныя творы"** представляет иную картину своей родины — поэтическую. В книгу вошли произведения разных жанров: поэмы, повесть в стихах, миниатюры, стихи, короткие юмористические строфы, написанные в разное время. В своём творчестве Алесь Божко обращается к традиционным белорусским жанрам — легендам, балладам, с любовью создаёт пейзажи родной природы.

В книге стихов и прозы **"Маё лета" Геннадия Пашкова,** лауреата Государственной премии Республики Беларусь (он, кстати, родившись на Витебщине, детство провёл в Сморгонском районе, на Гродненщине) лирика соседствует с документализмом. Автор даже придумал новый жанр для одного из своих произведений — лирически-документальный дневник. В стихах Геннадия Петровича создаётся многоголосый и красочный образ родной земли и человека, который лишь в созидании доброго и светлого видит смысл жизни. Произведения открытые, искренние, с лёгкой ноткой грусти. Так же



можно охарактеризовать и его путевые заметки "На крыльях ветров", в основу которых легли путешествия по Горыни и Припяти, по Южной Корее, Туркмении. И везде поэт находит следы белорусов, во всём видит красоту и очарование.

Совершенно иная по характеру книга **Владимира Липского "Споведзь сына = Исповедь сына"**. В ней душа писателя ведёт беседу с небом, словно исповедуется перед родителями, которые жили на земле жизнью, полной хлопот, радости и драматизма. Автор постепенно убеждает читателя, что нужно сначала полюбить тех, кто подарил нам жизнь, и тогда мы поймём, для чего пришли в этот мир, тогда почувствуем себя дочерьми и сыновьями своих Родителей, а Беларусь — Родиной.

## В выпукло-вогнутом зеркале

Даже если действие происходит в совершенно невообразимом месте, а герои обладают абсолютно нечеловеческой внешностью, любовь и ненависть, которые ими движут, близки и понятны читателю — ведь что такое на самом деле фантастика, как не отражение наших страхов, надежд и чаяний?!

В серии "Белорусская современная фантастика" вышли книги **Валерия Строкина "Рама", Геннадия Ануфриева "Тотем", Валерия Иванова-Смоленского "Записки кладоискателя" и "За 100 лет до Большого Взрыва"**.

В книгу В. Строкина вошли фантастический роман "Рама" и две повести — "Смерть Германариха" и "Я — Степан Ларин". Действие романа происходит в языческие времена. Глобальное похолодание, наступление неизвестных племён с севера и война с Чёрными племенами юга вынуждают индоариев к великому переселению. В боевой поход в качестве старшего жреца отправляется Рама из рода Волка, один из братьев-близнецов, через два месяца после рождения отданный на воспитание лесному жрецу…

Герой повести "Я — Степан Ларин" — журналист, отыскавший компромат на главу акционерного общества "Газнефтьуголь" Брынчалова, рвущегося к посту президента, ещё в студенческие годы под гипнозом узнал, что в прошлой жизни был Степаном Разиным. Уволенный с работы, он попадает в психушку, где пишет дневник — как Степан Разин.

В **"Тотеме"** леденящие до дрожи убийства, тела без видимых признаков насилия, но с дубовой веточкой на груди, хотя дубы и близко не растут, зимняя охота волков на подростка, призраки из далёкой войны… "Тотем" Г. Ануфриева — не только роман, сочетающий такие популярные жанры, как фантастический боевик, фэнтэзи, детектив и мистический триллер, но и рассказы, которые тоже неплохо щекочут нервы. Чего стоит рассказ "Плюшевый медвежонок" о мести игрушек, с которыми жестоко обошлись хозяева когда-то в детстве. Несомненно, понравится читателю наделённый



чувством юмора самосовершенствующийся робот из рассказа "Опять этот робот!", а кое-кого заставит призадуматься случай с фантастом-писателем Дождевым, к которому заглянул сотрудник брачного межгалактического агентства. (Писатель как раз возмечтал, что где-то есть женщина, которая сумела бы понять творческого человека лучше, чем его законная супруга.) Или "Побочный эффект": когда при запуске Большого андронного коллайдера на экране контрольного центра появился удивительный старец, о чём, впрочем, мировой общественности не сообщили.

**"Записки кладоискателя"** В. Иванова-Смоленского основаны на реальных событиях. Опытный поисковик поведает читателю о своём увлечении и кладах, которые нашёл на территории России, Беларуси, Польши. На страницах данного издания есть и легенды о кладах, и документы, указывающие на их местоположение. Замирая от ужаса, читатель окажется с неуёмным героем в подземелье фальшивомонетчика



пана Демковича. Кирпичный свод рухнул, и кладоискатель попал в завал. Мобильник отсюда не берёт, из еды — пачка жвачки. Воды, правда, целая фляга. Удастся ли выбраться из-под завала, если сверху — огромный дуб, а о прочности его древесины наслышан каждый…

Тема спасения мира уже стала привычной. А вот спасение целой Вселенной — это звучит куда более заманчиво! О том, что Вселенной серьёзно угрожают, случайно узнаёт ребёнок, заглянувший в телескоп астронома-любителя. Астроном искал новую звезду для мамы мальчика, в которую он влюблен ещё со школьных лет, а тут такое… Малыш вдруг стал задавать совершенно недетские вопросы и нарисовал схему созвездия, из которого исходит опасность. Информация, которую получил мальчик, попадает в специализированный НИИ, подключаются все научные силы планеты и даже ФСБ. Грядёт грандиозная битва.

# Погоня, погоня в горячей крови

Денис МАРТИНОВИЧ



"Усталость забыта // Колышется чад, // И снова копыта, // как сердце, стучат. // И нет нам покоя, // Гори, но живи! // Погоня, погоня, погоня, погоня// В горячей крови", — пели герои фильма "Неуловимые мстители", безумно популярного в советские времена. Действие картины разворачивалось во время Гражданской войны. Но вне зависимости от эпохи, изображённой на экране, песня посвящена такой актуальной проблеме, как задержание подозреваемого или преступника. Серьёзно об этой теме — в монографии **"Задержание в уголовном кодексе Республики Беларусь" Людмилы Зайцевой**, заведующей кафедрой прокурорской деятельности Института переподготовки и повышения квалификации судей, работников прокуратуры, судов и учреждений юстиции Белорусского государственного университета, и **Алексея Пурса**, адвоката Минской городской коллегии адвокатов.

Первая глава книги посвящена развитию законодательства и научных исследований о проблеме задержания. Читатель узнает, что первые упоминания о задержании (применительно к территории современной Беларуси) встречаются еще в IX — X веках в памятниках древнерусского права, в частности, в различных редакциях и списках Русской Правды. Позднее задержание было включено в Статуты ВКЛ 1566 и 1588 годов, термин применялся в законодательстве Российской империи, СССР.

Во второй главе рассматривается понятие задержания и процесс принятия решения о его производстве в уголовном процессе Республики Беларусь. Уточняются его цели, мотивы, основания, условия. Третья, заключительная глава посвящена правовой регламентации задержания различных участников уголовного процесса в Беларуси.

Также монография содержит список публикаций авторов и 7 приложений, которые представляют собой как юридические документы, так и различные анкеты и графики, созданные в результате исследовательской работы с работниками прокуратуры, судьями и адвокатами. Книга будет интересна научным работникам, преподавателям и студентам юридических вузов, сотрудникам правоохранительных органов, а также широкому кругу читателей, интересующихся вопросами уголовного процесса.

Працяг. Пачатак у № 4, 6 — 18.

# Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих специальное разрешение (лицензию) на осуществление издательской деятельности, по состоянию на 1 января 2011 года

* 1—официальная литература, 2—научная, 3—научно-популярная, 4—производственно-практическая, 6—учебная, 7—массово-политическая, 8—справочная, 9—для досуга, 10—литературно-художественная, 12—духовно-просветительная.

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учётный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Составляющие издательской деятельности: по тематическим направлениям | Срок действия лицензии |
|---|---|---|---|---|---|
| ООО «Белпринт» | 220013, г. Минск, пр. Ф.Скорины, д. 77, к. 414, 416, 418, 420 | 100389707 | 0133010, выд. 1.04.2004 №77, ан.15.09.2009 № 107 | 2, 3, 4, 6, 8, 9,10 | |
| РУП «Белтаможсервис» | 220136, г. Минск, 4-й пер. Монтажников, 7 | 101561144 | 0494381, выд.1.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 №31 | 4, 8, 9 | 1.04.2014 |
| ПТЧУП «АРТИ-ФЕКС» | 220072, г. Минск, ул. Академическая, д. 1, к. 130 | 100177079 | 0056971,выд. 1.04.2004 №77, ан.17.02.10 г. №18 | 3, 8 | |
| ООО «Три клена» | 220073, г. Минск, ул. Гусовского, д. 6 | 101155424 | 0133011, выд.1.04.2004 №77, ан. 17.02.10 г. №8 | 4, 8 | |
| ЧУП «БАМАП-СЕРВИС» | 220000, г. Минск, ул. Бабушкина, 27, к. 32 | 190024323 | 0133012, выд. 01.04.2004 №77, ан. 17.02.10 г. № 18 | 4, 8 | |
| ПЧУП «Ризондис» | 220030, Минск, ул. Красноармейская, 24-4 | 100668175 | 0150090 выд.30.04.2004 №94, ан.13.07.10 №114 | 4, 8 | |
| Торгово-издательское ЧУП «Издательский дом «МОЛПРЕСС» | 220004, Минск, ул. Короля, 2-705 | 190263565 | 0549426 выд.30.04.2004 №94, прод.8.04.2009 №39 | 8, 9 | 30.04.2014 |
| ОДО «Информационно-рекламное агентство «Паляшук» | 225710, г. Пинск, ул. Калиновского, д. 32 | 290288462 | 0549422 выд.30.04.2004 №94вн.изм. 07.04.2006 №39 | 8, 9 | 30.04.2014 |
| Коммунальное ПУП «Колор» | 247760, Мозырь, ул. Октябрьская, 12 | 400086953 | 0494373 выд.30.042004 №94, прод.16.03.2009 №31 | 4, 8, 9, 10 | 30.04.2014 |
| ООО «ЕВОЛЬВЕНТА» | 220012, Минск, ул. К. Чорного, 33-А, к. 5 | 100424248 | 0494412 выд.30.04.2004 №94, прод.8.04.2009 №39 | 3, 4, 8, 9 | 30.04.2014 |
| «Издательский дом «БЕЛОРУССКАЯ НАУКА» | 220141, Минск, Староборисовский тракт, 40 | 101121158 | 0131569 выд.11.05.2004 №74 | 1, 2, 3, 4, 6, 7, 8, 9, 10 | |
| ПРУП «Минская фабрика цветной печати» | 220024, Минск, ул. Корженевского, 20 | 1000617706 | 0494375 выд.30.04.2004 №94, прод. 16.03.2009 №31 | 1, 2, 3, 4, 6, 7, 8, 9, 10, 12 | 30.04.2014 |
| ОО «Беларускі фонд культуры» | 220029, Минск, ул. Коммунальная набережная, 6 | 100081886 | 0494413 выд.30.04.2004 №94, прод.8.04.2009 №39 | 3, 10 | 30.04.2014 |
| ИЧУП «КНИЖНЫЙ ДОМ» | 220114, г. Минск, пр. Независимости, 109-3 | 100378923 | 0494477 вн.изм.10.02.2006 г. | 2, 3, 4, 6, 8, 9, 10 | 30.04.2014 |
| ООО «Открытое письмо» | 220002, Минск, ул. В. Хоружей, 31а-314 | 101316187 | 0133054 выд.30.04.2004 №94, ан.13.07.10 г. | 8, 9 | |
| Научно-производственное РУП «Белорусский государственный институт стандартизации и сертификации» | 220113, Минск, ул. Мележа, 3 | 100219737 | 0552843 выд.30.04.2004 №94 прод.8.04.2009 №39 | 1, 2, 4, 8 | 30.04.2014 |
| «Библейское общество в Республике Беларусь», межконфессиональное христианское религиозное братство — религиозная организация | 220093, Минск, ул. Чигладзе, 19 | 100224395 | 0494474 выд.30.04.2004 №94, прод.8.04.2009 №39 | 6, 8, 10, 12 | 30.04.2014 |
| ЗАО «Православная инициатива» | 220071, Минск, ул. Берестянская, 17 | 100654336 | 0056965 выд.30.04.2004 №94, ан.31.07.2006 г. | 3, 8, 9, 12 | |
| «Свято-Елисаветинский женский монастырь Минской епархии Белорусской Православной Церкви», религиозная организация | 220053, г. Минск, Марусинский пер., д.3 | 600684609 | 0494415 выд.30.04.2004 №94, вн.изм. 12.05.2006 г. | 10, 12 | 30.04.2014 |
| Религиозная организация «Белорусская Православная Церковь» | 220004, Минск, ул. Освобождения, 10 | 101463603 | 0494462 выд.30.04.2004 №94, прод.8.04.2009 №39 | 2, 3, 8, 10, 12 | 30.04.2014 |
| Религиозная община евангельских христиан баптистов «Церковь Пробуждение» | 220046, Минск, ул. Таежная, 72а | 100386871 | 0494455 выд.30.04.2004 №94 прод.8.04.2009 №39 | 12 | 30.04.2014 |
| ООО «СИМОН» | 220004, Минск, ул. Раковская, 36-4 | 100205081 | 0056976 выд.30.04.2004 №94, ан.13.07.10 №114 | 3, 4; 6, 8, 9 | 30.04.2014 |
| ИП ЧУП «ТЕХНОПРИНТ» | 220013, Минск, ул. К. Чорного, 35, офис 5а | 100827953 | 0056932 выд.30.04.2004 №94, ан.13.07.10 №114 | 2, 3, 4, 6, 8, 9, 10 | |
| ЧП УП «БелАниГал» | 225320, Барановичи, ул. Новаторов, 24 | 290307388 | 0549407 выд.30.04.2004 №94, прод.8.04.2009 №39 | 2, 3, 4, 8 | |
| ООО «Янсеян» | 220000, Минск, Бетонный пр., 17-29 | 100442542 | 0494272 выд.30.04.2004 №94, прод.8.04.2009 №39 | 8, 9 | 30.04.2014 |
| ОО «Белорусская ассоциация «Конкурс» | 220040, г. Минск, ул. Беды, 24–100А | 101195383 | 0549448, выд.30.04.2004 №94 | 3, 6, 8, 9 | 30.04.2014 |
| ООО «Букстар» | 220089, Минск,ул. Железнодорожная, 27а-20 | 101431314 | 0133087 выд.30.04.2004 №94, ан.9.10.07 г. №154 | 9 | |
| «ГалаСтиль», ИУП | 220036, г. Минск, ул. Р. Люксембург, 89-29 | 101372578 | 0549465 выд.30.04.2004 №94 | | 30.04.2014 |
| ЗАО «Белбизнеспресс» | 220028, Минск, ул. Козыревская, 15 | 100648008 | 0549430 выд.30.04.2004 №94 | 2, 3, 4, 8, 9 | 30.04.2014 |
| ОО «Белорусская олимпийская академия» | 220020, Минск, пр. Машерова, 105 | 101844039 | 0133091 выд.30.04.2004 №94 | 3, 4, 6, 8, 9 | 30.04.2014 |
| УО «Белорусский государственный экономический университет» | 220672, Минск, пр. Партизанский, 26 | 100015608 | 0494500 выд.30.04.2004 №94 | 2, 4, 6, 8 | 30.04.2014 |
| ГУ «Республиканский учебно-методический центр физического воспитания населения» | 220005, Минск, пр. Ф. Скорины, 49 | 00377529 | 0133092 выд.30.04.2004 №94, ан.8.122008 №142 | 2, 3, 4, 6, 8 | |
| ООО «Ксантел» | 220092, Минск, пр. Пушкина, 39-1220 | 190221616 | 0133093 выд.30.04.2004 №94, ан.13.07.10 г. | 8, 9 | |
| У «Белорусский научно-исследовательский институт документоведения и архивного дела» | 220002, Минск, ул. Кропоткина, 55 | 100129230 | 0494378 выд.30.04.2004 №94, прод. 16.03.2009 №31 | 2, 4, 8 | 30.04.2014 |
| ЗАО «Фармасервис» | 220012, Минск, ул. Толбухина, 12, пом.71 | 100992179 | 0133095 выд.30.04.2004 № 94, ан.13.03.08 №39 | 4, 8, 9 | |
| Религиозная миссия «Хрысціянскае місіянерскае таварыства «Благавест» | 224013, Брест, ул., Халтурина, 31 «В»-2 | 200720498 | 0494456 выд.30.04.2004 №94, прод.8.04.2009 №39 | 10, 12 | 30.04.2014 |
| ОО «Беларускі літаратурны фонд» | 220034, Минск, ул. Фрунзе, 5 | 100027337 | 0056994 выд.30.04.2004 №94, ан.11.10.10 №164 | 2, 3, 4, 6, 8, 9, 10 | |
| ЗАО «Современные знания» | 220023, Минск, ул. Филимонова, 69-307 | 100126683 | 0133076 выд.30.04.2004 №94, ан.08.04.2009 №39 | 2, 4, 6, 8 | |
| ГНУ «Институт физиологии Национальной академии наук Беларуси» | 220072, Минск, ул Академическая, 28 | 100217308 | 0494402 выд.30.04.2004 №94, прод. 16.03.2009 №31 | 2,3,4,8 | 30.04.2014 |
| ГНУ «Институт математики Национальной Академии наук Беларуси» | 220072, Минск, ул. Сурганова,11 | 100217323 | 0549443 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 2,3,4,8 | 30.04.2014 |
| ИЧУП «УНИВЕРСАЛПРЕСС» | 220039, Минск, ул. Брилевского, 3-1 | 190315286 | 0056977 выд. 30.04.2004 №94, ан.13.07.10 г. №114 | 2,3,6,8,9,10 | |
| ИП Королюк Ю.Н. | 230000, Гродно, ул. Домбровского, 61-9 | 500280633 | 0494438 выд. 30.04.2004 №94, прод.8.04.2009 №39 | | 30.04.2014 |
| ИП Кубарев Ю.Е. | 230000, Гродно, ул. Дзержинского, 127-82 | 500078154 | 0494437 выд. 30.04.2004 №94, прод.8.04.2009 №39 | | 30.04.2014 |
| ИП Молодечкин О.В. | 211440, Новополоцк, ул. Молодёжная | 300495038 | 0494283 выд. 30.04.2004 №94, прод.8.04.2009 №39 | 3,8,9 | 30.04.2014 |

### Паляванне

**Охота и рыбалка в Беларуси** = Hunting and fishing in Belarus / [фото: С. Плыткевич, И. Бышнев; перевод на английский: А. Таболич]. — Минск: Рифтур, 2010. — 20 с. — Параллельно на русском и английском языках. — 500 экз.

### Харчаванне. Гатаванне ежы

**Справочник работника общественного питания** / ООО «Научно-информационный центр – БАК»; [авторы-составители: В. Н. Радевич и др.]. — Минск: НИЦ-БАК, 2011. — 471 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6842-20-0.

**Блины и блинчики**: просто и вкусно. — Минск: Харвест, 2010. — 35 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9307-4.

**Блюда из картофеля**: просто и вкусно. — Минск: Харвест, 2010. — 34 с.— 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9310-4.

**Блюда на каждый день**. — Минск: Харвест, 2010. — 35 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9326-5.

**Вкусные соленья**. — Минск: Харвест, 2010. — 35 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9321-0.

**Горячие бутерброды**. — Минск: Харвест, 2010. — 35 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9316-6.

**Готовим быстро и вкусно**: бутерброды, салаты, закуски. — Минск: Харвест, 2010. — 35 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9311-1.

**Готовим в глиняных горшочках**: просто и вкусно. — Минск: Харвест, 2010. — 33 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9322-7.

**Готовим в духовке**: просто и вкусно. — Минск: Харвест, 2010. — 34 с.— 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9312-8.

**Завтраки**: быстро и вкусно. — Минск: Харвест, 2010. — 33 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9324-1.

**Закуски из мяса**. — Москва: АСТ; Минск: Харвест, 2011. — 34 с. — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-033331-8 (АСТ). — ISBN 978-985-16-2295-1 (Харвест).

**Заливные блюда**: быстро и вкусно. — Минск: Харвест, 2010. — 35 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9323-4.

**Запеканки**: просто и вкусно. — Минск: Харвест, 2010. — 31 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9306-7.

**Кухня раздельного питания**. — Минск: Харвест, 2010. — 35 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9319-7.

**Лучшие блюда для праздничного стола**. — Минск: Харвест, 2010. — 33 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9314-2.

**Лучшие блюда на пару**. — Минск: Харвест, 2010. — 33 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9304-3.

**Лучшие блюда на пару**. — Минск: Харвест, 2011. — 33 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-6375-6.

**Мартынов, В. Л.** 1000 идей для украшения стола / В. Л. Мартынов. — Минск: Харвест, 2010. — 127 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-16-8003-6 (в пер.).

**Оливье и винегреты**. — Минск: Харвест, 2011. — 35 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-6369-5.

**Оливье и винегреты**. — Минск: Харвест, 2010. — 35 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9318-0.

**Пиццы**: мясные, рыбные, овощные, фруктовые. — Минск: Харвест, 2010. — 35 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9308-1.

**Плов**: мясной, рыбный, овощной, фруктовый, молочный. — Минск: Харвест, 2010. — 35 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9305-0.

**Постный стол**. — Москва: АСТ; Минск: Харвест, 2010. — 207 с. — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-032715-7 (АСТ). — ISBN 978-985-13-4432-7 (Харвест) (в пер.).

**Праздничные салаты**: мясные, рыбные, овощные, фруктовые. — Минск: Харвест, 2010. — 35 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9303-6.

**Самые вкусные котлеты, отбивные, стейки**. — Минск: Харвест, 2010. — 35 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9327-2.

**Самые вкусные мясные блюда**. — Минск: Харвест, 2010. — 33 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9313-5.

**Самые вкусные пироги и пирожки**. — Минск: Харвест, 2010. — 35 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9315-9.

**Самые вкусные салаты**. — Минск: Харвест, 2010. — 35 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9325-8.

**Сборник рецептур, блюд и кулинарных изделий для ресторанов, кафе, клубов, баров и столовых**. — Минск: Харвест, 2010. — 799 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-16-1815-2 (в пер.).

**Свекольные супы, борщи, солянки, окрошки**. — Минск: Харвест, 2010. — 34 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9317-3.

**Современный рецептурный кулинарный справочник**: для предприятий общественного питания с таблицами расчетов готовой продукции в граммах, порциях и калориях. — Минск: Харвест, 2010. — 799 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-16-6768-6 (в пер.).

**Суши**: нигири, темаки, тираси, кимпап. — Минск: Харвест, 2010. — 35 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9302-9.

**Торты и пирожные**: просто и вкусно. — Минск: Харвест, 2010. — 33 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9309-8.

**У вас гости! Великолепное угощение за 5 минут**. — Минск: Харвест, 2010. — 35 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9329-6.

**Фаршированные блюда**: быстро и вкусно. — Минск: Харвест, 2010. — 34 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9328-9.

### Тэлекамунікацыя і дыстанцыйнае кіраванне (арганізацыя і эксплуатацыя)

**Бизнес-продовольствие, 2010–2011**: телефонный справочник / [составители: Аполоник Н. Л. и др.]. — Минск: Бизнес-Информ, 2010. — 175 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-90221-5-9.

**Деловая Беларусь'2011**: республиканский информационный каталог: [по состоянию на 22.12.2010 / составители: С. Стецко и др.]. — Минск: Альфа-ЛиС, 2011. — 679 с. — 15000 экз. (1-й з-д 9 тысяч 50). — ISBN 978-985-6654-18-6 (в пер.).

**Контакт! Брест, 2011**: телефонный справочник / [составители: Акулова Г. и др.]. — 4-е изд. — Минск: Белфакта Медиа, 2010. — 273 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-6463-73-3.

**Контакт! Гродно, 2011**: телефонный справочник / [составители: Акулова Г. и др.; фото: Дыбовский А. Л., Юшевич Н. Н.]. — 7-е изд. — Минск: Белфакта Медиа, 2010. — 305 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-6463-72-6.

**Контакт! Минск, 2011**: городской телефонный справочник / [составители: Акулова Г. и др.]. — [16-е изд.]. — Минск: Белфакта Медиа, 2010. — 543 с. — 40000 экз. — ISBN 978-985-6463-71-9.

**Минск. Городской исполнительный комитет**. Телефонный справочник Минского городского исполнительного комитета, его отделов, управлений, комитетов, городских служб, администраций районов / [Минский городской исполнительный комитет]. — Минск, 2010. — 137 с. — 1200 экз.

**Минский индекс**: краткий адресно-телефонный справочник / [составители: В. К. Медведева и др.]. — Изд. 9-е, исправленное и дополненное. — Минск: Квадрограф, 2011. — 126 с. — 6000 экз. — ISBN 978-985-6434-60-3.

### Выдавецкая справа. Кніжны гандаль

**XVIII Минская международная книжная выставка-ярмарка, 9–13 февраля 2011 г.**: каталог участников. — Минск, 2011. — 98 с. — 450 экз.

### Транспарт

**Транспорт** / [Жук А. и др.; составитель Е. В. Гриценко]. — Минск: КапиталМедиаГрупп, 2011. — 326 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-90-214-6-6.

### Дарожны (бязрэйкавы) транспарт

**Дороги Беларуси, 2010**: год качества в дорожной отрасли / [главный редактор Николай Лещенко]. — Минск: Редакция газеты «Транспортный вестник», 2011. — 101 с. — 2500 экз.

**Перевозка опасных грузов автомобильным транспортом в Республике Беларусь**: в 2 ч. / [составители: И. А. Лазарь, Г. А. Протосовицкий]. — Минск: Центр охраны труда и промышленной безопасности, 2011. — ISBN 978-985-6915-29-4.

Ч. 1. — 349 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-6915-30-0.

Ч. 2. — 541 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6915-31-7.

**Правила дорожного движения**: с изменениями и дополнениями согласно Указа Президента Республики Беларусь № 526 от 18 октября 2007 г., согласно Указа Президента Республики Беларусь № 663 от 4 декабря 2008 г., согласно Указа Президента Республики Беларусь № 52 от 23 января 2009 г., согласно Указа Президента Республики Беларусь № 634 от 17 декабря 2009 г., согласно Указа Президента Республики Беларусь № 611 от 25 ноября 2010 г. — Минск: Современная школа, 2011. — 63 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-539-061-0.

**Правила дорожного движения**: с изменениями и дополнениями согласно Указа Президента Республики Беларусь № 526 от 18 октября 2007 г., согласно Указа Президента Республики Беларусь № 663 от 4 декабря 2008 г., согласно Указа Президента Республики Беларусь № 52 от 23 января 2009 г., согласно Указа Президента Республики Беларусь № 634 от 17 декабря 2009 г., согласно Указа Президента Республики Беларусь № 611 от 25 ноября 2010 г. — Минск: Современная школа, 2011. — 63 с. 10000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-985-539-204-1. — ISBN 978-965-539-204-1 (ошибоч.).

**Правила дорожного движения и меры ответственности за их нарушение**: по состоянию на 4 января 2011 г. — Минск: Национальный центр правовой информации Республики Беларусь, 2011. — 142 с. — 16600 экз. — ISBN 978-985-6928-12-6.

**Правила дорожного движения Республики Беларусь**: с изменениями и дополнениями (Указ Президента Республики Беларусь № 611 от 25.11.2010 г.). — Минск: Юнипресс, 2011. — 95 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-532-475-2.

**Правила дорожного движения Республики Беларусь**: с изменениями и дополнениями (Указ Президента Республики Беларусь № 611 от 25.11.2010 г.). — Минск: Юнипресс, 2011. — 95 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-532-492-9.

**Сосно, М. М.** Полный учебный комплект для обучения Правилам дорожного движения Республики Беларусь: [с изменениями и дополнениями]: согласовано с УГАИ МОБ МВД Республики Беларусь / М. М. Сосно, В. Г. Пиульский. — Минск: Харвест, 2010. — 272 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-9096-7.

**Экзамен в ГИБДД**: категория A, B: 40 новых экзаменационных билетов / [автор-составитель Николай Владимирович Беляев]. — Минск: Современный литератор, 2011. — 167 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-14-1557-7.

### Рэйкавы транспарт. Чыгуначны рух

**Белорусская железная дорога** = Belarusian railway. — Минск, 2011. — 40 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — 500 экз.

**Берлин, Н. П.** Комплексная механизация и автоматизация погрузочно-разгрузочных и складских работ на железнодорожном транспорте: учебное пособие для студентов высших учебных заведений по специальности «Организация перевозок и управление на железнодорожном транспорте» / Н. П. Берлин, В. Я. Негрей, Н. П. Негрей; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет транспорта, Кафедра «Управление грузовой и коммерческой работой», «Транспортные узлы». — Гомель: БГУТ, 2010. — 226 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-468-803-9 (в пер.).

### Водны транспарт

**Водный транспорт Республики Беларусь, 2011**. — Минск: Рифтур, 2011. — 20 с. — 500 экз.

### Бухгалтэрыя. Бухгалтарскі ўлік

**Основные средства: учет и амортизация**: сборник нормативных документов. — 8-е изд., измененное и дополненное. — Минск: Информпресс, 2011. — 269 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-510-153-7.

**Папковская, П. Я.** Теория бухгалтерского учета: учебник для студентов высших учебных заведений по специальности «Бухгалтерский учет, анализ и аудит» / П. Я. Папковская. — 7-е изд., стереотипное. — Минск: Информпресс, 2011. — 263 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-510-151-3.

**Патиевская, И. К.** Автоматизация хозяйственной деятельности предприятия средствами программы «1С: Предприятие»: учебно-методическое пособие / И. К. Патиевская, З. Е. Жигарь, Т. Н. Бацалева; Министерство труда и социальной защиты Республики Беларусь, Государственное учреждение образования «Республиканский институт повышения квалификации и переподготовки работников Министерства труда и социальной защиты Республики Беларусь». — Минск: РИПК Минтруда и соцзащиты, 2010. — 35 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6865-81-0.

### Арганізацыя вытворчасці. Кіраванне. Эканоміка прадпрыемстваў

**Дадалко, А. В.** Экономическая безопасность предприятий депрессивных отраслей промышленности: монография / А. В. Дадалко. — Минск: ИВЦ Минфина, 2011. — 146 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6993-16-2.

**Маляренко, Т. А.** Экономика предприятия и управление производством: курс лекций по одноименной дисциплине для студентов специальности 1-53 01 05 «Автоматизированные электроприводы» дневной и заочной форм обучения: в 2 ч. / Т. А. Маляренко; Министерство образования Республики Беларусь, Гомельский государственный технический университет им. П. О. Сухого, Кафедра «Экономика и управление в отраслях». — Гомель: ГГТУ, 2011– — ISBN 978-985-420-972-2.

Ч. 1. — 2011. — 63 с. — 37 экз. — ISBN 978-985-420-970-8.

**Сборник примерных инструкций по охране труда** / [составитель А. П. Тылиндус]. — Минск: КапиталМедиаГрупп, 2011. — 279 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-90214-5-9.

**Синица, Л. М.** Организация производства: учебник для студентов высших учебных заведений по специальности «Экономика и управление на предприятии» / Л. М. Синица. — 2-е изд. — Минск: ИВЦ Минфина, 2011. — 532 с. — 600 экз. — ISBN 978-985-6993-14-8.

**Сорокина, Т. Д.** Экономика предприятия отрасли. Экономика организации: методическое пособие для студентов специальностей 1-26 02 02 «Менеджмент» и 1-25 01 08 «Бухгалтерский учет, анализ и аудит» дневной формы обучения / Т. Д. Сорокина; Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Белорусский национальный технический университет, Кафедра менеджмента. — Минск: БНТУ, 2011. — 53 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-525-426-4.

**Управление налогами в финансовой системе организации: состояние и развитие**: монография / [Г. А. Якубенко и др.]; Белкоопсоюз, Белорусский торгово-экономический университет потребительской кооперации. — Гомель: БТЭУПК, 2011. — 179 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-461-823-4.

### Інфармацыйная работа. Сувязі з грамадскасцю

**Коктыш, А. С.** Что дает новый закон о СМИ: станет ли медийное законодательство стимулятором белорусского информационного рынка? / А. С. Коктыш, Ю. П. Топорашев; Фонд им. Фридриха Эберта. — Минск: Логвинов И. П., 2010. — 78 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6991-05-2.

### Хімічная тэхналогія ў цэлым

**Зедлец, И. И.** Опыт разработки и внедрения топливоиспользующих технологических установок / И. И. Зедлец. — Минск: ИТМО НАН Беларуси, 2011. — 41 с. — 80 экз.

### Харчовая прамысловасць

**Деликатная, И. О.** Основы товароведения (продовольственные товары): курс лекций для студентов специальностей 1-25 01 03 «Мировая экономика», 1-25 01 04 «Финансы и кредит», 1-25 01 07 «Экономика и управление на предприятии», 1-25 01 08 «Бухгалтерский учет, анализ и аудит», 1-25 01 11 «Аудит и ревизия», 1-26 02 02 «Менеджмент», 1-26 02 03 «Маркетинг» / И. О. Деликатная, Ж. В. Кадолич, Л. Я. Лазько; Белкоопсоюз, Белорусский торгово-экономический университет потребительской кооперации. — Гомель: БТЭУПК, 2011. — 127 с. — 400 экз. — ISBN 978-985-461-821-0.

**Пищевая и перерабатывающая промышленность, 2010/11**: [информационно-рекламный каталог / составитель: Лещинская А. С.]. — Минск: Инфофорум, 2010. — 269 с. — Заглавие обложки и часть текста параллельно на русском и английском языках. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6788-20-1.

### Прамысловая мікрабіялогія

**"Кока-Кола Бевриджиз Белоруссия», иностранное предприятие (поселок Колядичи, Минский район)**. Отчет о социальной ответственности ИП «Кока-Кола Бевриджиз Белоруссия», 2009. — 2010. — 39 с. — 299 экз.

### Харчовая прамысловасць у цэлым

**Гаспадары белага золата**: кніга нарысаў / ААТ "Слуцкі цукровафінадны камбінат". — Мінск: Минкопринт, 2011. — 192 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-6996-04-0.

### Смолы. Камедзі

**Правила пожарной безопасности Республики Беларусь для объектов хранения, транспортирования и отпуска нефтепродуктов**: ППБ 2.11-2010: [срок введения в действие 01.03.11: разработаны взамен «Правил пожарной безопасности Республики Беларусь для объектов хранения, транспортирования и отпуска нефтепродуктов. ППБ 2.11-2001» / Министерство по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь, Государственный пожарный надзор]. — Минск, 2011. — 300 экз.

### Шкляная прамысловасць

**Терещенко, И. М.** Технология листового стекла: учебное пособие для студентов высших учебных заведений по специальности «Химическая технология неорганических веществ, материалов и изделий» / И. М. Терещенко; Белорусский государственный технологический университет. — Минск: БГТУ, 2010. — 358 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-434-942-8 (в пер.).

### Дрэваапрацоўчая прамысловасць

**Деревообработка** = Woodworking: 17-я международная специализированная выставка. Биоэнергетика = Bioenergy: международный специализированный салон. Мебельные компоненты, фурнитура и материалы = Furniture components, accessories and materials: международный специализированный салон, 26–29.10.2010, Минск: каталог выставок. — Минск: Колор Медиа, 2010. — 151 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — 750 экз.

**Эберхардштайнер, Й.** Механические свойства еловой древесины. Экспериментальное определение прочности при двухосном напряжении = Mechanisches Verhalten von Fichtenholz. Experimentelle Bestimmung der biaxialen Festigkeitseigenschaften / Йозеф Эберхардштайнер ; перевод с немецкого [Е. В. Крутиковой]; под научной редакцией С. Н. Леоновича. — Минск: БНТУ, 2010. — 173 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-525-563-6.

### Прамысловасць высокамалекулярных рэчываў

**Мозгалев, В. В.** Расчет и конструирование резиновых изделий и форм: учебно-методическое пособие для студентов высших учебных заведений, обучающихся по специальности 1-48 01 02 «Химическая технология органических веществ, материалов и изделий» специализации 1-48 01 02 05 «Технология переработки эластомеров» / В. В. Мозгалев, П. К. Липлянин; Белорусский государственный технологический университет. — Минск: БГТУ, 2010. — 147 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-434-967-1.

**Слепнева, Л. М.** Физикохимия полимеров: пособие по дисциплине «Физикохимия полимеров» для студентов направления специальности 1-36 20 02-01 «Упаковочное производство (проектирование и дизайн упаковки)» заочной формы обучения / Л. М. Слепнева; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский национальный технический университет, Кафедра «Химия». — Минск: БНТУ, 2011. — 134 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-525-371-7.

### Аўтаматыка

**Сизенов, В. А.** Электронные устройства автоматики: конспект лекций для студентов специальности 1-53 01 01 «Автоматизация технологических процессов и производств» / В. А. Сизенов; Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет продовольствия, Кафедра автоматизации технологических процессов и производств. — Могилев: МгГУП, 2009–

Ч. 2 : (второй семестр). — 2010. — 143 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-6979-12-8.

### Аматарскія рамёствы. Тэхнічныя хобі

**Драко, М.** Веселые игрушки из шариков для моделирования / Михаил Драко. — Минск: Попурри, 2011. — 63 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1176-7.

**Драко, М.** Прикольные фигурки из шариков для моделирования / Михаил Драко. — Минск: Попурри, 2011. — 62 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1177-4.

### Будаўніцтва. Будаўніча-мантажныя работы

**Альбом паспортов проектов для повторного применения в строительстве**: дополнение к выпуску 6 «Жилые здания. Общественные здания. Здания и сооружения транспорта» / Министерство архитектуры и строительства Республики Беларусь, РУП «Минсктиппроект»; [составители: Л. М. Стаховская, О. Н. Барнева]. — Минск: Минсктиппроект, 2011. —65 с. — 75 экз.

**Альбом паспортов типовых проектов и типовых проектных решений для строительства объектов различного назначения в Республике Беларусь. Типовые проекты предприятий, зданий и сооружений** / Министерство архитектуры и строительства Республики Беларусь, РУП «Минсктиппроект» ; [составители: Л. М. Стаховская, А. А. Малюга]. — Минск: Минсктиппроект, 2011. — 70 экз.

**Дочернее предприятие «Гродненская СПМК-61»**: 40 лет строим необычные объекты. — Минск: Редакция газеты «Транспортный вестник», 2010. — 23 с.— 500 экз.

**Карабань, Л. П.** Создавая облик Новополоцка, 1961–2011: 50 лет СУ-124 / Л. П. Карабань, А. В. Жибуль; [фото В. М. Щемелева]. — Минск: Минсктиппроект, 2011. — 94 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-6735-78-6 (в пер.).

**МАПИД – строительное предприятие**: 50 лет: вечные ценности / [ОАО «МАПИД»]. — Минск, 2011. — 46 с. — 1500 экз.

**Нормативно-технические документы по экономике строительства. Ресурсно-сметные нормы на пусконаладочные работы**: утверждено Министерством архитектуры и строительства Республики Беларусь 12.11.07: введено 01.01.08. — Изд. официальное. — Минск: Минстройархитектуры Республики Беларусь.

Сб. 2: Автоматизированные системы управления: РСН 8.03.402-2007: взамен «Ценника на пусконаладочные работы (ЦПНР-91) № 2 «Автоматизированные системы управления». — Стройэконорм, 2007 (2011). — 25 с. — 99 экз.

Сб. 3: Системы вентиляции и кондиционирования воздуха: РСН 8.03.403-2007: взамен «Ценника на пусконаладочные работы (ЦПНР-91) № 3 «Системы вентиляции и кондиционирования воздуха». — Стройэконорм, 2007 (2011). — 77 с. — 99 экз.

**Нормативно-технические документы по экономике строительства. Ресурсносметные нормы на ремонтно-строительные работы**: утверждено Министерством архитектуры и строительства Республики Беларусь 12.11.07: введено 01.01.08. — Изд. официальное. — Минск: Минстройархитектуры Республики Беларусь.

Сб. 55: Перегородки: РСН 8.03.355-2007: взамен сб. 55 «Перегородки» (СНБ 8.03.355-02). — Стройэконорм, 2007 (2011). — 75 с. — 150 экз.

**Нормативно-технические документы по экономике строительства. Ресурсно-сметные нормы на строительные конструкции и работы**: утверждено Министерством архитектуры и строительства Республики Беларусь 12.11.07: введено 01.01.08. — Изд. официальное. — Минск: Минстройархитектуры Республики Беларусь.

Сб. 6: Бетонные и железобетонные конструкции монолитные: РСН 8.03.106-2007: взамен сб. 6 «Бетонные и железобетонные конструкции монолитные» (СНБ 8.03.106-2000). — Стройэконорм, 2007 (2011). — 404 с. — 99 экз.

Сб. 8: Конструкции из кирпича и блоков: РСН 8.03.108-2007: взамен сб. 8 «Конструкции из кирпича и блоков» (СНБ 8.03.108-2000). — Стройэконорм, 2007 (2011). — 529 с. — 99 экз.

Сб. 15: Отделочные работы, кн. 1: РСН 8.03.115-2007: взамен сб. 15 «Отделочные работы» (СНБ 8.03.115-2000). — Стройэконорм, 2007 (2011). — 348 с. — 99 экз.

Сб. 15: Отделочные работы, кн. 2: РСН 8.03.115-2007: взамен сб. 15 «Отделочные работы» (СНБ 8.03.115-2000). — Стройэконорм, 2007 (2011). — 365 с. — 99 экз.

Сб. 35: Горнопроходческие работы, кн. 1: РСН 8.03.135-2007: взамен сб. 35 «Горнопроходческие работы», кн. 1 (СНБ 8.03.135-2006). — Стройэконорм, 2007 (2011). — 622 с. — 20 экз.

Сб. 41: Гидроизоляционные работы в гидротехнических сооружениях: РСН 8.03.141-2007: взамен сб. 41 «Гидроизоляционные работы в гидротехнических сооружениях» (СНБ 8.03.141-02). — 4-е изд. — Стройэконорм, 2010. — 56 с. — 50 экз.

Сб. 42: Берегоукрепительные работы: РСН 8.03.142-2007: взамен сб. 42 «Берегоукрепительные работы» (СНБ 8.03.142-02). — 4-е изд. — Стройэконорм, 2010. — 90 с. — 50 экз.

**Нормативно-технические документы по экономике строительства. Сборник сметных цен на материалы, изделия и конструкции**: утверждено Министерством архитектуры и строительства Республики Беларусь 12.11.07. — Изд. официальное. — Минск: Минстройархитектуры Республики Беларусь.

Ч. 4: Бетонные и железобетонные изделия и конструкции. Керамические изделия. Нерудные материалы. Товарные бетоны и растворы: РСН 8.06.104-2007: взамен «Сборника сметных цен на материалы, изделия и конструкции для условий строительства в Республике Беларусь. Ч. 4. Местные материалы». — 3-е изд. — Стройэконорм, 2010. — 244 с. — 100 экз.

**Нормативно-технические документы по экономике строительства. Сборник сметных цен на перевозку грузов для строительства автомобильным и железнодорожным транспортом**: РСН 8.06.106-2007: утверждено Министерством архитектуры и строительства Республики Беларусь 12.11.07. — 3-е изд., официальное. — Минск: Минстройархитектуры Республики Беларусь: Стройэконорм, 2010. — 55 с. — 100 экз.

**Перечень типовых проектов и типовых проектных решений для строительства объектов различного назначения в Республике Беларусь. Типовые проекты предприятий, зданий и сооружений**: (по состоянию на 1 января 2011 г.) / Министерство архитектуры и строительства Республики Беларусь, Республиканское унитарное предприятие «Минсктиппроект»; [составители: Л. М. Стаховская, А. А. Малюга]. — Минск: Минсктиппроект, 2011. —37 с. — 55 экз.

**Сборник индексов изменения стоимости ремонтно-строительных работ и информации об отпускных ценах на материалы и изделия** / Министерство архитектуры и строительства Республики Беларусь, Республиканское унитарное предприятие «Республиканский научно-технический центр по ценообразованию в строительстве». — Минск: РНТЦ, 2011–

Вып. 1: Январь. — 2011. — 254 с. — 1114 экз.

**Сборник индексов изменения стоимости, цен и тарифов в строительстве по регионам и в среднем по Республике Беларусь** / Министерство архитектуры и строительства Республики Беларусь, Республиканское унитарное предприятие «Республиканский научно-технический центр по ценообразованию в строительстве». — Минск: РНТЦ, 2011–

Вып. 1: Январь, кн. 1. — 2011. — 529 с. — 1842 экз.

Вып. 1: Январь, кн. 1 (приложение). — 2011. — 156 с. — 1998 экз.

Вып. 1: Январь, кн. 2. — 2011. — 358 с. — 1851 экз.

**Энергосбережение в жилищном строительстве. Пассивный дом – строительные технологии XXI века**: международная научно-техническая конференция, [Минск, 8 декабря 2010 г.]: сборник докладов. — Минск: Редакция журнала «Архитектура и строительство», 2010. — 63 с. — 200 экз.

### Санітарна-тэхнічнае абсталяванне будынкаў і яго мантаж

**Открытое акционерное общество «Трест Белсантехмонтаж № 1» Новополоцкое монтажное управление**: 50 лет со дня основания. — Полоцк: Полоцкое книжное издательство, 2010. — 15 с. — 400 экз. — ISBN 978-985-6936-25-1.

## МАСТАЦТВА. ЗАБАВЫ. ВІДОВІШЧЫ. СПОРТ

### Планіроўка. Ландшафтная і садова-паркавая архітэктура

**Потаев, Г. А.** Формирование архитектурно-ландшафтных композиций: учебно-методическое пособие по дисциплине «Ландшафтная архитектура» для студентов специальности 1-69 01 01 «Архитектура» / Г. А. Потаев, Е. Е. Нитиевская. — Минск: БНТУ, 2010. — 28 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-525-379-3.

### Архітэктура

**Республиканский перечень проектов для повторного применения в строительстве**: дополнение к выпуску 6 «Жилые здания. Общественные здания. Здания и сооружения транспорта» / Министерство архитектуры и строительства Республики Беларусь, РУП «Минсктиппроект»; [составители: Л. М. Стаховская, О. Н. Барнева]. — Минск: Минсктиппроект, 2011. — 11 с. — 65 экз.

**Шарков, А. В.** Воинские захоронения Первой мировой войны в Беларуси = Soldatengräberanlagen aus dem Ersten Weltkrieg in Belarus / Анатолий Шарков, Вячеслав Селеменев; Национальный архив Республики Беларусь, Академия Министерства внутренних дел Республики Беларусь, Институт им. Л. Больцмана по исследованию последствий войн. — Минск: НАРБ, 2010. — 185 с. — Обложка и текст параллельно на русском и немецком языках. — 50 экз. — ISBN 978-985-6372-71-4.

### Выяўленчае мастацтва

**Ткач, Е. В.** Композиция: 2-й класс: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с белорусским и русским языками обучения / Е. В. Ткач; Национальный институт образования. — Минск: Асар, 2010. — 43 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-6984-22-1.

### Маляванне і чарчэнне

**Волкова, И. Г.** Традиционные художественные техники: учебное пособие для учащихся 4-го класса общеобразовательных учреждений / И. Г. Волкова; Научно-методическое учреждение «Национальный институт образования» Министерства образования Республики Беларусь. — Минск: Асар, 2011. — 51 с. — 3800 экз. — ISBN 978-985-6984-09-2.

**Хамм, Д.** Как рисовать животных / Джек Хамм; [перевод с английского – Ю. Б. Халапук]. — 4-е изд. — Минск: Попурри, 2010. — 125 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1302-0.

# Франэк… Франсіска…

## Апавяданне



Ірына Масляніцына

Яна ўляцела ў рэдакцыйны хол, здаецца, у апошнюю хвіліну. Паспела! Калі Мартынаўна (ужо гэтая мне Мартынаўна! Адно імя па бацьку чаго вартае!) зноў уздумае хадзіць па кабінетах правяраць, хто там яшчэ не на месцы, — абломіцца ёй! Зрэшты, скуль у галаве гэтыя тынэйджарскія слоўцы? Сын днямі з гімназіі прынёс, а яна аказалася зусім без імунітэту, вось і заразілася.

— Марына! Марына Дзмітрыеўна! — Мартынаўна акругла ўплыла ў пакой, дзе ўжо, схіліўшыся над паперамі, распачыналі рэдакцыйную раніцу чацвёра "ваўкоў айчыннай журналістыкі". — Інфармацыйны блок ад вас у сакратарыяце чакаюць да адзінаццаці!

Ну, і якая справа той Мартынаўне да інфармацыйнага блока? Сядзі ў сваім аддзеле кадраў! Ды не ж, пасунецца ў сакратарыят, у бухгалтэрыю, у рэдактарскую прыёмную. Яна паўсюль! Яна патрэбная ўсім!

— Так-так, Надзея Мартынаўна, я памятаю! Блок амаль падрыхтаваны!

Марына ўключыла камп'ютар і звыкла "расчыніла" Інтэрнэт. Белтаўскія "ўсялезныя" хлопцы і дзяўчаты ўжо накідалі на свой сайт найноўшых падзей. Заставалася выбраць і прыгожа апрацаваць. Хаця тры "эксклюзівы" Марына знайшла сама — дарэчы, патэлефанавалі знаёмы дырэктар артсалона, "дзіцячы фонд" і "саюз прадпрымальнікаў". Марына магла ганарыцца сваёй кемлівасцю.

Прагледаючы тэматычны пералік навін, яна міжволі трапіла на паведамленне: "Беларусь зацікаўлена ў далейшым пашырэнні кола сяброў на Паўднёваамерыканскім кантыненце і гатова значна актывізаваць усебаковыя стасункі з Нікарагуа і Парагваем…"

Марына, націснуўшы на правы бачок камп'ютарнай мышы, машынальна вылучыла гэтае паведамленне, хаця тэматычна яно зусім не падыходзіла для яе блока…

"Лацінская Амерыка, нягледзячы на геаграфічную аддаленасць, стала для Беларусі рэгіёнам асаблівага прыцягнення і ўвагі, — развівалася далей думка ў белтаўскай нататцы. — "Думаю, што ў гэтым годзе мы ўжо можам канстатаваць значны прагрэс у нашых узаемаадносінах", — сказаў Прэзідэнт Беларусі, звяртаючыся да пасла Нікарагуа Луіса Альбэртa Маліна Куадра..."

— У гэтых лацінасаў ва ўсіх такія бясконцыя імёны! І, самае смешнае, ніяк не вылучыць, якая частка імені — галоўная. — "Кубінка" Ірка сядзіць на парапеце масточка цераз Свіслач і пагойдвае нагою. Нага даўгая — самая даўгая на курсе — і апранута ў панчошкі-"сетачку". Гэта ёй хтосьці з кубінскіх сяброў падарыў — апошняе вішчэнне моды 1982 года. Гамяльчанка Ірачка — дзяўчына Арланды, сама смуглявая і хуткая. За два месяцы навучылася па-іспанску балбатаць — здольная да моў. Яна наогул здольная, амаль што выдатніца. А кубінскія студэнты з іншымі і не сябруюць. Яны — амаль усе камуністы, ідэйныя. Прыехалі ў Савецкі Саюз вучыцца будаваць сапраўдны сацыялізм. Кажуць, нібыта Фідэль Кастра даў ім таемнае заданне — прывезці на Кубу жонкамі маладых ідэйных камсамолак.

Ну, так яно ці не, а Марыне даводзілася назіраць, як выпраўлялі на радзіму недарэку-Рамона. Ён не здолеў як след авалодаць рускай мовай на падфаку і не быў дапушчаны да асноўнага навучання. "Сорам табе! — сказаў кубінскі інтэрнацкі "староста". — Куба сабрала грошы, каб заплаціць за тваю адукацыю, а ты здрадзіў Кубе! Ты здрадзіў нашай рэвалюцыі! Што ты скажаш Фідэлю? Ці зможаш ты паглядзець яму ў вочы?" І Рамон схіляў сваю па-негрыцянску кучаравую галаву і закрываў твар рукамі, нібыта і сапраўды паверыўшы ў тое, што сустракаць яго, з ганьбай вернутага ў Гавану, у аэрапорт прыедзе сам Кастра.

Кубінцаў у БДУ вучылася шмат. Яны стваралі імідж іспанамоўнай Амерыкі. Іншыя "лацінасы" ці то далучаліся да кубінцаў, калі трэба было арганізаваць нейкае там студэнцкае мерапрыемства — навуковае, культурнае, — ці то трымаліся асобкава. Тыя, хто не з Кубай, беларускія дзяўчаты ведалі, — тыя капіталісты. У іх усё несур'ёзна. Калі пагуляць ды дзеля падарункаў — пагаджаюцца. А інакш — лепей не разлічваць.

Франсіска Ганна Андрэс Крыстабаль Кіхана Гансалес капіталістам не быў. Малады сандыніст з Нікарагуа сціпла сядзеў у куточку вялікага пакоя Арланды і піў маленечкімі кубачкамі каву. Ён бы папіў яе і сышоў — гэтак жа ціхмяна. І ніхто не даведаўся б пра тое, што Гансалес — адзіны ў сям'і мужчына пасля гібелі бацькі і старэйшага брата, васямнаццацігадовы рэвалюцыянер са слядамі катаванняў на целе (даваўся патрапіць у рукі контрас). Ён летуценна любіць вершы, з замілаваннем назірае за заляцаннямі галубоў і марыць стаць інжынерам. (Масты, тунэлі… Ці бачыла ты, як цягнік праз тунэль дзьме? Нібыта "шатл" праз касмічную чорную дзірку.) Ніхто б не даведаўся, каб у той дзень Ірка не пацягнула Марыну да свайго сябрука. Надта ж кісла Марына выглядала пасля здачы чарговага заліку.

У кубінцаў было свята — чыйсьці дзень нараджэння. Грымела музыка. Арланда (вось яжа кухар!) згатаваў экзатычны (гэта для нас, а не для іх, канечне) торт з кавалачкамі прытарнай гуавы (з-за акіяна ў Мінск студэнтам прыслалі пасылкі, гуава была сярод пачастункаў).

Хлопцы — сама непасрэднасць — замахалі прывітальна рукамі, пабачыўшы нечаканых гасцей. Арландаву дзяўчыну ведалі. З Марынай пачалі вітацца. Тыкалі пальцамі адно ў аднаго і называлі імёны. Зусім не тыя даўгія, пра якія гэтак жартаўліва казала Ірка. Акрамя Арланды, там былі Праспэра, Луіс, Мігель — два Мігелі, К'яра, Габрыель, Сезар, Алісія… Нікарагуанец вітацца не падышоў, але, незразумела чаму, Марына амаль што адразу апынулася ў тым жа куточку, прыціснутая да яго сталом і шумнай кампаніяй. І Гансалес вымушаны быў сарамліва прапаноўваць суседцы стравы з багатага студэнцкага стала.

У нікарагуанца былі даўгія, па плечы, валасы і смуглявая, нібыта ў цыгана, скура. Позірк ён рахмана хаваў ад Марыны. Бліжэй да поўначы — на Кубе ў гэты час дзень Божы — кампанія распачала скокі. Заходзілі суседзі ўтаймаваць кубінцаў, але саступілі абаянню гаспадароў пакоя і нават пакаштавалі Арландавага торта. Алісія і Праспэра паказвалі Ірцы навамодны танец рэгі. Блакітныя, як нябёсы над ціхмянай вёскай Марынінай бабулі, юнацкія вочы спыніліся на яе твары, і яе далонькі здрадліва пахаладзелі. Гансалес глядзеў на яе, нібыта чакаючы дазволу — на слова, рух, звычайную прапанову патанцаваць. Гэта было дзіўна. Гэтаксама як наяўнасць такіх светлых, такіх празрыстых вачэй на смуглявым абліччы.

— Ты манах? — хрыпла вымавіла яна чамусьці.

Тады ён засмяяўся, звонка, весела і нібыта нават з палёгкаю.

— Я не манах. Але мяне назвалі ў гонар манаха, — вымавіў ён урэшце, ды так чысцютка, так правільна, нібыта і зусім не быў іншаземцам. — Франсіска. Як Франсіска Асізскага. Ён быў другім па ліку рэвалюцыянерам на зямлі.

— А першым?

— А першым — Хрыстос.

Іх размова пачалася адразу з такога абароту, пасля якога спускацца да празаічнага: "Давай патанчым!" было ўсё роўна што, знаходзячыся на даху, амаль пад аблокамі, прапаноўваць спусціцца ў падвал, маўляў, там лепш бачна краявіды.

— Нашы камуністы не вераць у Бога, — памаўчаўшы, прагаварыла Марына. Проста яна ўзгадала, што да кубінцаў на вечарынкі хадзіць толькі партыйныя.

— Ты камуністка?

— Я камсамолка. І камсамольцы таксама ў Бога не вераць.

— Але Хрыстос быў, — чамусьці задумліва прамовіў ён.

Можа і быў. Марына не спрачалася. Не таму, што не магла падабраць аргументаў. Ёй, камсоргу групы, дачцэ партыйнага райкамаўскага чыноўніка, гэта было не цяжка. Проста не хацелася. Сэрца, здаецца, перасунулася са свайго насэджанага месца амаль пад горла, і дыханне перакрылася, гарачынь ударыла ў твар. Арландава віно? Не трэба было яго піць!

У пакоі, перапоўненым людзьмі, было душна, але ад Франсіскі пахла нейкай салёнай свежасцю — нібыта ён толькі што выйшаў з мора…

Марына дзівілася таму, як жа нерэальна ўсё ў іх з Франэкам (а менавіта так пачала на другі ж дзень знаёмства звяртацца яна да Франсіска) адбываецца. Яны няўхільна збліжаліся, але збліжаліся інакш, чым усе тыя пары, назіраць за развіццём пачуццяў якіх маглі, — усёй існасцю, кожнай думкай, адклікаючыся ўзрывам самых нечаканых эмоцый на любы рух, інтанацыю голасу, дотык. Нібыта парасткі маладых дрэўцаў, пасаджаных надта блізка, яны прараслі адно ў адным, ператвараючыся ў нешта суцэльнае, узаемадапаўняльнае. У сугучча, у суквецце… "У анёла, — казаў Франэк, — бо анёл — гэта дзве закаханыя істоты, аб'яднаныя Богам у адну форму".

І пры ўсім гэтым узаемным зачараванні адносіны іх ніяк не пераходзілі ў стан фізічнай блізкасці.

— І ты лічыш, гэта нармалёва? — Ірчыны бровы здзіўлена паехалі на сярэдзіну лба.

— А нармалёва — гэта калі адразу ў ложак цягнуць, як твой Арланда? — успыхнула Марына.

— Ну, скажам, не Арланда мяне, а я яго ў ложак зацягнула. Каб не перадумаў. У нас усё як мае быць. Я з ім на Кубу паеду!

— А Франэк хоча застацца ў Саюзе. І яшчэ ён прасіў пазнаёміць яго з маімі бацькамі.

— Ён што — з сярэднявечнай кнігі выпаўз?

Далейшая размова станавілася бесперспектыўнай. Ну як растлумачыць сяброўцы, што Франэк — зусім не дзіўны, ён — "правільны". І яе, Марыну, таксама выхоўвалі быць "правільнай". І не такая ўжо розная ў іх "правільнасць", калі разабрацца.

— Камсамолка стварае сям'ю асэнсавана і толькі па каханні, — чула Марына, здаецца, з самага дзяцінства.

— Мой дзед вучыў мяне, што жонку трэба абіраць аднойчы і назаўжды. І берагчы яе, як уласнае жыццё, — распавядаў Франэк. — Ці ведаеш, мы належым да старажытнага крэольскага роду. Ва ўсіх энцыклапедыях можна прачытаць пра тое, што пасля Калумба ў Нікарагуа прыплыў іспанец Гансалес Д'Авіла, які пасябраваў з індзейцамі і далучыў іх да хрысціянства. Мы лічым сябе яго нашчадкамі… Хочаш стаць адной з Гансалес?

— І думаць не думай! — бацькаў голас узляцеў да столі. Яна бачыла яго гнеўным, але ў такой раз'юшанасці — ніколі. — Гэта здрада радзіме!

— Якая здрада! — агрызалася Марына. — Ірка на Кубу з Арланда збіраецца! А я не збіраюся нікуды з'язджаць. Ты мне не давяраеш? А з якой нагоды? Я калі-небудзь цябе падвяла? Не спраўдзіла тваіх спадзяванняў? Ён — рэвалюцыянер, сандыніст. Ён чэсны, ён сапраўдны. І так, я кахаю яго, і мне не сорамна, таму што нічога дрэннага не было паміж намі!

— А ты ведаеш, што ў іх там цяпер у Нікарагуа адбываецца? — голас бацькі перастаў грымець, стаў ціхім, нібыта ён штосьці распавядаў па сакрэце.

— Што? — у прадчуванні нечага нядобрага Марына сціснулася.

— Трэба навіны ўважліва слухаць,— бацька ледзь не трыумфаваў. — І не толькі слухаць — аналізаваць. Гэта ў іх там доўжыцца ўжо каля месяца…

Падзеі аказаліся і сапраўды не такімі, каб пра іх можна было распавядаць з аптымізмам. Сандыніцкі ўрад уступіў у стадыю новай барацьбы. Падтрыманыя Злучанымі Штатамі, актывізаваліся контрас. Паўднёваамерыканскія ваенныя самалёты нахабна бамбілі Нікарагуа. Маракі з рэйганаўскіх караблёў таемна падкладалі ў партах міны. Сандыністы адклікалі членаў партыі, накіраваных на вучобу на Кубу і ў СССР. І выходзіла па бацькавых словах, што для прадбачлівага Гансалеса жаніцьба з савецкай дзяўчынай магла стаць ратавальным білетам, які вызваліў бы яго ад вайны…

— Я не адчуваю больш цябе, — вымавіў Франэк. — Гэта балюча і крыўдна. Яшчэ больш крыўдна, што ты не хочаш сказаць, што здарылася.

— Ты таксама не ўсё мне расказваеш. Ты вяртаешся ў Нікарагуа, а я пра тое даведваюся ад тэлевізара (ай, як сорамна хлусіць! Які тэлевізар?!).

— Калі ты захочаш, я застануся з табой, — проста вымавіў ён. І для яе гэта стала доказам. Усяго таго, пра што нервова і настойліва гаварыў ёй бацька. Усіх самых цёмных нашэптванняў, якія заўжды жывуць у закаханай душы. Доказам таго, што ёю скарысталіся. Як лялькай. Як рэччу. Што яе абразілі так недаравальна, як нікога да яе.

— Рэвалюцыя вышэй за каханне, — вымавіла яна, імкнучыся стрымаць сябе. Атрымалася рэзка і з'едліва.

Ён доўга маўчаў.

— Ведаеш, Марына, вучні Хрыста таксама маглі хадзіць па вадзе як па зямлі. Пакуль верылі ў тое, што могуць. Калі ж адзін з іх засумняваўся, вада ў яго пад нагамі разышлася, і ён пачаў тануць…

З Нікарагуа Франэк даслаў усяго два лісты. Адно — адразу ж па прыездзе ў Манагуа — яшчэ цёплае, яшчэ летуценнае. Другое — праз месяц — суровае, лаканічнае. "Нас чакаюць пакуты і смерць, — пісаў ён. — І я дзякаваў святому Франсіску за тое, што ты засталася ў свеце бяспечным і прыгожым…"

Яна не адказала яму. Пісьмы скончыліся. А хутка Нікарагуа і наогул перастала хваляваць Марыну. Вучоба, пагоня за чырвоным дыпломам, прэстыжная сталічная газета, позняе, але ўдалае замужжа, нараджэнне сына... Іншы раз, перабіраючы паперы ў нетрах пісьмовага стала, яна натыкалася на даўгі блакітны канверт, што прыйшоў ёй аднойчы з-за акіяна. Чамусьці ёй не хацелася ад яго пазбаўляцца. Неяк канверцік знайшоў муж. "Можа, звернемся ў перадачу "Чакай мяне!" — прапанаваў ён. — Гэта ж цікава! У Нікарагуа, кажуць, зноў "левыя" ля ўлады, і там цяпер спакойна. Ты пазнаёміш яго са мной, ён пазнаёміць цябе са сваёй жонкай"…

Яна запярэчыла суха і катэгарычна — уся гэтая гісторыя адбылася надта даўно, і не варта нешта ўзгадваць.

Чаму ж гэтак зашчымела сэрца цяпер, калі на экране камп'ютара высвяціліся два словы побач — Беларусь і Нікарагуа? Уявіла, як Франсіска, ужо крыху сівы, бацька траіх ці чацвярых дзяцей, прыязджае ў Мінск з нікарагуанскай дэлегацыяй падпісваць дамову. Якую? Будаваць масты, тунэлі? Яна ведае, што адчувае пасажыр, калі цягнік імкліва ўрываецца ў цёмную пашчу тунэля. Яна сама была такім пасажырам — за пятнаццаць гадоў журналісцкай працы давялося паездзіць па розных камандзіроўках. Пасажыр трапляе ў амаль касмічную самоту, нібыта і не ў цягніку зусім едзе, а ляціць праз міжпланетную прастору на "шатле". Можа, менавіта таму заўжды ў тунэлях гэтых узгадвала яна Франэка, свайго першага каханага, які не стаў першым мужчынам…

Гэта няпраўда, што яна не хацела яго больш бачыць (чамусьці слёзы так па-здрадніцку выплываюць з-пад павек)… А што праўда?.. Праўда тое, што яна ведала ўвесь гэты час… Ад чаго старанна адхрышчвалася… Аберагала сябе, сваё сумленне, свой спакой… Франсіскі Ганны Андрэса Крыстабаля Кіхана Гансалеса больш няма. Зусім няма. Ён загінуў у калматы, расхрыстаны 1984 год, неўзабаве пасля таго, як яна атрымала яго апошні ліст. Сэрца Франэка спынілася тады, калі яна без усялякай выстлумачальнай прычыны раптам страціла прытомнасць проста ў студэнцкай аўдыторыі. Меркавалі, паспрыяла духмень. Але яна ведала: справа ў іншым. Яна адчула, як, разварочваючы сэрца, раздзіраючы душу, невядомая сіла выцягвае з яе карэнні існасці Франэка… А пасля яна ачуняла — і не захацела мірыцца з гэтым… Яна загадала сабе думаць пра Франэка як пра жывога.

Ды што ж рабіць з гэтымі слязьмі? Калегі-мужчыны пайшлі смаліць — як заўжды ў гэты час…

Я магла стаць адной з Гансалесаў…

Вярнуўшыся з курылкі, "ваўкі пяра" пабачылі даволі нязвыклую мізансцэну. Заўжды аптымістычная загадчыца аддзела інфармацыі Марына рыдала ў голас, а "шкодная" Мартынаўна суцяшала яе, абняўшы за плечы і па-мацярынску гладзячы па галаве…

# Шчыра і артыстычна

## Тэатральны спектакль вачамі прафесара філалогіі

Іван ШТЭЙНЕР,
фота Алега Белаусава

**Нядаўна ў Гомельскім абласным драматычным тэатры адбылася прэм'ера спектакля паводле аповесці Івана Шамякіна “Гандлярка і паэт”. Імпрэза звязана з дзвюма знамянальнымі датамі: 90-годдзем з дня нараджэння нашага славутага земляка і 70-годдзем з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны, — сувязь паміж якімі выключна арганічная і заканамерная.**

У Гомельскім абласным драматычным тэатры ва ўсе часы шанавалася мастацкае слова, а вялікая літаратура станавілася асновай спектакляў, што набывалі шырокі розгалас. Напрыклад, у розныя гады былі інсцэніраваныя раманы Івана Шамякіна “Глыбокая плынь”, “Крыніцы”, “Сэрца на далоні”, “Снежныя зімы”, “Атланты і карыятыды”; “Палеская дылогія” Івана Мележа, шматлікія ўзоры беларускай прозы, не гаворачы пра драматургію. Гэтая слаўная традыцыя адраджаецца цяпер, калі мастацкім кіраўніком і дырэктарам тэатра стаў адметны рэжысёр У. Чэпелеў, які не толькі надзвычай тонка разумее спецыфіку розных відаў мастацтва, але і падтрымлівае самыя разнастайныя эксперыменты ў сферы творчасці.

Намер сцэнічнага ўвасаблення шамякінскай прозы ўспрымаецца заўсёды даволі насцярожана. Іван Пятровіч, адзін з самых папулярных пісьменнікаў 1970—80-х гадоў, займеў шырокую вядомасць у тагачаснай вялікай краіне перш за ўсё здольнасцю ўзнімаць актуальныя праблемы сучаснасці, пра якія гаварыў у такой займальнай і цікавай форме, памайстэрску закручваючы сюжэты сваіх твораў, што ўражаны чытач не мог супакоіцца, пакуль не перагортваў апошнюю старонку. Яго творы станавіліся сапраўднымі бестселерамі, цікавымі для чытачоў рознага ўзросту і сацыяльнага становішча. Таму перад кожным, хто на практыцы сустракаецца з праблемай пераўвасаблення адметнасцей прозы вобразна-выяўленчымі сродкамі апякункі іншага мастацтва, заўсёды паўстае дылемай: як, якім чынам, якім ладам? Невыпадкова многія сумняваюцца ў паспяховай рэалізацыі такіх творчых памкненняў, згадаем, што Васіль Быкаў даволі скептычна ставіўся да інсцэнізацыі і экранізацыі сваіх твораў, не вельмі пазнаваў сваё ў балеце, створаным паводле “Альпійскай балады”.

Складаная задача стаяла перад аўтарам інсцэніроўкі і рэжысёрам Сяргеем Пазднякам. Якую ж форму абраць для паказу эвалюцыі героіні, якімі сродкамі карыстацца, каб глядач паверыў у такія метамарфозы? Што ж на сцэне: гераічная балада, філасофская прыпавесць, агітацыйны лубок, а можа, сімбіёз, кангламерат усяго пазначанага? Дарэчы, сам твор, напісаны ў 1975 годзе, атрымаў далёка не адназначную ацэнку грамадскасці і крытыкі, выклікаў не толькі станоўчыя, але і выразна непрымальныя водгукі. Абранне ў якасці героіні аповесці патомнай камароўскай гандляркі проста шакіравала вартавых чысціні роднай літаратуры. Насцярожвала іх і прыхаваная развага аўтара пра тое, ці варта дамагацца перамогі любым коштам, ці мэтазгодна ўвасабляць гераізм толькі колькасцю забітых ворагаў, забываючыся пра ўласныя страты і ахвяры. Усе гэтыя асноўныя праблемы ашчадна, з павагай захаваныя ў спектаклі, у якім вылучаныя асноўныя апорныя пункты развіцця сюжэта, што найбольш дакладна садзейнічаюць развіццю дзеяння і рэалізацыі задумы.

Вольга, галоўная гераіня, амаль не баіцца вайны, хоць на фронце знаходзяцца яе муж і брат, бо ўпэўнена, што людзям патрэбна есці і апранацца заўсёды, незалежна ад грамадска-палітычных пературбацый. Тым болей што яна — маці, і ёй трэба захаваць сваю крывіначку, дачушку Святлану. Адпаведныя ўводныя эпізоды спектакля і асабліва ігра актрысы Алы Лянной пераконваюць у гэтым, як і ўзноўленая на сцэне эвалюцыя перараджэння героіні. Працуе на вобраз лаканічная, ды красамоўная сцэнаграфія Уладзіміра Ціханава, паводле задумы якога сцены звычайнай мінскай хаты, якая амаль не адрозніваецца ад вясковай, адначасова з'яўляюцца пачварнымі межамі канцлагера, за калючым дротам якога Вольга ўпершыню бачыць Алеся. Аблічча ў гранічна абмежаванай прасторы набывае сімвалічнае ўвасабленне ахвярнасці і трагедыйнасці, падкрэслівае адсутнасць выбару і чаканне будучай трагедыі. Выразна і неаднойчы падкрэсленая схільнасць героіні да найбольш слабага ў гэтай страшэннай валтузні, акцэнтуючы яе дамінуючую жаночую існасць, што ў значнай ступені паўплывае на далейшы выбар Вольгі. Гэтаму ж спрыяе прыхаванае ад павярхоўнага позірку класічнае пачуццё рэўнасці, жаданне растварыцца ў каханні, боязь расстання з ім ці нават простай дзяльбы з іншымі.

> *Спектакль “Гандлярка і паэт” — трэці зварот калектыву да беларускай прозы за апошнія пяць месяцаў. Перад гэтым былі пастаноўкі паводле прозы Івана Мележа (“Палеская дылогія”) і Уладзіміра Караткевіча (“Рута ў халоднай вадзе”). Цяпер моладзь тэатра рыхтуе прэм'еру да юбілею Максіма Багдановіча, а ў планах на наступны год — спектаклі да юбілею Янкі Купалы і Якуба Коласа.*

Каталізатарам пачуцця і эвалюцыі герояў з'яўляецца пастаянная прысутнасць трывогі, што праяўляецца і ўзмацняецца гукам варожай тэхнікі ў захопленым Мінску, адзіночныя стрэлы, ускрыкі жыхароў падчас аблавы, слёзы герояў і плач маленькай дачушкі.

Паводле задумы мастака і рэжысёра, хата мае некалькі ўваходаў і выхадаў, дзейныя асобы могуць з'яўляцца з некалькіх бакоў, у чым таксама бачыцца адпаведная сімволіка: хата ўжо не выконвае сваёй асноўнай функцыі абярэгу, яна не можа захаваць сваіх насельнікаў, бо становіцца сімвалам Беларусі, адкрытай з усіх бакоў, адкуль беспакарана (пакуль што) на яе ідуць заваёўнікі ўсіх эпох. Мы ўсе ў чарговы раз апынаемся на бальшаку гісторыі, на ростанях, і няма збавення ад гэтага выраку.

Спектакль абуджае думку і прымушае яшчэ і яшчэ раз паразважаць над адвечнай праблемай беларускага менталітэту: мы ўсё ж такі нацыя паэтаў (Алесь, каханы Вольгі, былы ваеннапалонны, а цяпер падпольшчык, — паэт) ці выключна жаночая нацыя, бо, як і ўва ўсе часы, асноўны цяжар агульных выпрабаванняў падае на жаночыя плечы! Тым болей што і ў аповесці, і ў спектаклі мужчына прайграе жанчыне цалкам ва ўсім: у мэтанакіраванасці, у жарсці, у любові, у жаданні і ўменні жыць. Падчас здаецца, што і саму паэзію Вольга ўспрымае значна глыбей і натуральней, чым яе каханы паэт, бо яна ўспрымае пачуццём, душою, а не развагай, а, як вядома, розум заўсёды прайграе сэрцу. Сцэны, дзе гучыць прыгожае паэтычнае слова, падкрэсліваюць, як выключна па-свойму ўспрымаюць віртуальныя жарсці і памкненні схільны да казуістыкі інтэлект Алеся і непасрэдная ды не менш творчая натура Вольгі. У спектаклі акцэнтуалізуецца “крамольная” думка пра не вельмі выяўленую ў аповесці нацыянальную пераканаўчасць, якая супярэчыць ідэйнай устаноўцы твора на хуткае і поўнае перавыхаванне галоўнай дзейнай асобы. І ці варта забіваць таго немца, за жыццё якога будуць адабраны дзясяткі жыццяў нашых людзей? Ці патрэбныя такія ахвяры? А можа, якраз наша задача — пераседзець у гэтай навале, выратаваць сябе і сваіх блізкіх і даць шанц новым пакаленням?

Каб актуалізаваць гэтыя анталагічныя для нацыянальнага быцця праблемы, Сяргей Паздняк смела актуалізуе дзеянне і ўводзіць у канву спектакля выказванні аўтарытэтных крытыкаў і літаратуразнаўцаў пра самога Івана Шамякіна і яго аповесць. Удала падабраныя і арганічна ўведзеныя ў структуру спектакля, яны яшчэ раз, па-свойму, падкрэсліваюць складанасць сітуацыі, у якую трапілі героі твора на самым пачатку вайны, дапамагаюць спазнаць эвалюцыю дзейных асоб, іх думкі і спадзяванні.

Сутыкненне выключна палярных думак (учынак героіні паасобныя літаратуразнаўцы ўспрымаюць як подзвіг грамадзянкі, некаторыя ж — у прыватнасці, У. Юрэвіч — як прыхамаць кабеты, што купіла сабе цацку) садзейнічае дынамізацыі і асноўнага канфлікту, які набывае баладную імклівасць і незваротнасць.

Знамянальна, што фіналы аповесці і спектакля кардынальна адрозныя. Калі ў першым героі гінуць, што надае яму рысы баладнасці, то ў другім яны толькі аб'ядноўваюцца ў адным намаганні і памкненні, што дазваляе гаварыць пра аптымістычнасць трагедыі.

Падобнае завяршэнне спектакля, як мяркуе У. Чэпелеў, прымушае гледача задумацца, самому ўявіць далейшае развіццё дзеяння, лёсы герояў і, самае галоўнае, — звярнуцца да першавытокаў, да кнігі.

Маладыя акцёры, занятыя ў спектаклі, знаходзяць адметныя рысы для сцэнічнай характарыстыкі сваіх персанажаў, па-свойму ўспрымаючы ўжо, здавалася б, далёкую трагедыю.

Страшэннай, пачварнай сілай уяўляецца Немец у выкананні Сяргея Саладухіна, чорная скура афіцэрскага плашча якога дадае свае фарбы ў агульную змрочную атмасферу; трагізм, які знамянуе вобразы Алеся (Рыгор Жураўлёў), Лены (Кацярына Уладзімірава), выяўляецца апасродкавана, спакваля; нават зухаватасць, энергія, магутная ўнутраная сіла Андрэя (Валерый Шчарбакоў) не могуць схаваць прадчування бяды; пераканаўчы вобраз Хведара Друцькі (Міхаіл Мішураў); увасабленнем векавой народнай цярплівасці і пакутнасці паўстае цётка Марыля (Галіна Вевер). Вельмі добра, што творчыя памкненні маладых, у якіх блішчэлі вочы, бо ігралі яны з задавальненнем, падтрымаў Фёдар Іваноў, жывая легенда тэатра, які бліскуча выступіў у ролі Дзядка.

Спектакль мае значную сілу мастацкага ўздзеяння. У кантэксце нядаўняга свята Вялікай Перамогі, у год знамянальнай даты з пачатку Вялікай Айчыннай вайны ён прымушае задумацца над гэтымі падзеямі, асэнсаваць іх урок, спасцігнуць сутнасць свята са слязьмі на вачах, каб памятаць, якою цаною здабыта Перамога.



*На здымку: сцэна са спектакля.*

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА,
фота аўтара

Наведвальнікі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі могуць паглядзець выстаўку “Адкрыццё святой прыгажосці. Новае жыццё старажытных абразоў”. На ёй, прадстаўлена 10 твораў тэмпернага і алейнага жывапісу, адрэстаўраваныя спецыялістамі музея. У экспазіцыю таксама ўключаныя матэрыялы,



якія даюць уяўленне пра карпатлівы працэс аднаўлення ўнікальных узораў айчыннага іканапісу. Дарэчы, днямі ў НММ з'явілася новая паслуга: апроч пастаянных і зменных экспазіцый тут можна наведаць рэстаўрацыйныя майстэрні музея. Для такіх візітаў вызначаны і свой дзень — серада.

Заўтра Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача пакажа новую работу — “Кот у ботах”. П'еса Міхаіла Шувалава паводле казкі Шарля Перо пастаўлена рэжысёрам Венедыктам Расстрыжэнкавым у сцэнаграфіі Дар'і Волкавай, з музыкай Алега Залётнева, вершы для песень якога склала Галіна Булыка. У ролі хітрамудрага Ката — Сяргей Марговіч. Гэта першы спектакль праекта калектыву “Тэатр юнага гледача — дзецям Беларусі”, і прэм'ера новай версіі папулярнай казкі адбудзецца ў сталіцы, на сцэне Дома літаратара.

Госці з Сербіі — хор Першага бялградскага спеўнага таварыства — пабывалі ў Мінску. Іх выступленне суправаджала афіцыйны візіт Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі ў Нацыянальны мастацкі



музей Рэспублікі Беларусь. Канцэрт выбітнага харавога калектыву пад кіраўніцтвам Святланы Віліч адбыўся таксама ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Гэты хор мае вялікую гісторыю і надзвычай багатыя традыцыі, бо заснаваны быў у далёкім 1853 годзе.

***На здымках: “Фератрон. Маці Божая з прадстаячымі святымі” (палатно, алей) — работа невядомага мастака XVIII ст., рэстаўратар С. Алішэвіч; выступленне хору Першага бялградскага спеўнага таварыства (Сербія) у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.***

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота Віктара Кавалёва**

**У мастацкае жыццё нашай сталіцы такія імпрэзы ўносяць свежы водар вясны, сонечнасць мудрых традыцый, радасны дух маладосці. Дзіва што! Усе творчыя калектывы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, а гэта значыць студэнты разам з педагогамі, удзельнічаюць у традыцыйным фестывалі "Арт-мажор", які штогод арганізуе шаноўная навучальная ўстанова. Сёлетні фестывальны марафон распачаўся пры канцы сакавіка і завершыцца 25 мая гала-канцэртам у Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі.**



# Каму тут бракуе мажору?

На працягу двух вясновых месяцаў у канцэртных залах Мінска і ва ўніверсітэцкіх аўдыторыях ладзіліся вечарыны, музычна-харэаграфічныя праграмы, прэзентацыі, справаздачы факультэтаў і кафедраў. У арт-мажорнай танальнасці адзначаліся тут Міжнародны дзень тэатра і 30-годдзе стварэння кафедры беларускай народнапесеннай творчасці. Поўніліся мажорам праграма "Дырыжыруюць студэнты", вечарына аўтарскай эстраднай песні, канцэрты-конкурсы эстраднай скрыпічнай імправізацыі ды камп'ютарнай аранжыроўкі. З яркімі праектамі выйшлі на фестываль кафедры народнаінструментальнай творчасці; харавога і вакальнага мастацтва; духавой музыкі; этналогіі і фальклору. Дадавалі мажору, то бок пазітыўных уражанняў ды пазнавальчай інфармацыі, сустрэчы падчас правядзення Дня факультэта культуралогіі і сацыякультурнай дзейнасці, выставак універсітэцкай бібліятэкі ды экспазіцый творчых набыткаў кафедры народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Да справаздачных выступленняў і творчых паказаў студэнтаў рыхтавалі Станіслаў Дробыш, Рыгор Шаура, Альбіна Пякуцька, Віктар Валатковіч, Алег Елісеенкаў ды іншыя прафесары, дацэнты, знаныя выкладчыкі БДУКіМ.

Што і казаць: фестываль "Арт-мажор" адлюстроўвае ўвесь спектр навучальна-творчага працэсу ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў, таму мае вялікае значэнне для самарэалізацыі, росту і ўдасканалення моладзі, заўтрашніх спецыялістаў. Саміх жа выкладчыкаў перасцерагае ад руціны і застою ў метадах працы са студэнтамі, стымулюе да падтрымання ўласнай творчай формы. І вельмі важна, што гэтая традыцыйная вясновая акцыя БДУКіМ які ўжо год пацвярджае сваю запатрабаванасць і папулярнасць у самай рознай публікі.

З усяго мажорнага спектра фестывальных праграм асабліва прывабным і для знаўцаў мастацтва, і для шырокага гледача штогод становіцца суквецце (а можна сказаць і феерверк!) фарбаў справаздачнага канцэрта кафедры харэаграфіі, якой споўнілася 15 гадоў і якую паспяхова ўзначальвае кандыдат філалагічных навук прафесар Святлана Гуткоўская. Вось і гэтым разам феерыя танца стала своеасаблівай эмацыйна-эстэтычнай кульмінацыяй фестывалю "Арт-мажор". Праграма, арганізаваная факультэтам традыцыйнай беларускай культуры і сучаснага мастацтва ў сталічным Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў, прайшла з аншлагам і "на ўра".

Вядучы канцэрта, выканаўчы прадзюсар тэлеканала "Лад", вядучы тэлепраграмы "Добрай раніцы, Беларусь!" і, дарэчы, выпускнік гэтай кафедры Дзмітрый Карась напачатку прапанаваў аўдыторыі ўражлівы інфармацыйны пралог. Агучаны тэкст, падтрыманы відэашэрагам на вялікім сцэнічнам экране, адлюстраваў самую яркую частку жыцця калектыву кафедры харэаграфіі за бягучы навучальны год. Удзел у значных для нашай краіны грамадска-культурных акцыях, у міжнародных праектах дзяржаўнага ўзроўню, у буйных фестывалях, тэлепраграмах, у майстар-класах, творчых конкурсах — прынамсі, у канцэртах, прысвечаных 65-годдзю Перамогі, Дню беларускага пісьменства, 15-годдзю Саюзнай дзяржавы; на "Славянскім базары ў Віцебску" і "Лістападзе" ў Мінску… Паспрабуй усё пералічыць!



Сапраўдны творчы лідар тут — Ансамбль кафедры харэаграфіі, выпеставаны пад мастацкім кіраўніцтвам Святланы Гуткоўскай. Ён лаўрэат міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў і фестываляў, уладальнік Гранд-прэміі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. Вартасць сваіх узнагарод калектыў пацвердзіў і цяпер. Каларытная і дасціпная "Майстрыха" — пастаноўка студэнткі Веранікі Бык пад кіраўніцтвам С. Гуткоўскай на сакавітыя народныя найгрышы з рэпертуару знакамітага пастаўскага ансамбля "Паазер'е" — унесла сапраўдны мажорны беларускі дух у першую палову праграмы. І гэты дух атрымаў своеасаблівую "рэінкарнацыю" ў адным з наступных нумароў "Дзівосныя вароты", пастаўленым студэнтам Паўлам Стрэльчанкам пад кіраўніцтвам С. Гуткоўскай: пад яскравае туційнае гучанне музыкі з фондавых запісаў Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра мужчынская група Ансамбля кафедры прадставіла пластычна вынаходлівую, напоўненую гумарам кампазіцыю. Хлопцы-танцоры сарвалі шквал воплескаў, выканаўшы і вострахарактарную, камічную мініяцюру "Вучэбка" (пастаноўка студэнткі Карыны Хомбак пад кіраўніцтвам С. Гуткоўскай на музыку з рэпертуару праекта "Нежное Это").

> *Што і казаць: фестываль "Арт-мажор" адлюстроўвае ўвесь спектр навучальна-творчага працэсу ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў, таму мае вялікае значэнне для самарэалізацыі, росту і ўдасканалення моладзі, заўтрашніх спецыялістаў. Саміх жа выкладчыкаў перасцерагае ад руціны і застою ў метадах працы са студэнтамі, стымулюе да падтрымання ўласнай творчай формы.*

Да гонару складальнікаў канцэрта, ансамбль-лідар не адцягваў увагу на сябе. Насычаная і дынамічная праграма, якая доўжылася амаль дзве гадзіны без антракту, уразіла тым рэдкасным духоўна-эстэтычным адзінствам, што вызначае жывапісную цэласнасць мастацкага палатна, выкананага ў полістылістычнай манеры. Тут быў досыць шырокі дыяпазон музычных фанаграм (ансамблі "Камерата", "Крупіцкія музыкі", грузінскі, яўрэйскі, кітайскі фальклор, Б. Марчэла, Шакіра, Н. Катамадзэ ды інш.) — і, адпаведна, танцавальных жанраў. Візуальная прыцягальнасць выступленняў, відовішчнасць кожнага нумара былі вынікам самога пастановачнага малюнка, распрацаванасці дэталяў танцавальнай мовы і сцэнічнай пластыкі, імпэтам, натхнёнасцю маладых выканаўцаў, выразнасцю касцюмаў (мастакі Юрый Піскун ды Алена Юр'ева). Было цікава назіраць, як аўтэнтычная беларуская танцавальная пластыка спалучаецца з элементамі сучаснай моладзевай танцавальнай лексікі, нават жэстыкуляцыі, як спартыўны танец і прыёмы акрабатыкі знаходзяць сумоўе з класічнымі па… І ўсё гэта не проста пошук формы дзеля формы, а пошук той формы, якая "лепіць змест".

Суровыя беларускія "Ваяры" (пастаноўка студэнта 4 курса народнага аддзялення Васіля Кажапенькі пад кіраўніцтвам Ірыны Канавальчык). "Вясна на галінах" (музыка Сі Лю Пэна, пастаноўка студэнткі Ці Шуан пад кіраўніцтвам Наталлі Карачэўскай) — вытанчаны і пяшчотны ансамбль кітайскіх дрыяд, студэнтак эстраднага аддзялення. Тэмпераментны "Фрэйланс" — па-канцэртнаму кідкі, густоўны і стыльны нумар паводле яўрэйскіх матываў у пастаноўцы старшага выкладчыка Ірыны Канавальчык і ў выкананні студэнтаў народнага аддзялення. "Лацінскі біт", пастаўлены пад спевы Шакіры студэнтамі-пяцікурснікамі бальнага аддзялення і бліскуча прадстаўлены Ігарам Пужэвічам ды Настассяй Кузьміч — фіналістамі чэмпіяната Рэспублікі Беларусь па лацінаамерыканскай праграме. "Крок у падсвядомасць" пад музыку групы "Alegria" — пастаноўка студэнтаў-пяцікурснікаў народнага аддзялення Вольгі Калковай ды Арцёма Батуры пад кіраўніцтвам Вольгі Шамровай — кранальныя рэфлексіі вакол любоўнага... квадрата (адмысловыя стасункі дзвюх танцавальных пар, апранутых у блакітнае і ў сіняе). Кітайскі танец-рытуал з веерамі "Пуча-чум", пастаўлены пяцікурсніцамі Кацярынай Лабко ды Ірынай Шмыровай пад кіраўніцтвам Алены Шылкінай. Кампазіцыі, створаныя з удзелам вядомых педагогаў Уладзіміра Іванова, Інесы Душкевіч, Людмілы Яфрэмавай, Яўгеніі Чарнышовай, Аляксея Уварава... Кожны нумар — як сюрпрыз.

Слушна кажуць у такіх выпадках: час праляцеў незаўважна. Зала наладзіла авацыю стваральнікам сапраўды мажорнага вечара.

Што ж, калі ў гэтыя чароўныя майскія дні камусьці бракуе добрага настрою, прыходзьце на фестывальны гала-канцэрт, які адбудзецца 25 мая ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Ён, як заўжды, прынясе ў залу свежасць і разнастайнасць эстэтычных уражанняў, магутны зарад станоўчых эмоцый. Прыходзьце па мажор!

***На здымках: танцавальныя кампазіцыі "Майстрыха" і "Фрэйланс".***

## Слова краязнаўцы



**Юрась Камягін з Гродна распавядае пра беларускіх літаратараў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны:**

— У архівах мне ўдалося адшукаць дакументы, якія ўдакладняюць лёсы двух беларускіх паэтаў. У мірным жыцці яны, напэўна, ніколі не сустракаліся, аднак іх ваенныя шляхі аказаліся падобнымі.

Генадзь Шведзік нарадзіўся 4 сакавіка 1914 г. у Бабруйску. Скончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. У 1930-я гады паспеў выдаць зборнік "Старт", кнігу "Вершы", напісаў паэму для дзяцей "Наш Джым". А калі пачалася Вялікая Айчынная, паэт апрануў салдацкі шынель і стаў кулямётчыкам. Радавы Шведзік удзельнічаў у баях пад Смаленскам, Масквой і Бранскам у 1941—42 гг. Адзін з баёў стаў для яго апошнім.

У даведніку "Беларускія пісьменнікі" (Мн., 1994) падаецца дата гібелі паэта: 11 кастрычніка 1942 г. Гэта не так. Адбылося вось што. Генадзь Шведзік быў цяжка паранены 10 кастрычніка 1942 г. непадалёк ад Бранска. Амаль пятнаццаць гадзін пасля гэтага заставаўся на перадавой і толькі раніцай наступнага дня яго змаглі эвакуіраваць у тыл. У палявым шпіталі салдату адразу ж зрабілі аперацыю. Генадзь Шведзік атрымаў цяжкое раненне ў жывот, хірургі зрабілі ўсе магчымае, аднак цуд не адбыўся. Кулямётчык Шведзік памёр 13 кастрычніка 1942 г.

А вось Сяргей Крывец пайшоў змагацца з ворагам летам 1944 г. пасля таго, як вызвалілі яго родную Мастоўшчыну. Тут ён нарадзіўся ў 1909 г., быў пастухом, цесляром. Сяргей пісаў вершы на беларускай, рускай, польскай, нямецкай мовах, друкаваўся ў заходнебеларускіх выданнях. У ліпені 1944 г. стаў радавым 731-га стралковага палка. І вось сакавік 1945 г., штурм польскага горада Гдыня… У гэтым жа баі быў паранены зямляк Сяргея, радавы Рыгор Ганчар. Разам яны трапілі ў шпіталь у горадзе Коніцэ.

У шматлікіх даведніках гаворыцца, што Сяргей Крывец загінуў 28 красавіка 1945 г. падчас штурму Гдыні. Насамрэч штурм Гдыні адбываўся месяцам раней. 30 сакавіка 1945 г. падчас атакі С. Крывец атрымаў цяжкое асколачнае раненне абедзвюх ног. У шпіталі яны сустрэлі Дзень Перамогі. Сяргей Крывец і Рыгор Ганчар памерлі ў шпіталі 13 мая 1945 г. Сёння можна дакладна сказаць, дзе пахаваны паэт — гэта могілкі польскага горада Хойніцэ.

## Руплівы даследчык гісторыі

**Міхаіл СТРАЛЕЦ**

Не так даўно адзначыў свой 50-гадовы юбілей кандыдат гістарычных навук дацэнт Андрэй Бодак. За юбілярам трывала замацавалася рэпутацыя руплівага даследчыка айчыннай гісторыі, майстра педагагічнай працы.

Андрэй Юр'евіч чвэрць стагоддзя забяспечвае навучальны працэс у айчыннай сістэме адукацыі. Ён прыйшоў у педагогіку пасля арміі, маючы грунтоўныя веды, набытыя падчас навучання ва Уральскім універсітэце. З 1989 года Андрэй Бодак выкладае на гістарычным факультэце Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна.

Андрэй Юр'евіч зрабіў вялікі ўнёсак у развіццё гістарычнай беларусістыкі. Ён грунтоўна даследаваў нацыянальную палітыку ў БССР у 1943 — 1955 гг., усебакова разгледзеў унутраныя і знешнія аспекты, якія звязаны са зменамі заходняй мяжы Беларусі ў 1944 — 1955 гг., сфармуляваў шэраг прынцыпова новых высноў наконт кадравай палітыкі ў БССР у пасляваеннае дзесяцігоддзе, выказаў арыгінальныя меркаванні на прадмет міграцыйнай палітыкі савецкіх улад у нашай рэспубліцы.



*Газета "Літаратура і мастацтва" стала лаўрэатам VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ "Залатая Ліцера" ў намінацыі "Лепшыя матэрыялы культурнай і гісторыка-краязнаўчай тэматыкі". Сімвалічную статуэтку пераможцы мы атрымалі менавіта за краязнаўчы праект "Зямля пад белымі крыламі".*

*Ён з'явіўся ў "ЛіМе" восенню 2009 года. Увесь гэты час нязменнай застаецца тэматыка матэрыялаў, што друкуюцца ў межах "Зямлі…", а таксама яго мэта — асвятленне здабыткаў і адкрыццяў у галіне краязнаўства і рэгіяналістыкі, абмеркаванне спрэчных тэорый, знаёмства чытачоў з новымі фактамі і падзеямі. У цэнтры ўвагі нашых аўтараў — дзейнасць краязнаўчых музеяў і аддзелаў краязнаўства абласных бібліятэк розных рэгіёнаў краіны, навуковыя канферэнцыі, "круглыя сталы" па краязнаўчай тэматыцы, помнікі мінулага, факты сярэднявечнай культуры, прэзентацыі музейных прадметаў, выстаўкі, ды і самі краязнаўцы, іх асобы, зацікаўленасці, дасягненні і планы будучых пошукаў.*

*Праект існуе і развіваецца дзякуючы падтрымцы нашых пастаянных і новых аўтараў, падпісчыкаў і чытачоў з розных куткоў Беларусі. Толькі супольная праца над "Зямлёй пад белымі крыламі" дазваляе ахапіць як мага больш шырокі тэматычны і тэрытарыяльны абсяг падзей, што адбываюцца ў краіне, больш шырока і поўна прасачыць развіццё краязнаўчай галіны, пазнаёміць са здабыткамі кожнага з працаўнікоў на ніве рэгіяналістыкі. Думаецца, супрацоўніцтва будзе працягвацца і далей, і разам мы здзейснім яшчэ шмат карысных і пазнавальных акцый, здзейснім шмат вандровак па краіне, адкрыем невядомыя старонкі гісторыі нашай Бацькаўшчыны.*

## Музейны ўнікат

**Марына ВЕСЯЛУХА, фота аўтара**

# Знаходкі з Мёрскіх ваколіц

**Гістарычны музей існуе ў Мёрскай сярэдняй школе № 3 ужо 25 год — з 1986 года, але па колькасці экспанатаў ды па ўзроўні іх арганізацыі ў адзіную сістэму ён даўно выйшаў за межы проста школьнага музея. 12 тысяч прадметаў захоўвання, 11 асноўных тэматычных раздзелаў, 25 распрацаваных тэм экскурсій. Ёсць сярод экспанатаў і досыць рэдкія прадметы, якія, распавядаючы пра гісторыю Мёраў і ваколіц, дазваляюць зірнуць на рэгіён і ў больш шырокім маштабе.**

Візіткай Мёрскага гістарычнага музея ўжо даўно назвалі сярэбраны пярсцёнак 1884 года з маёнтка Камянполле (калісьці належаў князям Святаполк-Мірскім). Сам па сабе пярсцёнак досыць звычайны, але адметная яго гісторыя, якую расказаў гаспадар музея, вядомы краязнаўца, настаўнік гісторыі Віталь Ермалёнак: "У 1884 годзе злавілі пану рыбакі шчупака, ён аказаўся маленькі, з яго наедку ніякага не было, і таму пан дзеля пацехі загадаў кавалю зрабіць з сярэбранай манеты пярсцёнак, выбіць на ім год і пусціць рыбу назад у ваду, але ўжо з пярсцёнкам у жабрах. Так шчупак праплаваў амаль 110 год, яго злавілі толькі ў 1993 годзе".

Пра здольнасць жыхароў Мёраў мысліць нестандартна сведчыць і так званая "паштоўка-цагелка" 1905 года з вывавай Мёрскага касцёла. Калі будавалі касцёл, грошай вялікіх у фундатараў не было, іх трэба было сабраць з сялян, але год быў галодны, таму і сяляне не надта ахвотна неслі ахвяраванні. Ксёндз Юзаф Барадзіч, які кіраваў будаўніцтвам святыні, быў вельмі прадпрымальным чалавекам. Ён выдаў "паштоўкі-цагелкі" і прадаваў іх насельніцтву па 5 капеек. Людзі паштоўкі з вывавай святыні набывалі і аўтаматычна ўносілі свае ахвяраванні ў будаўніцтва храма. Сабекошт такой паштоўкі складаў 1 капейку, і цагліна каштавала на той час 1 капейку, таму атрымлівалася, што чалавек, які купляў паштоўку, ахвяраваў грошай на 4 цагліны, адсюль і назва — цагелка.




Пра іншы этап нашай гісторыі сведчыць дошчачка, што змяшчалася на ўездзе ў населены пункт. Здаецца, зусім шараговы прадмет, але Віталь Антонавіч зазначае: "Я ні ў адным музеі такіх не сустракаў, хаця яны там павінны быць". Цяпер на дарожных указальніках змешчана толькі назва вёскі, а раней, пры цару, гэтая інфармацыя была больш поўнай, на такіх дошках пісалі, якая вёска, воласць, абшчына, колькі ў ёй двароў, колькасць жыхароў, мужчын і жанчын. Вось і гэты прадмет распавядае, што ў Крукаўшчыне Перабродскай воласці было 7 двароў і жыло тут 33 жанчыны і 38 мужчын. І як заўсёды, цікавая гісторыя знаходкі гэтага прадмета ад Віталя Ермалёнка: "Прыехалі мы з вучнямі-сябрамі гуртка "Арганаўты мінулага" ў вёску Пагост да селяніна, каб сабраць інфармацыю, і знайшлі пад вуллем гэтую адметную дошчачку".

Побач з дошчачкай з назвай вёскі ў раздзеле "Этнаграфія Мёршчыны" — іншая шыльда, металічная, яна распавядае пра часы, калі нашы продкі жылі ўжо "пры Польшчы". Такая дошка павінна была вісець на кожным доме, на ёй указвалася імя і прозвішча гаспадара, вёска, гміна, павет. У дадзеным выпадку мы маем шыльду з дома Юзафа Хахеля, які жыў у фальварку Калеснікі Новапагосцкай гміны Браслаўскага павета. Адметна тое, што гэтая ж шыльдачка выконвала ролю, аналагічную сённяшнім рэгістрацыйным аўтамабільным нумарам. Так, калі гаспадар дома ехаў у горад на кані, ён для парадку павінен быў чапляць яе на воз.

***На здымку:** жалезная шыльда з дома Юзафа Хахеля.*

## Беларускія прыватныя гербы

# Знакі годнасці і гонару



*Герб "Бродзіч"*

### Герб "Бродзіч"

Гербам карысталіся: Банікоўскі, Банюшка, Барадзіч, Дубоўскі, Дыбоўскі, Жахоўскі, Заборскі, Завадскі, Захаркевіч, Казановіч, Ключэўскі, Левандоўскі, Лоскі, Навакоўскі, Пшаўлоцкі, Радзімінскі, Рымскі, Сінгіла, Сінцыла, Францкевіч, Янчэўскі.



*Герб "Дзялоша"*

### Герб "Дзялоша"

Гербам карысталіся: Гінк, Даўгела, Даўгяла, Догель, Какуловіч, Лаўдгін, Рагальскі, Рагоўскі, Эйтмін, Эйтутовіч, Яневіч.



*Герб "Калантай"*

### Герб "Калантай"

Гербам карысталіся: Калантай, Місуна, Скарына.



*Герб "Наступ"*

### Герб "Наступ"

Гербам карысталіся: Аброцкі, Акуліч, Бернатовіч, Вайшкевіч, Варкалевіч, Вяшэйка, Даўнаровіч, Здановіч, Кастэцкі, Князнін, Маеўскі, Мардзвін-Шчодра, Мерхялевіч, Пачына, Пачынскі, Радзевіч, Радзецкі, Расакевіч, Раслаловіч, Раюнец, Сабіла, Сіпайла, Стульгінскі, Храновіч, Цюндзявіцкі, Шчодра, Шымкевіч, Ядкевіч.



*Герб "Свенчыц"*

### Герб "Свенчыц"

Гербам карысталіся: Ганусоўскі, Губінскі, Зампшыц, Карчэўскі, Кражоўскі, Крыжэвіч, Маеўскі, Палянскі, Пацалаеўскі, Плясевіч, Радзішэўскі, Ражанскі, Хмара, Шастакоўскі.



*Герб "Рамэль"*

### Герб "Рамэль"

Гербам карысталіся: Рамзевіч-Рамэль, Рамэль, Ранцэвіч, Рэмпель.

**Вядучы рубрыкі — Уладзімір Крукоўскі**

Ірына ТУЛУПАВА

# Стары замак у новым часе

**На фоне павышанай увагі да нашых архітэктурных помнікаў, адрэстаўраваных апошнім часам, — Мірскага замка, палацава-паркавага комплексу ў Гомелі — Стары замак у Гродне як быццам і не прыцягвае да сябе асаблівай увагі. Хаця якраз Гродна — адзіны горад Беларусі, дзе захаваліся каралеўскія замкі, і даўняя пабудова — той гістарычны помнік, у якім цесна перапляліся лёсы не толькі беларускага, а і польскага і літоўскага народаў, звязаных з намі ў свой час агульнай гісторыяй.**

Спробы аднаўлення і рэканструкцыі Старога замка прадпрымаліся неадноjчы, не раз за сваю гісторыю ён мяняўся. Адна толькі рысачка: Стары замак, альбо, як яго часта называюць, замак Баторыя, быў збудаваны на месцы замка Вітаўта з яго частковай перабудовай. У наш час у ім размяшчаюцца экспазіцыі Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея. Аднаўлення і рэстаўрацыі замка чакаюць дзясяткі гадоў. І ў наш час праект рабіўся, але летась ён спынены — з-за недахопу фінансавання.

Так што пытанне, якім мы пакінем замак для нашчадкаў, непакоіць і сённяшніх сучаснікаў. У прэсе з'явіліся ўжо згадкі пра тое, што, магчыма, працы пачнуцца сёлетняй вясной. І быццам па прапанове, аўтар якога Уладзімір Бачкоў, якраз плануецца вяртанне да замка эпохі Стэфана Баторыя. Ды разам з тым узрасла занепакоенасць: ці ўсё будзе зроблена так, як належыць у цывілізаваным грамадстве?

Начальнік упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Беларусі Ігар Чарняўскі патлумачыў:

— На гэтым этапе асноўны клопат узяло на сябе ўпраўленне капітальнага будаўніцтва Гродзенскага аблвыканкама. Падрыхтаваны архітэктурны праект, канцэпцыя правядзення работ па рэканструкцыі і рэстаўрацыі Старога замка. Яна прадугледжвае аднаўленне элементаў, якія ўдалося або, магчыма, яшчэ ўдасца выявіць у працэсе далейшых навуковых вышукаў. Найперш гэта могуць быць матэрыялы натурных даследаванняў — зандажы і шурфы, можна нешта знайсці і з пісьмовых гістарычных крыніц. Аднаўленне плануецца на перыяд XVI стагоддзя — час праўлення Стэфана Баторыя. Гэта фактычна рэнесансны замак. Аднак ён прайшоў у сваім існаванні некалькі перыядаў, яны ўсе адлюстраваліся на замчышчы. Ёсць гатычныя элементы з часу праўлення Вялікага князя Вітаўта. Іх аднавіць немагчыма, бо ніякіх дакументальных сведчанняў пра архітэктурнае аблічча няма, але тыя канструкцыі, якія захаваліся, павінны быць законсерваваны. Ёсць і больш ранні перыяд — гэта вельмі магутны пласт XII стагоддзя, які быў выяўлены падчас раскопак у 30-я гады мінулага стагоддзя і ў 1949 годзе. Там знаходзяцца і рэшткі так званай ніжняй царквы. Над ёй выяўлены рэшткі яшчэ адной царквы — верхняй. Шмат ёсць іншых элементаў, якія таксама павінны быць экспанаваны. Да прыкладу, элементы княжацкага хорама — мураваная яго частка і абарончая сцяна XII стагоддзя — з боку Каложы. Вядома на сённяшні дзень таксама, дзе знаходзіліся пабудовы, маставыя.

Таму ўся канцэпцыя рэканструкцыі, рэстаўрацыі і, я б дадаў, музеефікацыі Старога замка палягае ў тым, каб правесці рэканструкцыю палаца, брамы, часткі наднёманскага абарончага мура з вежамі, лазняй на перыяд XVI стагоддзя. Гэта тое, што мы бачым зафіксаваным на гравюрах таго часу. Хаця, зразумела, гравюра не можа быць падставай для аднаўлення. Таму сюды і дадаюцца матэрыялы натурных даследаванняў, праводзяцца аналогіі гэтага ж перыяду і нават тых жа архітэктараў, якія працавалі тады ў Еўропе.

Музеефікаваная частка замка плануецца на яго падземным узроўні, яна адлюструе перыяд Вітаўта Вялікага і час, калі на старажытным дзядзінцы існаваў яшчэ першы замак XII стагоддзя з яго пабудовамі.

**— На якой жа стадыі знаходзіцца сама ідэя аднаўлення: распрацоўкі праекта, навуковых вышукаў альбо пачатку працы?**

— На стадыі архітэктурнага праекта. Пакуль што работы прыпыніліся, бо патрэбны сродкі. Мы ўключаем Стары замак у дзяржаўную праграму "Замкі Беларусі" на ўмовах долевага фінансавання, гэта значыць палова сродкаў — аблвыканкама, палова — рэспубліканскага бюджэту. Думаю, што ў рамках праграмы работы будуць працягнуты далей.

**— Праграма "Замкі Беларусі" зацверджана?**

— Не. Але падрыхтаваны праект праграмы, і ён накіроўваецца для ўзгаднення ў аблвыканкамы, міністэрствы фінансаў, эканомікі, юстыцыі. Перш чым унесці ва ўрад праект Пастановы Савета Міністраў, ён павінен прайсці ўзгадненне. Магчыма, могуць паступіць папраўкі, іх трэба разгледзець і ўнесці ў дакумент, а пасля Савет Міністраў прымае рашэнне.

**— Значыць, работы па замку сёлета яшчэ не пачнуцца?**

— Не. Мы і не планавалі сёлета. Бюджэт ужо сфарміраваны, усе сродкі запланаваны на канкрэтныя аб'екты.

**— Цяпер досыць актыўна прапрацоўваецца ідэя існавання міжнародных праектаў па аднаўленні і рэстаўрацыі гісторыка-культурнай спадчыны ў Беларусі і далучэння іншых краін, каб выкарыстаць іх магчымасці па рэстаўрацыі.**

— Гэта цалкам магчыма. І адзін з такіх патэнцыяльных праектаў, які мы папярэдне абмяркоўвалі з літоўскімі калегамі, — гэта праект, які можа называцца, напрыклад, "Замкі Вялікага Княства Літоўскага". Спадзяёмся, што неўзабаве ў нас будзе магчымасць канкрэтызаваць, якім чынам зможа літоўскі бок, а можа, і польскі, далучыцца да гэтых работ. Тым больш што вопыт такой "супрацы" з польскім бокам у нас ёсць, і польскія рэстаўратары працуюць на шэрагу беларускіх аб'ектаў: гэта Фарны касцёл у Гродне (рэстаўрацыя іканастаса), касцёл у Гальшанах (рэстаўрацыя фрэскі) і яшчэ шэраг аб'ектаў.

**— Магчыма іх дапамога і па Старым замку?**

— Мы не выключаем такой магчымасці. Але гэта пытанне асобнага абмеркавання.

**— Цяпер і грамадскасць, і спецыялісты заклапочаныя таксама тым, якія будаўнічыя матэрыялы выкарыстоўваюцца і могуць быць прыдатнымі пры правядзенні рэстаўрацыйных работ.**

— Такое пытанне ёсць. І па вопыце папярэдніх работ па Навагрудскім замку, у прыватнасці, мы зрабілі адпаведныя высновы і цяпер распрацоўваем магчымасць, каб будаўнічыя матэрыялы рыхтаваць яшчэ да пачатку вытворчасці. Да прыкладу, цэглу, дахоўку. Гэта можна рабіць яшчэ на стадыі архітэктурнага праекта, калі прыблізна вядома, якога характару цэгла або іншы матэрыял патрэбны. Вось, на Аўгустоўскім канале Обальскі керамічны завод (Віцебская вобласць) упершыню апрабаваў так званую цэглу клінкер. Яна вытрымлівае неабходныя цыклы марозаўстойлівасці, вільготныя ўмовы. А ў Нясвіжскім замку (на рэканструяваным бастыёне XVI стагоддзя) напачатку выкарыстаць не прыдатную для такіх работ цэглу, і давялося яе замяніць на обальскую. Але калі б заказчык на той перыяд як мінімум за паўгода зрабіў адпаведную замову, завод здольны быў бы памяняць аснастку і вырабіць неабходную цэглу.

## Новае выданне

Сяргей ЧЫГРЫН

# Спадчына археолага

**Даўно я не трымаў у руках такога вялікага і шыкоўнага выдання, як кніга спадчыны "Бібліяграфія па археалогіі Беларусі і сумежных краін" беларускага археолага Сяргея Дубінскага. Яна выйшла ў Беластоку. Над выданнем кнігі дбайна папрацавалі гродзенскія гісторыкі Генадзь і Альбіна Семянчукі.**

Вяртанне спадчыны Сяргея Дубінскага яшчэ раз падкрэслівае, што беларуская культура, літаратура і гісторыя — адны з найбагацейшых у свеце. Нам заўсёды было чым і кім ганарыцца. Беларусы стваралі сваю мову, літаратуру, даследавалі гісторыю, геаграфію, архітэктуру, археалогію. На ніве археалогіі плённа працаваў у 1920—30-я гады беларускі археолаг, гісторык і бібліёграф з Беласточчыны Сяргей Дубінскі. Ён нарадзіўся 13 кастрычніка 1884 года ў вёсцы Наройкі Сямятыцкага павета на Беласточчыне. Пасля заканчэння Пецярбургскага ўніверсітэта ў 1914 годзе пэўны час настаўнічаў. У 1925 годзе Сяргей Дубінскі становіцца сябрам гісторыка-археалагічнай камісіі Акадэміі Навук БССР, а пасля — навуковым супрацоўнікам Інбелкульта, з 1931 года працуе ў Інстытуце гісторыі Акадэміі Навук БССР. Пасля двух год працы ў Інстытуце гісторыі нашаму земляку было загадана тэрмінова пакінуць тэрыторыю Беларусі і выехаць на пастаяннае месца жыхарства ў Ленінград. У 1933 годзе Сяргей Дубінскі назаўсёды пакінуў Беларусь і прыехаў у горад на Няве, дзе ўладкаваўся на працу ў Ленінградскую акадэмію гісторыі матэрыяльнай культуры.

За той час, калі наш зямляк жыў і працаваў у Беларусі, яму ўдалося зрабіць шмат карыснага для беларускай археалогіі.



Ён актыўна даследаваў помнікі ранняга жалезнага веку і эпохі Сярэднявечча. Праводзіў разам са сваімі калегамі раскопкі і вывучаў курганныя старажытнасці ў Бельскім павеце, пасля — гарадзішчы Бабруйшчыны, Міншчыны, Мазыршчыны, Магілёўшчыны і Віцебшчыны. Па словах даследчыка беларускай археалогіі Тацццяны Каробушкінай, у 1927 годзе Сяргей Дубінскі склаў археалагічную карту Магілёўскай вобласці, якая, на жаль, не захавалася.

Самай грунтоўнай і вялікай працай, якую пакінуў нам археолаг, з'яўляецца яго "Бібліяграфія па археалогіі Беларусі і сумежных краін", якая пабачыла свет асобнай кнігай у Мінску ў 1933 годзе. У ёй наш зямляк назваў працы пра дакласавае грамадства, ранні феадалізм, нумізматыку, сфрагістыку, старажытную архітэктуру, абарончыя збудаванні. У 1920—30-я гады Сяргей Дубінскі паспеў напісаць і апублікаваць дзясяткі артыкулаў, сярод іх — "Доследы культур жалезнага перыяду па Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне", "Чаркасоўскае гарадзішча пад Оршай", "Раскопкі Банцараўскага гарадзішча каля Менску ў 1926 годзе", "Археалагічныя працы на Беларусі за 1919—1928 гады", "Гарадзішча каля вёскі Германаў Аршанскай акругі", "Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 годзе" і іншыя.

На вялікі жаль, свае планы і задумкі наш таленавіты зямляк ажыццявіць не змог. Яго расстралялі ў 1937 годзе ва ўзросце 53 гадоў. У 1958 годзе ён быў пасмяротна рэабілітаваны.

Пасля таго, як Сяргей Дубінскі быў рэпрэсіраваны і расстраляны НКУС, фактычна рэпрэсіраванай была і яго археалагічная спадчына. Унікальная "Бібліяграфія па археалогіі Беларусі і сумежных краін", як піша Генадзь Семянчук у пасляслоўі да кнігі, надоўга была выдалена з актыўнага навуковага звароту. Яе апісання нават няма на старонках энцыклапедыі "Археалогія і нумізматыка Беларусі" (Мн., 1993), а таксама энцыклапедыі "Археалогія Беларусі" (Мн., 2009). У навуковых бібліятэках Беларусі і ў прыватных кнігазборах "Бібліяграфія…" Сяргея Дубінскага захоўваецца ў некалькіх экзэмплярах. Таму выданне ў Беластоку спадчыны расстралянага беларускага археолага — гэта даволі значная падзея ў нашай археалогіі і гісторыі.

У беластоцкае выданне "Бібліяграфіі па археалогіі Беларусі і сумежных краін" Сяргея Дубінскага ўвайшла не толькі сама бібліяграфія, але і асобныя артыкулы і даследаванні археолага, напісаныя ў 1920-х—1930-х гадах. Гэта тыя артыкулы, якія ўдалося адшукаць Генадзю і Альбіне Семенчукам. Яны прысвечаны археалагічнай працы на Беларусі за 1919—1929 гады. Але самай унікальнай працай усё ж застаецца "Бібліяграфія…" Сяргея Дубінскага. Дзіву даюся, дзе знаходзіў даследчык час, каб столькі перакапаць, адшукаць, занатаваць, каб пакінуць нашчадкам такі вялікі даследчы скарб. Як піша аўтар кнігі, за першыя трыццаць гадоў XX стагоддзя на Беларусі былі арганізаваны 27 археалагічных экспедыцый і 30 паасобных камандзіровак для археалагічных раскопак. У выніку гэтых прац упершыню былі знойдзены палеалітычныя стаянкі, да 700 стаянак эпохі неаліту і бронзы, да 800 гарадзішч, да 3 тысяч курганных груп, у якіх налічвалася звыш 25 тысяч курганоў і шмат іншых археалагічных помнікаў.

У выданне Сяргея Дубінскага складальнікі ўключылі фотаздымкі і малюнкі. На фотаздымках — раскопкі кургаllноў каля вёсак Цацэлі, Бацікі Далёкія, Козлікі, Ляхі, Слохі і Клюкава Бельскага павета ў 1911 годзе. А таксама раскопкі каля Драгічына. Ёсць здымак і збіральніка драгічынскіх старажытнасцей Фелікса Кахановіча... 

Сяргей Дубінскі добра маляваў, яго малюнкі звязаныя з археалагічнымі знаходкамі. Усё разам — і фотаздымкі, і малюнкі, і тэкст — робіць выданне грунтоўным.

# «Ён беларус сярод узбекаў…»

Сяргей ЧЫГРЫН

**Гэты здымак быў адшуканы летась у фотаархіве рэдакцыі беларускага тыднёвіка "Ніва" ў Беластоку. Хутчэй за ўсё, яго ў 1970-х гадах даслаў з Ташкента беларус Іосіф Грыцук, які быў родам з вёскі Валілы, што на Беласточчыне. Здымак зроблены быў у Ташкенце (Узбекістан) у 1970-х гадах. На ім сфатаграфаваны два беларусы з нялёгкім лёсам — вышэйназваны Іосіф Грыцук і паэт, доктар філалагічных навук, прафесар Ташкенцкага ўніверсітэта родам са Случчыны Сцяпан Ліхадзіеўскі.**



У сакавіку 1970 года "Ніва" надрукавала ліст з Ташкента. Аўтарам гэтага ліста быў Іосіф Грыцук. У ім наш зямляк расказаў пра свой жыццёвы лёс і пра тое, як ён трапіў у сталіцу Узбекістана. Аказалася, што ў пошуках свабоды і хлеба наш суайчыннік у 1929 годзе выехаў у Аргенціну. Там пражыў да 1955 года. У тым годзе пачалася рээміграцыя, і беларусы сталі масава вяртацца на Радзіму. Праз тры гады вярнуўся дамоў і валілаўскі юнак. Але яму дазволілі прыехаць не на Беларусь, а ў Ташкент. Там ажаніўся і па спецыяльнасці працаваў на мэблевай фабрыцы.

Толькі праз шмат гадоў у Іосіфа Грыцука з жонкай нарэшце атрымалася наведаць Валілы і Беласточчыну. "Калі мне ўдалося за 30 гадоў разлукі з радзімай пабываць у роднай вёсцы, то я лёг на зямлю і цалаваў, як родную маці. Кожнае дрэва ў вёсцы, што запамятаў у маленстве, было мне мілае сэрцу. Усюды хацелася пабываць, усё паглядзець. Пайшоў да рэчкі. Супрасль акультурылі. Стала ручайком, няма ні рыбы, ні ракаў, бо дзе ж ім жыць? І дзецям няма дзе плаваць. Шкада, пераstaраліся меліяратары. Пачуўся скрып у паветры. Я ўзняў вочы ў неба: сумна скрыпелі жураўлі — ляцелі ў цёплы край. Пакідалі свой кут на паўгода і то сумавалі. Можа таму, што не ведалі, ці вернуцца. Мне жураўлі нагадвалі скрып колаў воза майго дзядзькі з Падзалук, які вёз нашу сям'ю ў 1929 годзе на беластоцкі вакзал. Мы тады не ведалі, што нас чакае ў Аргенціне: уцякалі, як жураўлі, у цёплы край. Праводзіў я вачыма жураўлёў і думаў: я шчаслівы, бо вярнуўся на сваю радзіму, хоць на кароткі час…" — прыгадваў Іосіф Грыцук (Георгій Валкавыцкі. Віры. Беласток, 1991. С.125).

Завітаў наш зямляк у рэдакцыю беларускага тыднёвіка "Ніва" ў Беластоку. Тадышні рэдактар тыднёвіка Георгій Валкавыцкі спытаў у яго: "Чаму пасля Аргенціны не прыехалі на Беласточчыну?" Іосіф Грыцук уздыхнуў: "Даражэнькі, з гэтай марай я і баразніў акіян, але ж завезлі ў Ташкент. А калі я пачаў прасіцца на "родину", адказалі: "здесь тоже родина", жыві, маўляў, і не рыпайся. І жыў…"

На Бацькаўшчыне выпісаў два экзэмпляры беларускай "Нівы": адзін сабе ў Ташкент, другі — сваякам у Нясвіж. А калі вярнуўся ва Узбекістан, дасылаў невялікія допісы ў "Ніву", распавядаў на чужыне ўсім пра сваю Радзіму.

У Ташкенце Іосіф Грыцук пазнаёміўся з многімі землякамі, якія там жылі. Асабліва шчыра беларус з Беласточчыны сябраваў са Сцяпанам Ліхадзіеўскім — беларускім пісьменнікам, лёс якога таксама быў няпросты.

Сцяпан Ліхадзіеўскі нарадзіўся на Случчыне ў беднай сялянскай сям'і. Са школы дасылаў невялікія допісы ў часопіс "Малады араты". У 1926 годзе паступіў у Белпедтэхнікум. Пасля тэхнікума вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце і ў Мінскім вышэйшым педагагічным інстытуце. Як малады літаратар нават атрымліваў персанальную стыпендыю ад Наркамасветы.

У 1928 годзе Сцяпан Ліхадзіеўскі ўступіў у літаратурнае аб'яднанне "Маладняк", быў сябрам БелАПП. Выдаў зборнікі вершаў "Рокаты дальней прыстані" (1931), "Чырванеюць вішні" (1931), "Крывавыя знічкі на снезе" (1932), "Мы — маладая гвардыя" (1932).

Вялікі літаратар варты вялікага спачування. Па даручэнні калгасцэнтра ў самым пачатку 1930-х гадоў ён праводзіў калектывізацыю ў беларускіх вёсках, у тым ліку і ў роднай вёсцы Баслаўцы на Случчыне. У 1933 годзе быў беспадстаўна асуджаны на тры гады высылкі ў Казахстан, на Беларусь ужо ніколі не вярнуўся. Але Сцяпан Ліхадзіеўскі ці не адзіны з выпускнікоў Белпедтэхнікума, хто з "ворагаў народа" стаў прафесарам і доктарам навук.

Пасля адбыцця трохгадовага тэрміну Сцяпан Ліхадзіеўскі дамоў вяртацца пабаяўся, а прыехаў у Ташкент і быў залічаны на трэці курс мясцовага педінстытута. Адначасова ў 1937—1939 гадах працаваў выкладчыкам рускай мовы і літаратуры ў школах Ташкента і Томска. Скончыў Томскі педінстытут і аспірантуру Ташкенцкага інстытута. З цягам часу беларус абараніў кандыдацкую, а потым доктарскую дысертацыі па творчасці Анатоля Франса, стаў прафесарам Ташкенцкага ўніверсітэта, загадваў кафедрай замежнай літаратуры. Ён паспяхова спалучаў педагагічную дзейнасць з літаратурнай. Падрыхтаваў да выдання і выпусціў у свет у Мінску зборнікі вершаў і перакладаў "Берасцянка жывых трывог" (1962) і "Вянкі камунарам" (1974). Актыўна перакладаў на беларускую мову вершы ўзбекскіх паэтаў, творы французскіх і нямецкіх пісьменнікаў. Апублікаваў шэраг прац пра спадчыну Анатоля Франса, матэрыялы па ўзбекскай літаратуры і яе сувязях з беларускай літаратурай.

Пісьменнік заўсёды сумаваў па Беларусі. А аднойчы, чамусьці ад другой асобы, ён напісаў такія радкі:

*Жыве ў Ташкенце чвэртку веку,*
*Не знае, дзе законцыць век.*
*Ён беларус сярод узбекаў,*
*Між беларусаў ён узбек.*

Беларусы сярод узбекаў так і засталіся на далёкай зямлі Сярэдняй Азіі. А гэты фотаздымак сёння проста нагадаў пра іх. Тым больш што летась споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння беларуса з Беласточчыны Іосіфа Грыцука, а сёлета ў красавіку — 100 гадоў з дня нараджэння беларуса са Случчыны Сцяпана Ліхадзіеўскага.

# Ёсць весці карабель!

Мікола ЛЕЎЧАНКА



**Неяк у Каляды наведаў гісторыка-краязнаўчы музей быхаўскай вёскі Ніканавічы. І ў які раз, знаёмячыся з ягонымі матэрыяламі, адзначыў для сябе іх разнастайнасць, багацце. Але калі я ўбачыў альбом, прысвечаны гісторыі мясцовай школы, выпрашыў узяцца за пяро, напісаць у "ЛіМ". Аказваецца, у Ніканавіцкай школе, заснаванай у 1884 годзе, вучыўся амаль нікому не вядомы рускі пісьменнік-марыніст Адам Дзмітрыеў. У 1912 годзе ён скончыў два класы гэтай школы і разам з бацькамі выехаў у Сібір. Праз некалькі год адтуль з'ехалі ў Ленінград.**

Працаваць пачаў у 12-гадовым узросце. Спачатку так званым рассыльным, потым пісарам, рабочым на масларобчым заводзе. Прыняў Савецкую ўладу. У 1922 годзе павятовы камітэт паслаў хлопца вучыцца у Омск, у тамтэйшы камвуз. Пасля яго паспяховага заканчэння працаваў у газеце, потым у рэўкаме, губкаме партыі, упаўнаважаным па зборы харчовых падаткаў.

Пасля Дзмітрыеў добраахвотна пайшоў служыць маракам Далёкаўсходняга флоту. Служыў добра, бо ў 1925 годзе яго перавялі на Балтыку памочнікам камісара крэйсера "Профинтерн". На Балтфлоце і пачалася літаратурная дзейнасць Адама Марцінавіча. Першае сваё апавяданне ён надрукаваў у 1926 годзе ў часопісе "Красный Флот", некалькі пазней — вялікае апавяданне "Крейсер Ниппа".

У 1931 годзе асобную кнігаю выйшла ягоная аповесць "Ёсць весці карабель!", а ў 1934 годзе — кніга "Адмірал Макараў". Другую яе частку Адам Дзмітрыеў напісаць не паспеў, бо цяжка захварэў, а 15 студзеня 1936 года пісьменніка не стала.

У будучы даведнік

# Праца працягваецца

Шмат хто працягвае цікавіцца лёсам будучага даведніка "Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў памежных краінах". Па словах Адама Мальдзіса, колькасць персаналіяў у новым энцыклапедычным даведніку будзе ў два разы большая, чым у папярэднім выданні. Так, раздзел "Беларусы Расіі" будзе ўключаць больш як 1000 новых артыкулаў.

Найбольш цікава напісаныя матэрыялы належаць такім членам аўтарскага калектыву, як Аксана Спрынчан, Галіна Навіцкая (супрацоўнік таварыства "Радзіма"), Святлана Карпучок (карэктар газеты "Звязда"). Сярод актыўных аўтараў допісаў — паэты Ізяслаў Катляроў і Соф'я Шах, якія знайшлі звесткі пра больш як 20 нашых суайчыннікаў (навукоўцы, вайскоўцы, бізнесмены). Матэрыялы ў прамым сэнсе паступалі з розных куткоў — ад Калінінграда да Уладзівастока. Калі браць памежныя краіны, то найбольш матэрыялаў, як ні дзіўна, паступіла з Сібіры (Томск, Цюмень, Новасібірск) і Санкт-Пецярбурга, а таксама з Літвы.

З Брэста прыйшоў ліст з просьбай выкарыстаць матэрыялы з будучага даведніка для стварэння аналагічнага выдання пра суайчыннікаў з Берасцейшчыны і іх нашчадкаў.

Аўтарскі калектыў ужо скончыў працу, пачынаецца выдавецкая стадыя. Фундатары выдання — грамадскае аб'яднанне "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў" і "Федэральная нацыянальна-культурная аўтаномія "Беларусы Расіі". Даведнік павінен пабачыць свет у выдавецтве "Кнігазбор".

Алеся ЛАПЦКАЯ



Вячка ЦЕЛЕШ

**Ганна Міхайлаўна ПЕЙПІНЯ (19.03.1954 г., в. Новае Заліцьвінне Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці), мастачка.**

У 1969 г. скончыла Хвайніцкую васьмігодку і паступіла ў Мастацкае гарадское прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча № 15 у Бабруйску, якое скончыла ў 1973 г. са спецыяльнасцю мастака па росліcе сувеніраў. З 1975 г. па 1978 г. працавала мастаком-афарміцелем на Бабруйскім дрэваапрацоўчым аб'яднанні ФАНДОК.

У 1977 г. Ганна прыехала да сястры ў Латвію, у г. Краславу, дзе засталася працаваць мастаком-афарміцелем на заводзе па вырабе сухога абястлушчанага малака. З 1982 г. па 1985 г. вяла сувенірны гурток у Доме дзіцячай творчасці Краславы. Менавіта ў Краславе, з Рэспубліканскай выстаўкі "Дні мастацтва ў Латвіі", дзе мастачка выставіла свае жывапісныя работы ў 1985 г., пачаўся творчы шлях Ганны Пейпіні. Мастачка займаецца жывапісам. Першая персанальная выстаўка адбылася ў 1997 г. у г. Даўгаўпілсе. На працягу творчага шляху персанальныя выстаўкі Ганны Пейпіні адбыліся ў Краславе, Рызе, а ў 2003 г. у Парыжы ў "Galerie Natalie Boldyref". У 2003 г. і 2004 г. яна ўдзельнічала ў 3-й і 4-й выстаўках Латвійскіх мастакоў у Віцебску. З 2000 г. жыве ў Рызе. З 2002 г. — сябра Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар" і актыўны ўдзельнік мерапрыемстваў Латвійскага таварыства беларускай культуры Латвіі "Світанак". З 2006 г. сябра Саюза мастакоў Латвіі.

**Вядучы праекта — прафесар, доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс**

**Эльжбета Міхальска нарадзілася ў 1971 годзе. Жыве і працуе ў Златарыі (Рэспубліка Польшча). Аўтарка адметных паэтычных кніг "Тут гэта Тут, Там гэта Там", "Усё" і іншых, што ў розны час пабачылі свет у польскіх выдавецтвах. Яе паэзія пазбаўлена манерных падробак і гульні; наадварот, радкам уласціва свядомая іронія і, што яшчэ прывабней, — шчымлівая адкрытасць чытацкаму сэрцу. І нездарма некалі яна прызналася: "Добра хаця б аднойчы ў жыцці быць паэткай".**

**Юрка ГОЛУБ**

**Эльжбета МІХАЛЬСКА**



Фота Аксаны Спрынчан

### *Псіхалагічнае*

*Не можаш уяўляць*
*дык усюды бачыш*
*толькі хмары*
*а я штораз натыкаюся*
*на ведзьмакоў, дэманаў, дэпрэсію*
*а калі б здольная была як ты*
*бачыць воблакі і далячынь*
*сказала б сабе —*
*я нармалёвая*
*адчапіцеся ад мяне!*

### *Навошта жыць*

*Калакоўскі напісаў*
*у нейкай з уласных кніг*
*што жыццё палягае на тым абы жыць.*
*Звычайны рабацяга*
*на скананні ў прытулку*
*запытаны пра тое ж паўтарыў*
*жыццё палягае на тым абы жыць.*

*О вячыстая траса ўцёкаў ад пакут*
*хавай нас час ад часу*
*у канвертах*
*у пячорах*
*у мілаванні*

### *Норвід і я*

*— Калі будзеш чытаць на матэматыцы*
*пад партай вершыкі дык скончыш*
*як той дурань Норвід*
*у прытулку для састарэлых. —*
*Звычайна агалошвае*
*мая пані матэматычка*
*выводзячы чарговую двойку.*
*Колькі праліла*
*я слёз з той пары*
*колькі камянёў разбілася*
*аб маю галаву?*
*Слёзы і камяні — і нічога іншага*
*не чакаю?*

### *Чырвоны клічнік*

*Маленькай дзяўчынкай*
*марыла каб*
*у будучыні як вырасту*
*стацца дрэсіроўшчыцай львоў.*
*Ніколі дрэсіроўшчыцай людзей,*
*Бр-р…*
*Тое прыдатна для адважных.*
*Такі звычайны чалавек*
*нібы прыхільна табе*
*пасміхаецца, ажно адразу*
*ні з таго ні з сяго*
*як не ашчэрыць зяпу,*
*як не рыкне,*
*і не паспееш змікіціць,*
*як ужо адарваў табе галаву.*
*І не толькі слуп юхі*
*раптоўна іргануў да аблокаў —*
*чырвоны клічнік.*
*Каркаломная кропка!*

### *Лічыльнікі*

*Разбэрсала лічыльнікі*
*і змантавала каралі*
*пацерка зялёная*
*пацерка чырвоная*
*пацерка зялёная.*
*Малая прынцэса Дзі*
*з папсутымі зубамі*
*і нахіленая*
*над канапай*
*вешае таблічку множання.*
*Лічы, лічы!*
*Увесь час галава*
*над вырашэннем задання*
*што не мае аніякага сэнсу.*
*Разбэрсала лічыльнікі*
*і склала на сваёй магіле*
*з пацерак крыж.*

### *Дома як дома*

*Пяць гадоў у нашым склепе зімуе рапуха.*
*Імя ёй далі, а як жа інакш — Рапуха!*
*Сёлетняй восенню шматкроць*
*заходжу ў склеп*
*сяджу пасярод бетоннай падлогі*
*і чакаю Гадо.*
*Ужо некалькі разоў заграбала яе ў лісце*
*і клала да сцяны,*
*а яна як вылазіла так і вылазіць.*
*Пачцівая, любая Рапушанька*
*выбрала наш бедны дамок без выгод,*
*ігнаруючы вілу суседзяў.*

### *Вясёлая ўдоўка*

*На магіле мужа садзіць тульпаны.*
*Абапёрты на крыж*
*нарачоны падказвае:*
*— Не піхай па краях,*
*садзі пасярод —*
*зграбна будзе глядзецца,*
*толькі б мароз не сцяў?*
*— Ліха з імі, — абыякава адгукаецца. —*
*Будуць расці дык будуць.*
*А не, дык не!..*

### *Містар свету*

*Мой хлопец найбрыдчэйшы на свеце,*
*усе з мяне пацяшаюцца*
*і кажуць — звыкнешся.*
*Нават пані з сацыяльнай апекі абяцалі*
*сціплы грашовы паёк*
*у выглядзе кампенсацый.*
*Лістаноша, калі спаткаў*
*майго любага ў сенях,*
*дык мала што не званітаваў.*
*Каты фыркаюць,*
*сабакі выюць, дзеці разяўляюць раты,*
*калі ён шпарка дэфілюе па вуліцы,*
*несучы сваю брыдоту.*
*Заўжды паўтараю,*
*як для мяне, дык ён і так дужа ладны,*
*бо як знервуюся, застануся ў адзіноце.*
*А ўчора ў газеце знайшла аб'яву*
*пра выбары найбрыдкага*
*мужчыны свету.*
*Адбор адбудзецца ў Парыжы,*
*паўфінал у Нью-Ёрку,*
*фінал — чорт ведае дзе.*
*Кажу свайму хлопцу:*
*— Стасек, стартуй,*
*павер у сябе!*
*Чалавеча, ты сапраўды*
*маеш вялікі шанц.*
*Калі атрымаеш першую ўзнагароду,*
*дык нарэшце купім буду для трактара*
*і паедзем у шлюбнае падарожжа.*
*Мой хлопец нічога не адказвае,*
*толькі чысціць шкарпэткай шчыліны*
*між пальцамі ў ступнях.*

### *Святы Антоні*

*Святы Антоні,*
*прашу дапамажы мне*
*знайсці мужа.*
*Ён можа быць нават такі, як ты,*
*лысы, салодкі, разгублены, нясмелы*
*у півоневых пялёстках.*
*Нават калі не з крыві і касці,*
*дык няхай будзе*
*з адпушчэнскай аплаткі.*
*Як кірмашовы драўляны пеўнік,*
*што лопае крыламі,*
*а пакуль данясеш дахаты,*
*увесь рассыплецца.*

### *Успамін*

*У піўніцы апроч нас дваіх*
*і гурбы бульбы для гатавання*
*была двухсотватавая жароўня,*
*кот Мурэлкін і любасць,*
*што як шчур пішчала*
*і невядома пра што*
*несла бязглуздзіцу…*
*Божа мілы, з той пары*
*нідзе не знайшла ўжо столькі шчасця,*
*і ніхто не паклаў мне ў руку*
*бульбіну ў форме сэрца.*

**Пераклаў з польскай**
**Юрка ГОЛУБ**

*Дайшла прыемная вестка, што вядомая сербская пісьменніца Нэвена Вітошавіч, якая з вялікай цікавасцю ставіцца да нашай літаратуры і культуры і з намі разам святкавала Дзень беларускага пісьменства ў 2009 годзе, паспяхова абараніла доктарскую дысертацыю на тэму "Роля і значэнне казкі ў тэатры лялек (Тэатр лялек "Пінокіо", 1972—2008 гады)". Апорная тэза дысертацыі: казка — гэта спецыфічны, глыбінна этычны аповед, заснаваны на архетыпічных уяўленнях і мае нібыта спрошчаныя вобразы, якія выяўляюць супрацьпастаўленне "дабро — зло"; ён выкладаецца праз карціны і метафары, элементы анімістычнага і цудадзейнага з намерам маральна-псіхалагічнага выхавання дзіцяці, дзеля чаго казкі звычайна заканчваюцца перамогай (альбо ўслаўленнем) дабра. Паколькі ў рэпертуарах дзіцячых тэатраў казка неадменна займае пераважныя пазіцыі, то даследаванне яе ў абраным аспекце — безумоўна важная справа. Даследчыца Н. Вітошавіч у полі зроку трымала казкі і народныя, і аўтарскія, асэнсоўваючы іх з пункта гледжання гісторыі, тэорыі, а таксама ўласна эстэтыкі, як адметны від сінкрэтычнага мастацтва.*
*Шчыра віншуем нашу дарагую калегу і да віншаванняў дадаём пераклад аднаго невялічкага, але цудоўнага тэксту наваяўленага доктара эстэтыкі.*

**Іван ЧАРОТА**

**Нэвена Вітошавіч**

# Пра паэзію і любоў

Неяк адзін мой прыяцель запытаўся, над чым працую цяпер.

— Пішу "Вершы дасканалай любові", — адказала я.

А ён зазначыў:

— Дасканалая любоў і можа існаваць хіба што ў паэзіі.

А хіба не важней тое, што дасканалая любоў існуе-такі, чым тое, дзе яна існуе? І хіба мы так агрубелі, што паэзію не ўспрымаем як значнае асяроддзе існавання? А хіба мы паэзію чытаем не з-за таго, што яна адкрывае нам найбольшыя ісціны жыцця?

Мой бацька, Драгіша Вітошавіч, нават упэўнена сцвярджаў, што паэзія "з'яўляецца адзінай сапраўднай навукай пра чалавека і свет". А я б сказала, што сваім даследаваннем "Сэнс падабенства ў літаратуры" ён і даказаў гэта.

Для мяне паэзія — найвышэйшая рэальнасць. І маё адзінае сапраўднае прыстанне на Зямлі — дасканалы выраз дасканалай любові.

Як асаблівую каштоўнасць я захоўваю меркаванне адной дзяўчынкі (я пачула яго ад паэта Радаміра Рубакавіча): "Вершы — гэта самыя значныя збудаванні на свеце".

Калі я не магу чагосьці растлумачыць звычайнымі словамі, тады клічу на дапамогу вершы. Цудоўна сказаў у канцы сваёй кароткай аўтабіяграфічнай нататкі Ясенін: "Усе астатнія звесткі пра маё жыццё знаходзяцца ў маіх вершах".

Альберт Эйнштэйн у сваёй містычнай споведзі, між іншым, адзначыў, што чалавек, не здольны здзіўляцца і захапляцца, — нібы мёртвы. А я лічу, што чалавек, не здольны дасканала любіць альбо хоць імкнуцца да любові дасканалай, — нібы мёртвы.

Бо што ж іншае, як не дасканалая любоў, варта таго, каб мы з'явіліся на гэты свет і прынялі ўсе тыя выпрабаванні, якіх у ім нямала?

**Пераклад Івана Чароты**

Анатоль МАЗГОЎ,
фота аўтара

**Барысаўская мастацкая галерэя “З’ява” прадставіла чарговую выстаўку студыі іканапісу і традыцыйных рамёстваў гарадскога Палаца культуры “Заклікаем да вобраза твайго”. На ёй дэманстраваліся навучальныя работы дзіцячай іканапіснай студыі, абразы на дошках, фотарэпрадукцыі абразоў, якія знаходзяцца ў храмах Барысава і Маладзечна, а таксама ткацтва і ручнік з традыцыйнымі ўзорамі.**

# Шлях да духоўнага жыцця



Мастацтвазнаўца галерэі Анжэла Кудакова на адкрыцці экспазіцыі прадставіла выстаўленыя работы, дала магчымасць студыйцам падзяліцца сваімі ўражаннямі паводле заняткаў іканапісам і азнаёміла гледачоў з яго асновамі.

Іканапіс — від выяўленчага мастацтва, які зарадзіўся ў IV стагоддзі ў Візантыі і распаўсюдзіўся на ўвесь хрысціянскі свет. Ён мае культавае прызначэнне, таму яго методыка вызначаецца праваслаўнай іканаграфіяй. У хрысціянскім мастацтве абраз — гэта малюнак твараў Святога пісання: біблейскіх персанажаў і сцэн з жыцця святых. Іконы пісаліся звычайна тэмпернымі фарбамі на драўляных дошках. Нягледзячы на адзіную і нязменную іканаграфію, стыль абразоў часта набываў гістарычныя і рэгіянальныя асаблівасці.

Свая іканапісная школа існавала ў даўнія гады і ў Барысаўскім раёне. Сёння яе духоўныя традыцыі працягвае студыя іканапісу, якая была створана пры гарадскім Палацы культуры ў 1994 годзе па блаславенні плябана Свята-Васкрасенскага кафедральнага сабора протаіерэя айца Іаана Місеюка. На працу з дзецьмі кіраўнікоў студыі Людмілу Макееву і Аляксандра Малчанава блаславіў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт. Кіраўнікі студыі зрабілі абразы ў капліцу Св. Пятра і Феўроніі, на іх рахунку таксама шмат сямейных і імянных абразоў.

Пры студыі існуе аддзел традыцыйных рамёстваў, дзе вывучаецца культурная і духоўная спадчына беларускага народа. Яе наведвальнікі імкнуцца знайсці і захаваць лепшыя ўзоры ручнікоў, маляванак, дробнай пластыкі.

У студыі дзве групы: старэйшая і малодшая. Падчас заняткаў выхаванцы вывучаюць кананічны абраз, тэхналогію іканапісу і спецыфіку працы з традыцыйнымі матэрыяламі, працуюць з узорамі візантыйскага, рускага і беларускага абраза, знаёмяцца з іканаграфіяй і сімволікай іканапісных выявы. У праграме прадугледжана вывучэнне гісторыі іканапісу, жыцій святых, асноў багаслоўя.

Адзін з кіраўнікоў студыі іканапісу і традыцыйных рамёстваў Аляксандр Малчанаў адзначыў, што для шматлікіх юных мастакоў работа над выявамі святых стала шляхам да духоўнага і рэлігійнага жыцця, а некаторыя выхаванцы студыі абралі шлях прафесійных іканапісцаў.

— Апошні раз мы выстаўляліся ў Барысаве ў 2006 годзе. Пасля гэтага было некалькі выставак у Мінску. Для нас важная ўвага нашых землякоў, бо гэта заўсёды вельмі хвалюючы момант. Шматлікія творы нашых студыйцаў знаходзяцца ў прыватных калекцыях і іканастасах цэркваў. У Беларусі былі шырока развіты традыцыі напісання абразоў. Была свая школа і на Барысаўшчыне, адсюль і паходзіць назва вёскі Іканы. Мне даводзілася рэстаўраваць некаторыя абразы барысаўскай школы. Мы імкнёмся аднавіць мясцовыя традыцыі, і не проста іх капіраваць, а стварыць на іх аснове сучасны абраз. Па блаславенні Мітрапаліта Філарэта і вікарыя Мінскай епархіі, біскупа Барысаўскага Веніяміна на базе студыі арганізавана майстэрня пры Барысаўскай епархіі. Спадзяюся, што традыцыя напісання ікон у горадзе на Бярэзіне будзе паднята на больш прафесійны ўзровень, — выказаў упэўненасць Аляксандр Малчанаў.



Вітаючы аўтараў твораў і гледачоў, якія прыйшлі ў галерэю, плябан храма Святой Жыватачатковай Троіцы айцец Георгій зазначыў, што ўсе работы студыйцаў застануцца ў душах і сэрцах прысутных, таму што іканапіс не проста майстэрства, а духоўнае і душэўнае прыцягненне да нябеснага свету, якое з’яўляецца дарам Божым.

Непасрэднасцю і шчырай чысцінёй вее ад работ самых малодшых удзельнікаў студыі. Дзіцячае бачанне кананічных выяў адрозніваецца ад сталага эмацыйнасцю і выразнасцю. У той час як сталыя мастакі імкнуцца адпавядаць нормам і канонам традыцыі, дзіцячая непасрэднасць выяўляе глыбінныя ідэі з дзіцячай прастасцю.

Дзевяцігадовая Маша Папко ўжо некалькі гадоў ходзіць у студыю. Яе ў пяцігадовым узросце сюды прывяла мама — Наталля Папко, якая і сама, гледзячы на поспехі дачкі, нядаўна захапілася іканапісам, прыступіўшы да напісання свайго першага абраза. А ў Машы ўжо ёсць пэўныя дасягненні: яе работа патрапіла на вокладку каталога лепшых работ міжнароднага фэсту-конкурсу “Віфлеемская зорка”. На гэтай выстаўцы экспанаваўся яе навучальны твор “Багародзіца з немаўлём”.

У 2000 годзе студыя атрымала грант Мінскага аблвыканкама для рэалізацыі праграмы “Адраджэнне” па духоўна-асветніцкай рабоце сярод дзяцей і моладзі. Найвышэйшы творчы ўзлёт быў адзначаны ў 2008-м, калі студыйцы атрымалі Гран-пры VII міжнароднага конкурсу-фэсту “Віфлеемская зорка” (г. Масква). Неўзабаве пасля гэтага студыі прысвоілі званне “народнай”. На рахунку калектыву мноства мастацка-асветніцкіх выставак, удзел у фэстах і конкурсах, дапамога ў афармленні храмаў. Іх шматлікія работы знаходзяцца ў розных цэрквах Беларусі.

Сёлета моладзевы склад студыі пад кіраўніцтвам Людмілы Макеевай распісаў чатыры пано для царквы цэнтра рэабілітацыі дзяцей-інвалідаў. Сумеснымі высілкамі сталых і юных студыйцаў былі выкананы абразы для храма Ражства Багародзіцы ў вёсцы Пліса, у цэрквах Барысава і Маладзечна.

***На здымках: навучальная работа Машы Папко “Багародзіца з немаўлём”; кіраўнік студыі Аляксандр Малчанаў.***

**Вядучы праекта — рэдактар аддзела мастацтва Віктар Кавалёў**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай “Дзівасвет”.**



# Не сыходзяць Майстры

Сышоў з жыцця Раман Аляксеевіч Ярохін, самы яркі ў Беларусі прадстаўнік савецкай журналістыкі, які не адзін дзясятак гадоў працаваў у газеце “Советская Белоруссия”. Яго нарысы пра людзей, публікацыі, прысвечаныя праблемам літаратуры і мастацтва, выклікалі найжывейшы водгук чытачоў і часам спрыялі вырашэнню ўзнятых пытанняў на дзяржаўным узроўні. Памятаю, яго артыкул “Камандзіроўка ў глыб часоў” дапамог выратаваць Верхні Замак у Полацку ад знішчэння, а потым — рэстаўраваць Сафійскі сабор.

Сам ён жартам і лёс свой называў камандзіроўкай. У глыб сапраўднага жыцця. У 17 гадоў сібірак Раман Ярохін добраахвотнікам пайшоў на фронт. Ваяваць доўга не давялося: быў моцна кантужаны і, па яго словах, “пушчаны па шпіталях”. З апошняга, у Маскве, прыехаў у Мінск і паступіў на філфак БДУ. Па заканчэнні ён — старэйшы рэдактар выдавецтва “Мастацкая літаратура”, а трохі пазней — ужо загадчык аддзела літаратуры і мастацтва першай партыйнай газеты рэспублікі. Да яго пацягнуліся лепшыя аўтары. Самымі частымі наведвальнікамі кабінета Ярохіна былі Брыль, Быкаў, Шамякін, Танк, Панчанка, Караткевіч, Адамовіч, Міхась Стральцоў, Лучанок, Дабралюбаў… Сяброўства з гэтымі выбітнымі людзьмі падштурхнула Рамана Ярохіна праз шмат гадоў да стварэння іх выдатных літаратурных партрэтаў і выдання ўнікальнай кнігі “Інтанацыя ўздыху”. У прадмове Іван Шамякін пісаў: “Кніга, безумоўна, атрымалася. У ёй ёсць воблік часу, ёсць тое, чым мы жылі і жывём”.

Акрамя “Інтанацыі ўздыху” Раман Ярохін напісаў кнігу “Дзяўчаты нашы за Вердэнам” — пра ўдзел беларускіх дзяўчат у французскім Супраціве ў гады Другой сусветнай вайны (да Ярохіна гэтыя факты, пра якія ён дазнаўся, знаходзячыся ў паездцы па Францыі, былі абсалютна невядомыя). А яшчэ адну мы напісалі разам — “Сэрца памятае”. І вось зусім нядаўна, за два месяцы да смерці, ён прапанаваў “Нёману” свой апошні нарыс “Рукапісы не гараць” пра невядомую гісторыю з партызанскага руху ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай. Праз тыдзень ён з’явіцца на старонках 5-га нумара часопіса “Нёман”, і чытачы ўбачаць, як молада можна пісаць на 86-м годзе жыцця!

Нішто так не вучыць, як асабісты прыклад настаўніка. Напэўна, таму вакол Рамана Ярохіна ўвесь час збіраліся не толькі вялікія, але і зусім маладыя людзі, якія толькі пачыналі свой творчы шлях. Так міжвольна фармавалася цэлая школа, якая дала пасля новыя яркія імёны: Сяргей Пяткоўскі, Святлана Палякова, Вольга Ягорава…

Так, рукапісы не гараць, і не сыходзяць Майстры, якія іх ствараюць.

Мы сыходзім з жыцця з апошнім, хто любіць нас. А значыць, памяць пра цябе, дарагі сябар і калега, будзе жыць у нашых сэрцах вечна.

**Юрый САПАЖКОЎ**

## Афарызм

*Неба адкрыта кожнаму.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці паэта і перакладчыка Валерыя Сцяпанавіча МАСКАЛЕНКІ і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”**
**Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага
рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
“Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1500 рублёў
Наклад — 3032
Умоўна друк.
арк. 3,72
Нумар падпісаны
ў друк
12.05.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне
№ 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2205
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-6686